## Ад рэдакцыі

*«Народ сябе пазнаць павінен!*
*Народ — не зборышча, не гурт.*
*Ён мусіць мець — інакш загіне! —*
*Усведамлення цвёрды грунт.*

*Калі ён сам сябе ўсвядоміў,*
*Сваю гісторыю, свой лёс,*
*Свае правы ва ўласным доме,*
*Тады — народ, тады — ён ёсць.*

*Тады не страшныя і здрайцы,*
*Што дзеля славы і выгод —*
*Адно ім лейцы ў рукі дайце —*
*Гатовы плюндрыць свой народ.*

*Сатрапы кормяць адшчапенцаў,*
*Каб нам даводзілі, што мы*
*Не маем права спадкаемцаў*
*Ані на што — апроч турмы!*

*Сатрапы знаюць і шалопяць,*
*Што на шляхах дабра і зла*
*У нас не толькі гразь ды копаць —*
*У нас Гісторыя была!..*

*...Лакейства плодзячы са смакам,*
*Яны не знаюць аднаго:*
*Хто хлеб дае чужым сабакам —*
*Свае забрэшуць на таго!..»*

Гэтыя радкі з рамана ў вершах «Родныя дзеці» народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча былі ўпершыню апублікаваныя ў далёкім ужо 1985 годзе. Але актуальнасці анітрохі не страцілі і дагэтуль. Таму і мы сёння, выдаючы часопіс «Наша гісторыя», кіруемся адной мэтай: каб беларусы ведалі і разумелі сваю гісторыю і глядзелі на яе сваімі вачыма, а не праз прызму інтарэсаў іншых народаў.

Гэты, 36-ы ад пачатку выхаду і 7-ы за 2021 год, нумар адкрываецца тэмай Паўночнай вайны пачатку XVIII стагоддзя. Для беларусаў гэта быў адзін з самых трагічных перыядаў гісторыі, наша краіна тады стала арэнай змагання чужых інтарэсаў, іншых дзяржаў. Пра гэта — у артыкулах кандыдата гістарычных навук Міколы Волкава і Андрэя Скурко (**старонкі 4–15**).

**Наша Гісторыя**
7/2021

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Тацяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — руіны замка ў Навагрудку. Фота ChamilleWhite, depositphotos.com.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 28.07.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 1726.
Наклад 4200.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Дзівімакс». Вул. Аэрадромная 125, пам. 5В, 220007, г. Мінск. УНП 190147176. ЛД 02330/53 ад 14.02.2014. Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/44 ад 18.02.2014 г.















Тэлефон для кантакта

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце)

Даслаць на адрас 220004, Мінск, а/с 62
не пазней за апошні дзень месяца,
што папярэднічае месяцу, на які вы падпісваецеся.




54


72


23


46


88



**Руіны Наваградскага замка лічацца адным з сімвалаў трагічных стратаў Беларусі падчас Паўночнай вайны.** Хоць насамрэч гэта міф: у той вайне акурат гэты замак не пацярпеў, яго выкарыстоўвалі да канца XVIII стагоддзя. Што не адмяняе іншых вялізарных страт, нанесеных той вайной: узарваны Сафійскі сабор у Полацку, знішчаныя замкі ў Нясвіжы і Міры.

# «Воласць трайной экзекуцыяй мучаюць...»

## Як беларускія землі ляглі на алтар перамогі Пятра I над Карлам XII

**Вялікая Паўночная вайна, якая трывала ў нашай частцы Еўропы з 1700 па 1721 год, скараціла насельніцтва беларускіх земляў на траціну. Чаму так адбылося, разбіраецца кандыдат гістарычных навук Мікола Волкаў.**

### Жоўкаўскі план

З найбольш значных падзей, якія адбыліся падчас той вайны на нашых землях, беларусы найперш прыгадаюць бітву пад Лясной 9 кастрычніка 1708 года — «маці Палтаўскай баталіі», па словах расійскага цара Пятра I. Куды менш вядома, што паражэнне шведаў у гэтых абедзвюх бітвах стала непасрэдным вынікам агульнай стратэгіі, прынятай расійскім вайсковым камандаваннем для змагання з імі на беларускіх землях.




Пасля заняцця шведамі Саксоніі летам 1706 года Аўгуст II як курфюрст і па сумяшчальніцтве кароль Рэчы Паспалітай (гл. пра яго артыкул Кірыла Карлюка ў № 5/2020 «Нашай гісторыі») адмовіўся ад кароны Рэчы Паспалітай і мусіў выдаць кантрыбуцыю шведскаму манарху Карлу XII. Аўтарытэт Карла пасля таго значна ўзрос, а Пётр I застаўся фактычна адзіным, хто працягваў ваяваць са Швецыяй. Царскія дыпламаты пачалі ў такіх умовах рабіць крокі, каб заключыць перамір'е, аднак яны правалiліся, у тым ліку з-за асабістых амбіцый Карла XII.

**Вялікая Паўночная вайна** вялася ў 1700–1721 гадах у асноўным паміж Расіяй і Швецыяй, хоць абедзве краіны стваралі таксама кааліцыі з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі. На кон у ёй было пастаўлена панаванне ва Усходняй Прыбалтыцы і на Балтыйскім моры, але баявыя дзеянні часта вяліся за межамі гэтага рэгіёна. Рэч Паспалітая фактычна мусіла ўступіць у вайну неўзабаве пасля яе пачатку, бо тагачасны яе кароль Аўгуст II далучыўся да скіраванага супраць Швецыі Паўночнага саюза з Расіяй і Даніяй як саксонскі курфюрст. З 1702 года ваенныя дзеянні вяліся і на яе тэрыторыі. Афіцыйна ж Рэч Паспалітая далучылася да Паўночнага саюза толькі ў 1704 годзе.

Ваенныя дзеянні ішлі з пераменным поспехам. Спачатку яны складваліся на карысць Швецыі, а пасля ініцыятыва перайшла да Расіі. У 1721 годзе быў заключаны Ніштацкі мір, які зафіксаваў перамогу ў вайне Расіі. Яна вярнула сабе страчаны за 100 гадоў да таго выхад да Балтыйскага мора, уключыла ў свой склад новыя тэрыторыі. Менавіта пасля той вайны гэтая дзяржава стала называцца Расійскай імперыяй і стала паўнапраўным гульцом еўрапейскай палітыкі. Швецыя ж назаўсёды статус вялікай дзяржавы страціла.

Шведскі кароль прагнуў генеральнай бітвы і поўнага разгрому расійскіх войскаў, каб яго перамога была абсалютнай.

Расійскаму вайсковаму камандаванню нічога не заставалася, як пачаць распрацоўваць план абароны ад шведаў. У красавіку 1707-га ў Жоўкве на Украіне (цяперашняя Львоўская вобласць) адбылася нарада на чале з Пятром I. На ёй быў выпрацаваны т. зв. «Жоўкаўскі план», у якім сфармуляваныя асноўныя прынцыпы вядзення будучай ваеннай кампаніі. Ёй планавалася надаць цалкам абарончы характар.

Расіяне лічылі небяспечным правядзенне генеральнай бітвы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, бо ў выпадку няўдачы для іх ускладнялася б магчымасць адступлення і рэарганізацыі арміі. Лініяй абароны супраць шведаў павінен быў стаць Дняпро.

Тэрыторыю ж Рэчы Паспалітай Пётр I планаваў выкарыстаць у якасці буфера для знясільвання арміі Карла XII. На шляху руху шведаў меркавалася забіраць ці знішчаць усе наяўныя ў насельніцтва харчовыя прыпасы і фураж, а іх армію пастаянна турбаваць невялікімі нападамі, не ўступаючы ў генеральную бітву. Такім чынам, беларускія землі, праз якія пралягала ▸




**Карл XII, кароль Швецыі.** Партрэт Давіда фон Крафта, 1707 год.

▶ дарога на Маскву, мусілі быць прынесеныя ў ахвяру для перамогі над шведамі.

### Рэквізіцыі і кантрыбуцыі

У лістападзе 1707 года Карл XII з 34-тысячнай арміяй, раскватараванай перад тым у падпарадкаванай шведамі Саксоніі, падышоў да Віслы. Ужо на тэрыторыі Польшчы шведы адчулі праблемы з забеспячэннем арміі, паколькі яшчэ летам расійскія войскі сталі метадычна рабаваць польскія землі. У сваю чаргу, і шведы праводзілі жорсткія рэквізіцыі ў мясцовага насельніцтва, імкнучыся «кампенсаваць» недахопы.

**Аўгуст II афіцыйна дазволіў Расіі ўвесці на тэрыторыю Рэчы Паспалітай армію і ўтрымліваць яе за кошт мясцовага насельніцтва**

У канцы студзеня 1708-га Карл XII выйшаў да Горадні, якую незадоўга да гэтага пакінуў Пётр I. Чакаючы рэшту сваёй арміі, шведскі кароль некаторы час прастаяў у разрабаваным і спустошаным горадзе. Неўзабаве ён ізноў рушыў на ўсход, спрабуючы дагнаць цара. Але ва ўмовах лютых маразоў, дайшоўшы да Смаргоні, шведская армія ўрэшце была вымушана спыніцца і стаць на зімовыя кватэры.

Карыстаючыся заняпадам палітычнай улады ў Рэчы Паспалітай, Пётр I адчуваў сябе на беларускіх землях поўным гаспадаром. Бо яшчэ ў 1704-м Аўгуст II падпісаў з царом дамову аб сумесных наступальных і абарончых дзеяннях, згодна з якой Пётр I абавязваўся ўвесці на тэрыторыю Рэчы Паспалітай сваю армію і мог утрымліваць яе за кошт мясцовага насельніцтва. Такім чынам, Расія тады ад самога караля афіцыйна атрымала права весці ваенныя дзеянні на землях Рэчы Паспалітай і накладаць на яе жыхароў кантрыбуцыі на патрэбы сваёй арміі.

Падчас шведскага наступлення 1707–1708 гадоў, у адпаведнасці з Жоўкаўскім планам, Пётр I наўпрост загадваў сваім войскам: «Хлеб, які стаіць на полі і ў гумнах, паліць не шкадуючы, сабраны вывозіць, пры немагчымасці хаваць, млыны і жорны закапаць у зямлю, каб хлеба не было чым малоць, будынкі і масты псаваць, лясы засякаць. А калі хто павязе да непрыяцеля, хоць і за грошы, будзе павешаны». Асаблівая ўвага надавалася маёнткам тых, хто падтрымліваў шведаў. Яны лічыліся варожымі і падлягалі спусташэнню.

### Стратэгія знясільвання дае плён

Вясна і лета 1708 года выдаліся дажджлівымі, што не спрыяла правядзенню ваенных аперацый. Тым не менш 5 чэрвеня армія Карла XII знялася з зімовых кватэр і рушыла ў наступленне ў кірунку Смаленска. Тады ж генералуАдаму Людвігу Левенгаўпту, які са значнымі вайсковымі сіламі стаяў у Рызе, быў аддадзены загад рухацца на злучэнне з каралём, каб умацаваць яго армію. Расійская армія стаяла ўздоўж Дняпра ў раёне Оршы, Шклова і Магілёва.

Усяго Пётр I здолеў сканцэнтраваць «на беларускім напрамку» больш за 70 тыс. жаўнераў рэгулярнага войска і 10 тыс. казакоў і калмыкаў. Але, нягледзячы на больш чым двухразовую колькасную перавагу праціўніка, Карл XII здолеў смелым ударам узламаць расійскую абарону на Дняпры. 14 ліпеня ў бітве пад Галоўчынам 12-тысячны корпус Карла XII перамог і прымусіў адступіць


WIKIMEDIA COMMONS

38-тысячнае злучэнне расійскіх войскаў.

Але перамога была толькі часовая. Землі, па якіх ішлі шведы, былі цалкам спустошаныя, што прывяло да праблем з забеспячэннем іх арміі. Менавіта таму пасля шэрагу сутычак з расійскімі войскамі, якія занялі абарончыя пазіцыі на мяжы ВКЛ і Расіі і працягвалі ўхіляцца ад буйнамаштабнай бітвы, Карл XII прыняў рашэнне рухацца на ўкраінскія землі. Там з дапамогай новага саюзніка, казацкага гетмана Івана Мазепы, Карл XII спадзяваўся паправіць становішча сваёй арміі. За ім пайшоў і корпус Адама Левенгаўпта, які не паспеў дагнаць караля і 9 кастрычніка быў разбіты ў бітве пад Лясной.

Стратэгія знясільвання арміі Карла XII, якая рэалізоўвалася расіянамі на беларускіх землях у 1707–1708 гадах, аказалася вельмі эфектыўнай. Баявы дух шведскіх жаўнераў, змучаных доўгай пагоняй за непрыяцелем, істотна знізіўся. Адпачынку і дастатковых прыпасаў шведы на Украіне не знайшлі і былі вымушаныя ў паходных умовах перажыць цяжкую зіму. У выніку вясной 1709-га ў арміі Карла XII засталося ўсяго 23 тыс. жаўнераў. Неўзабаве яна трапіла ў стратэгічнае акружэнне, а 8 ліпеня 1709 года была разбітая пад Палтавай.



**Бітва пад Лясной.** Жан Марк Нацье, 1717 год. Лясная — гэта вёска на Магілёўшчыне, а бітва адбылася 28 верасня 1708 года.

**100 тысяч расійскіх і шведскіх жаўнераў за адзін толькі год страшэнна спустошылі беларускія землі**

Такім чынам, у 1708 годзе на беларускіх землях знаходзілася больш за 100 тыс. расійскіх і шведскіх жаўнераў, без уліку мясцовых вайсковых фармаванняў. Гэта прывяло да страшэннага спусташэння зямель і вычарпання рэсурсаў мясцовага насельніцтва.

### «Цяжка выказаць, як людзей мардуюць...»

Найлепш адчуць подых той вайны ў Беларусі і ацаніць яе характар магчыма, калі звярнуцца да мікраўзроўню. Тым больш што багаты архіўны матэрыял захаваўся па Мірскім графстве князёў Радзівілаў.

Ужо з 1698 года праз Мір пачалі праходзіць розныя войскі, ад якіх даводзілася так ці інакш адкупацца. Спачатку гэта былі «свае»: саксонцы і харугвы Вялікага Княства Літоўскага. А сапраўдная вайна прыйшла ►




**План сутычак шведскай і расійскай армій у раёне рэчкі Белая Натопа на Мсціслаўшчыне 10 верасня 1708 года.** На плане добра бачная абарончая тактыка расійскіх войскаў, якія не наважваліся даць генеральную бітву шведскай арміі і займалі пазіцыі ўздоўж рэк ды блакавалі пераправы цераз іх.

сюды ў маі-чэрвені 1702 года, калі ў Наваградскае ваяводства ўвайшло шведскае войска.

Уначы шведы «як непрыяцелі» нечакана ўварваліся ў Мір і пабралі ў закладнікі багацейшых мяшчан, у тым ліку адміністратара графства Яна Крыер-Ваеўскага. Іх завялі ў вайсковы лагер і запатрабавалі выдаць гадавы прыбытак з мястэчка і графства. Атрымаўшы кантрыбуцыю, шведы адышлі, а на працягу некалькіх наступных гадоў з насельніцтва графства шматразова збіралі сродкі розныя харугвы войска ВКЛ. З 1705-га да іх далучыліся расійскія жаўнеры. Як пісаў Ян Крыер-Ваеўскі, «воласць трайной экзекуцыяй мучаюць».

Зімой 1705–1706 гадоў у ВКЛ ізноў увайшла шведская армія, а вясной 1706-га шведы цалкам спалі Свержань, які належаў да Мірскага графства. Сам Мір удалося ўратаваць праз вялікі выкуп. Пасля радзівілаўскія маёнткі сталі мучаць саксонскія аддзелы Аўгуста II. Наступствам спусташэнняў і праходаў значнай колькасці войскаў стала эпідэмія, якая лютавала зімой 1706–1707 гадоў.

Але найцяжэйшыя часы былі яшчэ наперадзе. З лютага 1707-га ў Мір і блізкі Нясвіж пачалі наведвацца расійскія войскі, прычым дзейнічалі яны даволі жорстка. Нясвіжскі адміністратар Ежы Таўрыловіч пісаў: «Каб маглі, агнём бы ўсё спалілі, жадаючы нічога не пакінуць».

Так на практыцы выглядаў Жоўкаўскі план па спусташэнні тэрыторый, якія знаходзіліся на меркаваным маршруце руху шведскай арміі. Прычынай такіх жорсткіх дзеянняў таксама быў пераход пасля падзей 1706 года ўладальніка Міра і Нясвіжа Караля Станіслава Радзівіла на шведскі бок, пра што хутка даведалася расійскае камандаванне.

Рабаваць жыхароў Мірскага графства расійскія вайскоўцы працягвалі да пачатку вясны 1708 года: «Тых, хто не мог схавацца, мучалі, білі, пяклі, кожны мусіў пра сваё апошняе дабро распавесці і аддаць». А пасля да іх далучыліся яшчэ і атрады Грыгорыя Антонія Агінскага, аднаго з лідараў прарасійскай партыі ў ВКЛ. Іх дзеянні былі не менш жорсткімі: «Цяжка выказаць, як людзей мардуюць, рабуюць, адбіраюць усё, што могуць знайсці».

Прыход шведаў, якіх падтрымліваў уладальнік графства, не выратаваў яго жыхароў, бо жаўнерам Карла XII не хапала правіянту і яны здабывалі яго сілай: «Паўсюль па закутках распусцілі [жаўнераў]... Лясы запальваюць, каб людзі ў іх не хаваліся. Бортныя дрэвы ссякаюць, шукаючы ў іх складзеныя рэчы. Дзе каго зловяць — б'юць, мучаюць, каб вывеў на табар». Невыносныя ўмовы жыцця прывялі да эскалацыі гвалту: «Ужо голад паміж людзей немалы, паміраюць вельмі густа. Сяляне, сабраўшыся, разыходзяцца, бо не маюць з чаго жыць. І шведаў забіваюць. Пад самым Свержанем, як вада сышла, шведы знайшлі ўтопленага шведа з вялікім каменем, прывязаным да шыі».

У чэрвені шведы адышлі далей на ўсход, а за імі саюзныя Карлу XII харугвы войскаў Рэчы





**Пётр I, расійскі цар.** Гравюра Пітэра ван дэн Берге паводле карціны Готфрыда Кнелера. Амстэрдам, 1698 год.

Паспалітай, якія ў чарговы раз разагналі падданых. Пры гэтым у Міры дакладна не ведалі пра далейшыя планы шведаў і баяліся, што тыя адступяць назад у Саксонію, а за імі прыйдуць расійскія войскі, якія зноў «возьмуць у абарот» радзівілаўскія маёнткі.

### Голад і эпідэміі

Перамога расійскай арміі пад Палтавай не паспрыяла змене становішча насельніцтва беларускіх зямель да лепшага. А імкненне Пятра I распаўсюдзіць ваенныя дзеянні супраць шведаў далей у Балтыйскім рэгіёне спрыялі яшчэ большаму ўзмацненню нагрузкі на беларусаў. У Мірскае графства расіяне вярнуліся ўвосень 1709-га і працягвалі забіраць правіянт ад мясцовых жыхароў прынамсі да 1718 года.

З-за шматлікіх рэквізіцый, змяншэння плошчы пасеваў і неўраджаяў зімой 1709–1710 гадоў у радзівілаўскія маёнткі прыйшоў вялікі голад. А за ім — эпідэмія чумы, якая апанавала ўвесь Балтыйскі рэгіён, яе разносілі салдаты.

Пра становішча Мірскага графства ў красавіку 1710-га мясцовы адміністратар Ян Казімір Барташэўскі пісаў: «Хваробы панавалі вельмі вялікія ў гэтыя часы, і цяпер тое ж самае. У мястэчку вымерла больш за 100 чалавек, якія жывуць у дамах. А тутэйшых убогіх жабракоў, якія прыйшлі з розных бакоў, знаходзілі памерлымі з голаду ў яўрэйскіх, хрысціянскіх печках, каля крамаў, каля будынкаў па некалькі дзясяткаў. Іх закапалі разам у адной яме».

## За голадам прыйшла эпідэмія чумы

Эпідэмія не сунімалася ўвесь 1710 год. Сяляне зачыняліся ў сваіх вёсках або кідалі іх і сыходзілі ў лясы. Тое ж, каб ўратаваць свае жыцці, зрабіла і значная частка мяшчан. Аднак суцішыць хвалю захворванняў не ўдавалася. У канцы кастрычніка Барташэўскі пісаў наступнае: «У Міры багацейшыя мяшчане і яўрэі ў розныя бакі павыязджалі ў лясы, але і там смерць не шкадуе, забірае часта... Вёска Радунь, за паўмілі ад Міра, была найбольшая і найлепшая па прыбытках, а цяпер у ёй усе вымерлі, у цяперашні час толькі некалькіх людзей відаць».

Пераадоленню эпідэміі перашкаджалі расійскія войскі, ▸

бо жаўнеры разносілі хваробы, а забіраючы прадукты, даводзілі жыхароў да голаду. Радзівілаўскія адміністратары спрабавалі выпрасіць літасці, але пазіцыя расійскіх вайскоўцаў была жорсткай. А ўвосень 1711-га да кантрыбуцый на карысць жаўнераў дадаліся яшчэ дзве прыродныя бяды: саранча і падзеж жывёлы. У выніку, як пісаў Ежы Таўрыловіч, сялянам засталіся толькі «голад і слёзы».

### А гарады палілі

Паказальным таксама з'яўляецца лёс горада Магілёва. З пачаткам вайны значна ўзрос падатковы цяжар на жыхароў горада, да якога дадаваліся кантрыбуцыі на карысць вайсковых часцей. Асабліва цяжкім быў 1707 год, калі ў рэгіёне былі сканцэнтраваныя значныя расійскія вайсковыя сілы. У самім Магілёве вясной на доўгі час спыніўся фаварыт Пятра I Аляксандр Меншыкаў, які не хаваў намеру спаліць горад пры набліжэнні шведаў. Аднак праз дарагія падарункі і выплату вялікай кантрыбуцыі гараджанам удалося яго залагодзіць. 7 ліпеня 1708 года горад занялі шведы, якія заставаліся ў ім больш за месяц. Магілёў быў буйнейшым гаспадарчым цэнтрам у Падняпроўі, таму размяшчэнне ў ім дазваляла некаторы час забяспечваць патрэбы арміі. Пры гэтым з мяшчан выцягвалася ўсё, што не выбралі папярэднікі.




**Палаючая вёска з выявы бітвы пад Жарнавам 16 верасня 1655 года.** Гравюра Наэля Рабера Кашэна паводле малюнка Эрыка Дальберга з кнігі Самуэля Пуфендорфа «De rebus a Carolo Gustavo gestis…», Нюрнберг, 1696 год.



Урэшце ў жніўні Карл XII рушыў у бок Мсціслава, прагнучы генеральнай бітвы з арміяй Пятра I. Але расійскія войскі надалей працягвалі ўхіляцца ад бітвы, таму шведскае камандаванне разглядала варыянт вяртання ў Магілёў, каб там дачакацца дапаможнага корпуса. Каб не дапусціць гэтага, расіяне прынялі рашэнне спустошыць рэгіён цалкам. 8 верасня Магілёў абкружылі расійскія аддзелы, якія далі жыхарам гадзіну, каб пакінуць горад. Пасля гэтага было разрабавана тое, што мяшчане не змаглі вывезці ці схаваць, а горад урэшце запалілі. Падобным чынам расійскія войскі спалілі таксама Віцебск, Дуброўну, Оршу і Горкі.

Такім чынам, Вялікая Паўночная вайна прывяла Беларусь да дэмаграфічнай катастрофы, хоць нібыта з мясцовым насельніцтвам ніхто наўпрост не ваяваў. Тактыка «выпаленай зямлі» аслабіла армію Карла XII. Але значна больш за жаўнераў і палітыкаў пацярпелі простыя людзі.

**Пётр I.** Партрэт Пітэра ван дэр Вэрфа, 1690-я.

WIKIMEDIA COMMONS

# Парадаксальны Пётр

**Факты пра першага імператара Расіі, якія змянілі расклад сілаў ва Усходняй Эўропе, сабраў Андрэй Скурко.**

## Цараваў 43 гады

За ўсю гісторыю існавання расійскай дзяржавы найдаўжэй кіравалі тры цары: Іван III Вялікі (1462–1505), пры якім Масква вызвалілася ад татараў, Іван IV Жахлівы (1533–1584), пры якім яна павярнула да абсалютызму, і Пётр I (1682–1725), пры якім Расія стала імперыяй.

Пётр Аляксеевіч Раманаў, абвешчаны царом у 10 гадоў, цараваў 43 гады, з якіх 36 — аднаасобна. За гэты час Расія змянілася непазнавальна.

## Увайшоў у фальклор

Пётр I адзін з самых культавых і міфалагізаваных расійскіх цароў. Яго вобраз трапіў у масавую культуру, анекдоты, казкі, небыліцы не толькі рускага, але і суседніх народаў дзякуючы дамінаванню расійскай культуры і гісторыі спачатку ў імперыі, пасля ў СССР.

Яшчэ і сёння ў Беларусі можна пачуць, напрыклад, што менавіта Пётр I у 1699 годзе распарадзіўся святкаваць Новы год 1 студзеня і замяніў у нас летазлічэнне «ад стварэння свету» на сучаснае. Хоць пачатак новага года з 1 студзеня і летазлічэнне ад Нараджэння Хрыстова ў Вялікім Княстве Літоўскім практыкавалі з XIV стагоддзя, а ў пачатку XVIII-га Пётр I быў не ўладаром нашых продкаў, а царом суседняй дзяржавы.

## Прадказанне Сімяона Полацкага

Першы міф пра Пятра быў звязаны з яго нараджэннем. Пётр быў 14-м дзіцём маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча і адначасова — яго першынцам ад другога шлюбу з Наталляй Нарышкінай. Нібыта яшчэ ў дзень зачацця яго з’яўленне ►

на свет прадказаў Сімяон Полацкі, выхавальнік царскіх дзяцей, прывезены з паходу Аляксея Міхайлавіча на беларускія землі. Пабачыўшы незвычайнае спалучэнне зорак, Сімяон паведаміў цару, што царыца панесла і народзіць сына, які здабудзе вялікую славу і, сярод іншага, пераможа турак. Найверагодней, легенда ўзнікла ўжо ў часы пятроўскіх рэформаў і паходаў на Крым і Азоў, а мо і ў часы Кацярыны II, калі пачаў ствараіцца культ асобы Пятра.

### Бацьку Пётр наўрад ці запомніў

48-гадовы Аляксей Міхайлавіч сканаў, калі сыну былі няпоўныя 4 гады. Ранняя смерць бацькі змяніла статус яго малодшых дзяцей. З улюбёнага спадкаемца Пётр ператварыўся ў небяспечнага канкурэнта. Царом стаў Фёдар, зводны брат Пятра ад першай жонкі. Разам з ім да ўлады прыйшлі сваякі яго маці, Марыі Міласлаўскай.

### Брат Пятра Фёдар — самы недаацэнены маскоўскі цар

Пра яго звычайна пішуць толькі, што ён быў хваравіты і рана памёр, пакіраваўшы ўсяго шэсць гадоў. Тым часам гэты ціхі кніжнік меў волю, каб зламаць хрыбет адной з найбольшых заган маскоўскай палітычнай сістэмы — месніцтву. Гэты звычай прызначаць на адказныя пасады людзей не адпаведна здольнасцям, а па заслугах продкаў, спараджаў пастаянны хаос і варажнечу між высакароднымі фаміліямі.

Пры цару Фёдару таксама рэфармавалі войска, павялічваючы колькасць рэгулярных палкоў новага складу, ліберальна ставіліся да заходняй вопраткі, склалі правобраз «табеля аб рангах» — іерархіі вайсковых і цывільных пасад у дзяржаве. І многія наваўвядзенні Фёдар пачынаў не сам, а працягваў распачатае бацькам, як і Пётр пасля.

Нават першы марскі карабель у Расіі збудавалі яшчэ пры Аляксею Міхайлавічу. Праўда, ён так і згніў у волжскай затоцы: плысці на ім не было куды, дый не было каму. Нешта падобнае на тое, як Рабінзон Круза не змог спусціць на ваду аграмадную лодку, зробленую далёка ад берага.

Іншымі словамі, Пётр I не быў, як яго часам паказваюць, рэфарматарам-рэвалюцыянерам на роўным месцы, які нечакана «ўздыбіў» косную Масковію. У грамадстве быў запыт на рэформы, яны ішлі няспешным эвалюцыйным шляхам, і, хто ведае, можа быць, «уздыбліванне» адыграла тут негатыўную ролю, скрывіўшы нармальныя эвалюцыйныя працэсы.




**Старэйшых братоў і сясцёр Пятра вучыў Сімяон Полацкі і яго наступнікі.** А будучы імператар вучыўся чытаць па вось такіх карцінках і ўсё жыццё кіраваўся прынцыпам «як чуецца, так і пішацца». У той час у Маскве былі вельмі папулярнымі лубкі гравёра з Дуброўны Васіля Кораня.

Магчыма, меў тут значэнне і спецыфічны склад розуму Пятра, які лепей бачыў дэталі, чым агульную карціну.

### Не атрымаў належнай адукацыі

Хоць Пётр і ягоная маці былі ў апале, цар Фёдар усё ж клапаціўся пра тое, каб малы брат не вырас невукам. Праўда, у адрозненне ад старэйшых братоў і сясцёр, Пётр не атрымаў схаластычнай гуманітарнай адукацыі, накшталт той, якая практыкавалася ў Рэчы Паспалітай.

У тагачаснай Расіі царскія дзеці вывучалі граматыку, паэтыку, рыторыку, дыялектыку і філасофію, лаціну, грэчаскую ды польскую мовы. Але калі прыйшоў час вучыцца Пятру, патрыярх маскоўскі Іаакім пачаў змаганне з празаходнімі ўплывамі ў адукацыі і адціснуў вучняў Сімяона Полацкага ад выхавання царскіх дзяцей.

Чытаць і пісаць Пятра ў выніку вучыў дзяк Мікіта Зотаў — найбольш на прыкладзе купленых на кірмашы пацешных лубкоў. Зотаў быў не экстра-спецыялістам, і Пётр усё жыццё пісаў з грубымі памылкамі, абапіраючыся на фанетычны прынцып «як чуецца, так і пішацца». А пасля палацавага перавароту стала ўвогуле не да навукі.

### Хаваншчына

Пасля ранняга скону цара Фёдара той самы патрыярх Іаакім пралабіраваў абранне на пасад 10-гадовага Пятра. Партыя Нарышкіных узяла верх, але Міласлаўскія пад'юдзілі стралецкія палкі на паўстанне, названае пазней Хаваншчынай — ад імя стралецкага камандуючага, князя Івана Хаванскага.

У стральцоў былі і свае матывацыі: па меры стварэння

ў Расіі рэгулярнага войска паводле заходняга ўзору роля гэтых некалі элітных палкоў звялася фактычна да функцый гарадской паліцыі. Паніжэнне статусу цягнула праблемы і з грашовым забеспячэннем. Стральцы прагнулі зноў стаць царскай гвардыяй.

Міласлаўскія сказалі стральцам, што Нарышкіны задушылі царэвіча Івана, яшчэ аднаго зводнага брата Пятра. Ён, праўда, знайшоўся жывы, але бунту гэта не спыніла.

### Пабачыў жахі

Пётр, як некалі цар Іван Жахлівы, у дзіцячым веку пабачыў крывавыя сцэны. Узброеныя стральцы ўварваліся ў іх палаты, вышуквалі Нарышкіных і іх прыхільнікаў — і рэзалі. На вачах Пятра пасеклі на кавалкі баярына Артамона Матвеева — лідара партыі Нарышкіных, калісь першага дарадцу цара Аляксея Міхайлавіча.

Стральцы былі гаспадарамі ў Маскве некалькі месяцаў, князь Хаванскі нават сабраўся сам быць царом, аднак, калі прыехаў да Міласлаўскіх на перамовы, быў схоплены і забіты.

Пасля бунту бакі дасягнулі кампрамісу: разам з Пятром царом быў прызнаны яго зводны 16-гадовы брат Іван, а рэгенткай над абодвума стала старэйшая сястра Соф’я.

Магчыма, перажыты ў часе Хаваншчыны стрэс быў прычынай эпілепсіі і пакутлівай сутаргі, якая крывіла твар Пятра, калі ў яго псаваўся настрой. Магчыма, і нелюбоў да Масквы сілкавалася тымі дзіцячымі ўражаннямі. Бываючы пазней у старой сталіцы царства, Пётр не спыняўся ў крамлёўскім палацы, які з часам збуцвеў і абваліўся.

### Нямецкая слабада

Пётр і яго маці пасля перавароту ў Маскве не жылі, пераехалі




**І гэта таксама, магчыма, Пётр І**, у адзенні карабельнага цеслі ў Зандаме, Галандыя. Партрэт невядомага мастака.

ў маёнтак Праабражэнскае. Адтуль Пётр ездзіў браць удзел у абавязковых цырыманіяльных дзеяннях у Крэмль. Але норавы і звычаі маскоўскага царскага двара так і засталіся для яго чужымі. Затое норавы недалёкай ад Праабражэнскага Нямецкай слабады падаліся нашмат прывабнейшымі. Нямецкая слабада была гета для замежнікаў, якіх выселілі з Масквы ў XVII стагоддзі. Тамтэйшыя немцы і галандцы дапамаглі маладому цару запоўніць лакуны ў тэхнічнай адукацыі, даўшы азы геаметрыі, арыфметыкі, фартыфікацыі. Але ў гуманітарным сэнсе Пётр так і заставаўся неадукаваным і нявыхаваным чалавекам.

Нямецкіх прынцэс падчас паездкі па Еўропе ён уразіў тым, што еў за сталом рукамі: на Захадзе гэта ўжо лічылася дзікасцю. Хоць таксама Пётр запомніўся ім як цікавы суразмоўца. Або падчас візіту да англійскага караля Пётр не звярнуў увагі на цудоўную калекцыю твораў мастацтва, затое быў захоплены прыладай для назірання за кірункам ветру, пабачанай у пакоі караля.

Але нашмат горшым для падданых вынікам гэтай душэўнай неразвітасці была адсутнасць эмпатыі. Цар быў гняўлівы і скоры на расправу — таксама вынік адсутнасці выхавання характару і працы над сабой.

### Пётр Міхайлаў

Пётр быў першым з маскоўскіх уладароў, хто рызыкнуў выправіцца ў доўгае падарожжа па заходніх краінах. Мэтай Вялікага пасольства з 250 чалавек, у складзе якога пад імем Пятра Міхайлава ехаў цар, быў пошук саюзнікаў для стварэння антыасманскай, а пасля і антышведскай кааліцыі. Але фактычна ехалі пераймаць заходнія тэхналогіі, вербаваць спецыялістаў, вучыцца. Пасольства праехала праз Лівонію, Саксонію, Брандэнбург, Нідэрланды, Англію, Аўстрыю. Планавалі наведаць Венецыю і папу ў Рыме, але не склалася.

Яго інкогніта на Захадзе было ўмоўным: цяжка не пазнаць чалавека, на галаву вышэйшага за іншых. Але афіцыйна кіраўнік дзяржавы не выязджаў з Масквы — напрыклад, усе дакументы разглядаліся і падпісваліся ад яго імя.

У Маскове хадзілі чуткі, што цара падмянілі ў часе Вялікага пасольства на Захад: маўляў, паехаў паўнаваты 28-гадовы мужчына з радзімкай на шчацэ, а праз два гады вярнуўся худы, на выгляд 40-гадовы чалавек, які слаба разумеў па-руску — і без радзімкі.

### Сам ірваў зубы

Пётр, якога свайго часу не навучылі, якая справа «царская», а якая не, жыва цікавіўся артылерыяй, будаўніцтвам караблёў, фартыфікацыяй, тачэннем, цяслярствам, хірургіяй. ▶

▶ У Еўропе ён наймаўся працаваць на верфі, прысутнічаў на аперацыях і ўскрыцці памерлых, сам спрабаваў лячыць (гэта значыць ірваць) хворыя зубы сваім падданым. (У Пецярбургу захоўваецца калекцыя ўласнаручна вырваных Пятром зубоў з 73 штук.)

Сам лячыў Пётр і сябе. Пакутуючы ад звужэння мачавога канала (гэта магло быць вынікам перанесенай венерычнай хваробы), ён сам сабе ўводзіў катэтары. Урэшце непраходнасць мачы пасля моцнай прастуды стала адной з прычын яго смерці ў 52 гады.

### Абутак 38-га памеру

Пётр I, нягледзячы на анамальна высокі рост — больш за два метры, — не выглядаў асілкам. Яго вопратка і абутак сведчаць, што цар меў 38 памер нагі і насіў адзежу 48 памеру. Галава яго таксама была непрапарцыйна маленькая адносна доўгага цела.

### «Яго ўказы былі пісаныя бізуном»

Так казаў пра Пятра нават ягоны шчыры прыхільнік, Аляксандр Пушкін. Пераймаючы заходнія тэхнічныя навінкі, Пётр не хацеў пабачыць галоўнага, дзякуючы чаму заходняя цывілізацыя ўжо тады абагнала канкурэнтаў: павагі да закона, правоў асобы і яе ўласнасці. Пётр, як пісаў Васілій Ключэўскі, «хацеў, каб раб, застаючыся рабом, дзейнічаў свядома і свабодна».

«Нам Еўропа трэба яшчэ гадоў трыццаць, пасля мы можам павярнуцца да яе задам», — такія словы Пятра знаходзім у таго ж Ключэўскага.

### Забарона пісаць замкнуўшыся

Дэспатызм улады ў часы Пятра дасягнуў піку. Пад пагрозай смяротнай кары было забаронена, напрыклад, «пісаць замкнуўшыся». Таго, хто пра гэтае «злачынства» не данёс, таксама каралі смерцю. Для разгляду палітычных спраў была створаная Тайная канцылярыя — і першай разгледзела справу царэвіча Аляксея. Сын Пятра спрабаваў уцячы ад бацькі, каб інкогніта жыць у Еўропе, але быў высачаны, схоплены і вывезены ў Расію. Яго катавалі, судзілі за здраду і забілі.

### Сам сек галовы

Канчатковаму ўцараванню Пятра папярэднічалі дзікія бунты. Ён іх бязлітасна душыў, сам сек галовы стральцам — і прымушаў тое ж рабіць набліжаных. Нават надаваў поўхаў фаварыту Аляксандру Меншыкаву за няўмельства.

Бунтамі і пераваротамі суправаджалася змена ўлады ў Расіі яшчэ 70 год пасля Пятра — аж да Аляксандра I.

### Быў першым кіраўніком Расіі, які паспяхова ўмяшаўся ў выбары ў Рэчы Паспалітай

Пасля смерці Яна III Сабескага наймацнейшымі кандыдатамі на трон караля Рэчы Паспалітай былі французскі прынц Франсуа Луі дэ Канці і саксонскі курфюрст Фрыдрых Аўгуст. Для расійскай палітыкі было важна, каб каралём Рэчы Паспалітай не стаў француз: Францыя традыцыйна падтрымлівала Асманскую імперыю, з якой Расія ваявала за Азоў і Крым. Абранне француза магло скончыцца выхадам Рэчы Паспалітай з антытурэцкай кааліцыі (і султан прапаноўваў гэта, абяцаючы вярнуць захоплены туркамі Камянец-Падольскі).

Хоць дэ Канці набраў больш галасоў, Пётр павіншаваў з перамогай Фрыдрыха Аўгуста, а таксама напісаў у сойм Рэчы Паспалітай, што перагледзіць умовы «вечнага міру» 1683 года, і паставіў войскі на ўсходняй мяжы Вялікага Княства.

### Пётр і Аўгуст

Падчас першай сустрэчы Пётр быў зачараваны Аўгустам Моцным: «адзін хацеў забаўляцца, а другі ўмеў забаўляць», як пісалі сучаснікі. Вярнуўшыся ў Расію, Пётр хадзіў у падораным Аўгустам камзоле і з ягонай шпагай.

Для Аўгуста гэтае сяброўства абернецца бядой. Напаўшы на Лівонію з падачы Пятра і ў выкананне перадвыбарных абяцанняў вярнуць Рэчы Паспалітай страчаныя землі, ён развяжа Паўночную вайну. У выніку яе Лівонія дастанецца Расіі, Аўгуста шведы двойчы скінуць з трона, а ўрэшце ён будзе вымушаны прызнаць сябе васалам Пятра.


GLOBAL LOOK PRESS

**Такі вобраз Пятра I стварыў скульптар Міхаіл Шамякін у 1991-м.** Твар зьлеплены паводле пасмяротнай маскі, але цела гратэскна зменена. Помнік стаіць у Петрапаўлаўскай крэпасці, адны пецярбуржцы ад яго ў захапленні, іншыя — ненавідзяць.

А яшчэ яны былі кумамі: расійскі цар разам з жонкай Аўгуста Крысціянай Эбергардынай хрысціў у віленскай Пятніцкай царкве малога арапа Ганібала — прадзеда класіка рускай літаратуры Аляксандра Пушкіна.

**Норавы яго «двара»**

былі разбэшчаныя, як і паўсюль тады, — з той розніцай, што часам любоўныя інтрыгі заканчваліся крывавымі расправамі. Так, страціла галаву фрэйліна царыцы Марыя Гамільтан, былая каханка Пятра, звінавачаная ў дзетазабойстве. Адсеклі галаву і ад'ютанту Віліму Монсу: афіцыйна за змову супраць імператара, а неафіцыйна — за любоўную сувязь з царыцай. Існуе пашыраная легенда, што яго заспіртаваную галаву Пётр паставіў у спальні «няевернай» жонкі — але ўзнікнуць яна магла і вакол знойдзеных пазней у запасніках кунсткамеры заспіртаваных чалавечых галоў невядомай прыналежнасці.

**Бардак і карупцыя**

Нягледзячы на ўсю жорсткасць Пятра, парадку ў імперыі не было. Кралі мільёнамі, бралі хабары, прычым нават самыя набліжаныя да Пятра людзі, такія як Аляксандр Меншыкаў. Пётр часам выклікаў іх сам-насам і біў дубінкай, але гэта быў хутчэй акт бяссілля.

Легенда пра тое, што найбліжэйшы хаўруснік Пятра, «полудержавный властелин» Меншыкаў быў сынам конюха (паводле іншай версіі, прадаваў пірагі) не адпавядае рэчаіснасці. Ён паходзіў, найхутчэй, з беларускай шляхты. Стаўшы ў 14 гадоў дзеншчыкам Пятра, у канцы жыцця Меншыкаў меў 100 тысяч прыгонных, зямельныя ўладанні памерам з сярэдняе нямецкае княства, мільённыя ўклады ў замежных банках. Праўда, усё гэта ўваднчас абрынулася, калі памёр спачатку Пётр, а праз два гады ягоная жонка Кацярына, да якой перайшоў трон. Тады Меншыкаў патрапіў у няласку, быў пазбаўлены ўсяго і сасланы разам з сям'ёй у сібірскі гарадок Бярозаў (цяпер у Ханты-Мансійскай аўтаномнай акрузе), дзе неўзабаве і памёр.



**Шляхта Рэчы Паспалітай выбрала французскага прынца Франсуа Луі дэ Канці**, але Пётр I прымусіў зрабіць каралём і вялікім князем Аўгуста Моцнага. Карціна Марціна Альтамонтэ, 1697 год.

**«Што вы дома робіце?»**

Так Пётр здзіўляўся, калі набліжаныя адпрошваліся ў яго, каб заняцца хатнімі справамі. Пётр жыў сваёй працай, інтарэсамі дзяржавы і таго самага жорстка патрабаваў ад іншых. І адзіным кутком вялізнай Расійскай імперыі, якога Пётр не ведаў, быў яго ўласны дом, яго сям'я. Першую жонку ён пастрыг у манашкі і змясціў пад варту ў манастыры, іх сына асудзіў на смерць за «змову» з маці, з другой жонкай таксама ў канцы жыцця не меў разумення.

**Набожным не быў, але вагу Царквы разумеў**

Рэлігійныя справы мелі для Пятра большае значэнне, чым прынята лічыць. Ён змоладу мала быў падобны да багамольных продкаў — успомніць хоць бы оргіі ў Нямецкай слабадзе з прызначэннем «усеп'янейшага папы-патрыярха», якія ўдзельнікі называлі «багаслужбамі».

Але вагу Царквы Пётр разумеў і імкнуўся яе падпарадкаваць, стварыўшы Сінод. І інтарэсы праваслаўя адстойваў — як тут не згадаць забойства ўніяцкіх святароў у полацкай Сафіі. Ключэўскі, якому не закінеш сімпатый да Пятра, пісаў, што той канфлікт вырас з непаразумення ў бойку, прычым бараніць святароў таксама кінуліся людзі са зброяй. Стаўленне Пятра да ўніяцтва, самай масавай рэлігійнай канфесіі тагачасных беларусаў, было негатыўнае. «У вас маюць застацца дзве веры — наша і ваша», — павучаў Пётр каталіка Аўгуста Моцнага.

**Напалохаў бальшавікоў**

Калі ў першыя гады савецкай улады ў Петраградзе ўскрывалі царскія грабніцы, выгляд цела Пятра I шакаваў чырвонаармейцаў: памерлы 200 год таму імператар ляжаў «як жывы». Справа ў бальзамаванні: Пётр I пасля смерці шэсць гадоў, пакуль не быў дабудаваны Петрапаўлаўскі сабор, ляжаў непахаваны. ◆

# Пазачасавая гармонія: чатыры хаты Якуба Коласа

«У нумары 4 за 2021 год у вас прыгожыя фоты з коласаўскіх мясцін. А раскажыце больш, што там варта наведаць», — пытае **Барыс Саўчук** з Мінскага раёна.

Якуб Колас быў з сям'і лесніка. Адпаведна, яго дзяцінства прайшло ў леснічоўках: на лясных хутарах. Атмасфера там выключная. Уявіце сабе: хаты з садам сярод вялікага лесу.

Спакой там непаўторны і дух вечнасці. Адключаешся ад свету і пагружаешся ў пазачасавасць.

Захапляе выключная гармонія гэтых старых хат з ганкамі, драўлянымі калонамі, тэрасамі. Які густ быў у людзей, што іх будавалі.

Трэцяе, што таксама ўнікальна і што вечна не будзе, але што можна яшчэ злавіць сёння, стаць сведкам, — гэта сваякі Коласа, яны ўсё яшчэ працуюць у гэтых музейчыках, гавораць той жа мовай, што і Колас, тымі ж інтанацыямі, гэта нітка, якая яшчэ не перарывалася. Калі будзеце ў Акінчыцах, папрасіце, каб экскурсію вам правяла Соф'я Пятроўна Міцкевіч (тэлефон і вайбер +375 33 353 93 18).

Аматары эстэтыкі рэчаў завіснуць на тых радзінных прадметах, якія сабраныя ў музеях. Яны рэальна з роду Коласаў, усе гэтыя «лянівыя жонкі», кублы, ручнікі.

Дзякуючы сям'і зберaглі і аднавілі ўсе чатыры сядзібы, у якіх узрастаў Кастусь Міцкевіч. І гэта таксама, напэўна, рэдкасць і ў маштабах свету.

Будучы паэт нарадзіўся, калі ягоны бацька служыў у Акінцычах. Цяпер гэтую вёску ўключылі ў склад Стоўбцаў.

Пасля бацька служыў у сядзібе Ласток. Там захаваўся арыгінальны дом, пабудаваны ў 1885 годзе з яловага бруса і пакрыты дранкаю.

Падлеткавыя гады, так каларытна апісаныя ў «Новай зямлі», прайшлі ў Альбуці — гэта хутар у лесе над Нёманам, пад старымі дубамі.

А пасля сям'я перасялілася ў Смольню, таксама хутар, але бліжэй да Мікалаеўшчыны, на гары над далінаю Нёмана — гэта, нарэшце, была ўжо ўласная, не найманая хата, нязбытная мара бацькі Міхала. Сюды, у Смольню, Колас прыязджаў перад смерцю, развітваючыся са светам. Хата захавалася, як і ліпы, пад якімі Колас упершыню сустрэўся з Янкам Купалам: той прыехаў ужывую пазнаёміцца з вызваленым з турмы паэтам.

У кожным з чатырох музеяў — свае нюансы, свае дэталі.

Вандраваць па коласаўскіх мясцінах можна як на машыне — добрая дарога нават у сезон дажджоў, — так і на роварах ці пешкі — ад чыгуначнай станцыі ў Стоўбцах.

Мастацкі бонус — уздоўж дарогі ад Акінчыцаў да Мікалаеўшчыны і да Альбуці стаяць драўляныя скульптуры аўтараў з усёй Беларусі. Некаторыя з іх — сапраўдныя шэдэўры.

«Мой родны кут, як ты мне мілы, Забыць цябе не маю сілы».

Ад Альбуці да Смольні і ад Смольні да Мікалаеўшчыны можна дабірацца не толькі дарогаю Стоўбцы — Мікалаеўшчына, але і дарогамі і сцежкамі па



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Альбуць,** дзе прайшлі падлеткавыя гады Якуба Коласа.

лесе і даліне Нёмана. Маршрут, распрацаваны адзінаццацікласнікам школы ў Мікалаеўшчыне Дзмітрыем Герасімчыкам, вы знойдзеце па к'юар-кодзе.

Прыстанька — гэта месца правядзення несанкцыянаванага сходу настаўнікаў у 1906 годзе, за які Коласа на тры гады пасадзілі на Валадарку. Прыстанька сапраўды некалі была прыстанню, румам, ад якога па Нёмане сплаўлялі дрэва.

Да Прыстанькі аўтамабілем вы даедзеце толькі ў сухі сезон. Як з боку Мікалаеўшчыны, так і з боку Сверынава, Ластка, Лядзін на лясных дарогах сустракаюцца гразкія месцы.




## «Вясковы далікатэс»

З цікавасцю прачытаў артыкул Алеся Белага пра агуркі (№ 6/2021). Быў там эпізод, звязаны з ужываннем гэтай агародніны з мёдам. Адразу ж узгадаў свайго бацьку, які час ад часу любіць паласавацца такім, як ён кажа, «вясковым далікатэсам». Як я даведаўся, у вёсцы Казімірова Асіповіцкага раёна (пра тыя мясціны і сваіх продкаў падрабязна пісаў у № 1/2021 «Нашай гісторыі») шмат жыхароў вырошчвалі агуркі, пры гэтым у многіх былі і пчаліныя вуллі. Таму ўжыванне агуркоў з мёдам было звычайнай справай.

**Юрый Тамковіч, Мінск**

## Усяж над Усяжай

Мяне завуць Насця. Мне 14 год, і ўсё сваё жыццё я пражыла ў пасёлку Усяж, які знаходзіцца недалёка ад Мінска, у Смалявіцкім раёне.. Калі вы на машыне, то туды можна заехаць за 20–30 хвілін. Сваю назву пасёлак атрымаў ад ракі Усяжа, якая працякае побач.


GLUBINKA.BY

Пасёлак быў закладзены ў першыя месяцы 1941 года, калі тут вырашылі зрабіць торфабрыкетны завод. Да пачатку вайны былі пабудаваныя два жылыя дамы і распачатыя работы на месцы будучага завода. Але вайна спыніла развіццё пасёлка. Будаўніцтва аднавілася толькі ў жніўні 1944-га, а ва ўзвядзенні некаторых дамоў і завода бралі ўдзел палонныя немцы. Цалкам як населены пункт Усяж сфарміраваўся ў 1950-я гады.

Школа, у якой я вучуся, была пабудаваная ў жніўні 1952 года, і тады ж ёй быў нададзены статус сярэдняй. А да гэтага мясцовыя дзеці хадзілі ў Емяльянаўскую сямігодку, год заснавання якой – 1922-гі.

Акрамя школы і торфабрыкетнага завода «Усяж», у пасёлку ёсць дзіцячы сад, амбулаторыя, дом культуры з бібліятэкай, некалькі крам. Адпачыць тут можна ў прыгожым скверы, а таксама ў парку каля невялікага футбольнага стадыёна. Побач са стадыёнам знаходзіцца ФАК, дзе таксама можна пагуляць у футбол ды папрацаваць на спартыўных трэнажорах.

Жыхары пасёлка шчыра перажываюць за яго, імкнуцца рабіць яго лепшым: даглядаюць вулічных жывёл, разбіваюць каля сваіх дамоў прыгожыя палісаднікі. Добрыя людзі – скарб нашай мясцовасці.

**Анастасія Шабан, вучаніца 8-га класа**

## Спадабаўся артыкул пра Франкла

Прачытала ў № 6/2021 «Нашай гісторыі» артыкул пра Віктара Франкла! Дзякуй вялікі! Я ў захапленні. Вельмі спадабалася. Пакуль чытала, і плакала, і смяялася (з фразы «Жыві так, нібы жывеш ужо другі раз», бо пры першай спробе накасячыў паўсюль дзе толькі можна). Пішыце яшчэ на такія тэмы!

**Кацярына Аракчэева, Мінск**

## Чытаю сам і даю сябрам

Добры дзень, рэдакцыя часопіса «Наша гісторыя»!

Я вельмі рады, што адкрыў ваш часопіс. Я пазнаў шмат чаго цікавага з нашай гісторыі, чаго раней не ведаў. Вельмі вам удзячны. Так трымаць! Я яго даю многім сваім сябрам пачытаць, і яны мне ўдзячныя.

**Мікалай Пратасевіч, Ушачы**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню.


З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЮЛІІ ЧАРНЯЎСКАЙ

# «Зграбнасць — гэта не пра дзеда. Ён быў значна глыбейшы»

## *Юлія Чарняўская ўспамінае пра Васіля Вітку*

**Калі настаўнікі казалі мне: «Будзь прасцейшай», дык дзед імкнуўся зрабіць усё, каб я была больш складанай. Юлія Чарняўская, унучка пісьменніка, расказвае пра свайго дзеда Васіля Вітку — класіка беларускай дзіцячай літаратуры. Прынцыпы жыцця, культуру паводзін, мастацтва шчасця.**

Унутры гэтага невысокага сціплага чалавека быў сталёвы хрыбет.

Ён быў чалавекам стрыманым. Нягучным. Ніколі не павышаў голас, нават у хвіліны гневу — тым больш у хвіліны гневу!

Дзед проста з'яўляўся ў дзвярах свайго маленькага кабінета. Спыняўся, глядзеў сурова і сыходзіў, ціха прычыніўшы за сабою дзверы. На гэтым скандал заканчваўся.

Гэтак жа ціха ён і пратэставаў. У пачатку 1970-х ціха падняў руку супраць выключэння перакладчыка Васіля Сёмухі з Саюза пісьменнікаў за наіўна-неасцярожны ліст таго да пасла ФРГ з просьбай аказаць матэрыяльную падтрымку ў выданні перакладу на беларускую мову «Фаўста» Гётэ. Адзіны, хто на гэта тады наважыўся. Я даведалася пра гэта толькі пасля яго смерці, ад сведкаў падзеі.

Гэтак жа ціха, непрыкметна ён схаваў у шуфляду стала дыплом прэміі Ганса Хрысціяна Андэрсена — найвышэйшую ўзнагароду найлепшым казачнікам свету.

Шум, мітусня, істэрыка, прыцягненне ўвагі да сваёй асобы здаваліся яму гранічна неінтэлігентнымі. Хоць сярод беларусаў гэта не рэдкасць.

## Слуцка-Капыльская дзяржава

Чатыры вулачкі-«пасёлкі» — тры паралельныя, адна бакавая. Вось і ўся вёска Еўлічы, што пад Слуцкам, адкуль родам Васіль Вітка. Кузня з ветраком (ёю «загадваў» хросны майго дзеда, кульгавы Валадым), невялічкая крыніца. Маленькая, зарослая асакой сажалка, улюбёнае месца дзяцей і буслоў. Нічога гэтага даўно няма — пасля меліярацыі.

Разам з Кузьмой Чорным, сваім старэйшым і дарагім сябрам, што нарадзіўся побач, у Цімкавічах, яны называлі гэты край «Слуцка-Капыльскай дзяржавай». І ў час вайны, і пасля, ужо жывучы ў Мінску, дзед расказваў пра Еўлічы як пра рай.

## «Якая ж гэта галушка? Гэта ж жаба!»

Папраўдзе дзед нарадзіўся ў Омску, куды яго бацька выправіўся на адыходніцтва*.

У Еўлічы хлопца прывезлі ўжо пяцігадовым, і гаварыў ён спачатку па-руску. Дарослым любіў згадваць гутарку з бабуляй:

— Бабушка, там лягушка!

— Цімачка, якая ж гэта галушка? Гэта ж жаба!

Усё прыйшло да яго ў пяць гадоў, ужо ў свядомым узросце: вёска, мова, птушкі, якіх ён палюбіў на ўсё жыццё асабліва пяшчотна. Ведаў усе іх галасы.

Мята. Ён мяў яе ў пальцах: малодшая сястра Тася, што так і засталася ў Еўлічах, будзе вырошчваць для яго невялічкую мятную плантацыю. Роўнядзь вады. Асака. Лес.

Ён цяжка перажываў з прычыны бязлітаснага высякання лясоў: «Юлечка, Случчына стала зусім лысая».

Дзед увогуле быў пантэістам: ён увесь час усё ўспрымаў праз прыроду — і гісторыю, і характары людзей. Ён яе адчуваў.

## «Усе Віткі з адной світкі»

«Усе Віткі з адной світкі», — прыгаворваў ён. Імя «Васіль Вітка» было псеўданімам, па-сапраўднаму яго звалі Цімафей Васільевіч Крысько. Мала хто ведае, што першым яго псеўданімам быў «Цімох Згрэбны» (зграбны), але гэта імя не прыжылося. Можа, таму што было павярхоўным, наносным. Данінай модзе.

Зграбнасць — гэта было не пра дзеда. Ён быў значна глыбейшы.

Васілём Віткай ён стаў у 1944 годзе. Васіль — у гонар бацькі, вясковага кніжніка і ўмелага лекара-самавука. Вітка — гэта палка з накручанай зверху пасмай, завітком сена. Такой у вёсцы размяжоўвалі надзелы. Імя пацэліла ў яблычак: дзед умеў, як сказалі б цяпер, трымаць мяжу.

Але вернемся да яго бацькі, Васіля Максімавіча, галоўнага грамацея на сяле: ажно тры зімы ён хадзіў у воласць у школу. З таго часу ім валодала прагнасць да слова: ён выменьваў, купляў і ўсяляк здабываў кнігі, а вечарамі чытаў іх услых сям'і і суседзям.

Ён чытаў удзячнай аўдыторыі ўсё — ад раманаў да даведнікаў. А найбольш цаніў «Дапаможнік для вайсковых фельчараў». Кажуць, з яго дапамогай ён мог напісаць рэцэпт на лаціне. Дый увогуле быў «пакроены» па-гарадскому: умеў шыць боты, працаваць з металам, быў хутчэй рабочым, чым селянінам.

На гаспадарцы значна лепей зналася яго жонка, нястомная Мар'я Міхайлаўна. У старасці яе проста ў градах разаб'е інсульт. Ачомаўшыся, яна пакліча дзяцей развітацца — і ўсе з'едуцца. Устане з пасцелі, сядзе за стол з дзецьмі ▶

* Выезд сялян на заробкі.

## Паліваў грыбы з графіна

Бацька згадваў: стаяла сухое лета. Сям'я адпачывала ў Каралішчавічах, у старым Доме творчасці, і штовечар дзед зашываўся ў лес з графінам вады ў руцэ. Аказалася, што ён адшукаў сямейку грыбоў і штодня паліваў іх, хаваў ад спёкі хвояй. І не на тое, каб пасмажыць і з'есці. Проста каб яны жылі.

Я і сама памятаю, як кожную раніцу ён спускаўся мінскай вуліцай Карла Маркса да Свіслачы з уламкам батона ў цэлафанавым пакеце: там плавала сямейка качак, у тыя часы качкі і лебедзі ў гарадах былі рэдкія госці. Засмуціўся страшэнна, як не далічыўся аднаго качаняці. І да самай смерці збіраў каштаны — гэты бескарысны цуд прыроды...

і ўнукамі, паскардзіцца жартоўна, што нельга і ёй кілішак кульнуць, а ўначы ціха памрэ. Мар'я Міхайлаўна перажыла мужа на дваццаць гадоў.

### За гэта фашысты яго забілі

У вёсцы майго прадзеда Васіля Максімавіча шанавалі і любілі. Як самага «граматнага», выбралі старшынёй калгаса. За гэта яго і забілі фашысты ў Слуцку. Мой дзядуля горка дадаваў: «І за нас, яго сыноў». Ён, старэйшы сын, працаваў у агітацыйных масавых выданнях, што выпускаліся для акупаваных раёнаў, Барыс, меншы, прайшоў усю вайну танкістам.

Былі ў сям'і і дзве дачкі — Тоня і Тася. Бліжэй за ўсё дзед, найстарэйшы, сябраваў з наймалодшай Тасяй. Ён рана зразумеў, што любіць малых. Прыдумваў для сястры песенькі і казкі. Пасля стане прыдумваць для сына і дачкі.



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЮЛІІ ЧАРНЯЎСКАЙ

**Барыс Мікуліч, Васіль Вітка, Яўхім Кохан.** Слуцк, 1929 год.



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЮЛІІ ЧАРНЯЎСКАЙ

**Жонка Віткі** на сцэне.

І толькі значна пазней — для ўсіх беларускіх дзяцей.

Дзед пачынаў як паэт для дарослых. Хоць увогуле пачынаў як слесар.

Адукацыя гэтага крайне інтэлігентнага чалавека складалася адно з вясковай сямігодкі і прафтэхшколы. Астатняму ён вучыўся сам, дзе мог і як мог, вучыўся да апошняга дня жыцця. І гэта не перабольшанне: кожную кнігу чытаў удумліва, падкрэсліваючы радкі, робячы пазнакі на палях, а вечарамі працягваў завочную гутарку (палеміку, палкую спрэчку) з аўтарам ужо ў сваім дзённіку...

Калі захапіўся педагогікай, дык праштудыяваў, здаецца, усё, што магчыма, па філасофіі і псіхалогіі адукацыі. Любіў і ведаў тэатр. Штовечар жа ў глухой ужо цемры слухаў класічную музыку.

### Не Рэнесансу — Асветніцтва

Мой дзед, Васіль Вітка, быў асобай Асветніцтва. Не, не Рэнесансу, чый чалавек прэтэндаваў на лёгкі талент і прыроджаныя ўменні, а менавіта Асветніцтва, дзе цаніліся засяроджанасць і спеласць асобы. Зрэшты, яму пашанцавала з настаўнікамі: ад кульгавага каваля Валадыма з Еўлічаў да вытанчанага Кузьмы Чорнага, з якім пасябраваў у ваеннай Маскве.

Ён быў гатовы ўспрымаць і абдумваць. Яму давалася гэта няцяжка: ён быў чалавекам, які болей слухаў, чым гаварыў.

Слесарам дзед папрацаваў толькі два гады, на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце (ён, дарэчы, існуе дагэтуль). А пасля закруціла маладога рабочага ў зусім іншым, нечаканым віражы: заводская шматтыражка, далей рэдакцыя газеты «Коммунист», дзе быў рэдактарам ужо вядомы на той час пісьменнік Міхась Лынькоў. Між тым, гэта маленькая газета з гучнай назвай друкавала тэксты на чатырох мовах: беларускай, рускай, украінскай і ідышы. У Лынькова быў асаблівы талент — групаваць вакол сябе літаратурную моладзь. Сяргей Грахоўскі, Яўхім Кохан, Хвядос Шынклер, Цімох Крысько,

Мікола Лобан, Рыгор Суніца (Лынькоў), Мікола Аўрамчык...

З братамі Лыньковымі дзед пасябраваў на ўсё жыццё, з Рыгорам — парадніўся нават. Яны ажаніліся з роднымі сёстрамі. Перш дзед знайшоў сваю Олю, Олюську, Люську. А пасля ўжо і Рыгор пазнаёміўся з яе малодшай сястрой Геняй.

Паводле сямейнага падання, на вечарыне, прысвечанай наступленню новага, 1936 года, 25-гадовы Цімох убачыў, як на сцэну выбегла невысокая чарнавалосая дзяўчына і стала тэмпераментна дэкламаваць вершы Янкі Купалы і Уладзіміра Маякоўскага. Гэта была Вольга Лерман, маладая актрыса ТРАМа.

ТРАМы — тэатры рабочай моладзі — на той момант былі ў кожным горадзе. У Маскве, прыкладам, менавіта з нетраў ТРАМа і вылузнуўся знакаміты «Ленком». У нашага ТРАМа быў больш сумны лёс: яго галоўнага рэжысёра Міхаіла Зорава забілі ў мінскім гета, частка акцёраў загінула, частка аказалася раскіданай па Савецкім Саюзе...

Бабуля была добрай характарнай актрысай, але вайна пазбавіла яе прафесіі.

### А быў жа яшчэ трыццаць сёмы

Майму дзеду неймаверна пашанцавала: ён застаўся жывы. І нават, адрозна ад яго сяброў Уладзіміра Дубоўкі, Сяргея Грахоўскага і Алеся Пальчэўскага, не трапіў у лагеры.

**У 1937-м дзеда выключылі з камсамолу «за страту пільнасці і лібералізм». Гаспадыня імгненна выгнала сумнеўных кватарантаў на двор**

Памятаю, як ужо ў 1970-я пісьменнікі шпацыравалі па набярэжнай Свіслачы. Грахоўскі, Пальчэўскі, Аляксей Зарыцкі, ▸

### Савуар-віўр сямей Васіля Віткі, а таксама Юліі Чарняўскай і Юрыя Зісера

У дзеда і бабулі было шмат непарушных правіл, каб захаваць гармонію ў адносінах — значна болей, чым у маёй уласнай сям'і. Прыкладам, было не прынята казаць пра грошы. Ні калі матэрыяльнае становішча было кепскім, ні калі палепшала. Ад іх жа ў нас — абыякавасць да спажывання, асабліва да прэстыжнага: мы заўсёды жылі даволі сціпла.

Вельмі адкрыты дом — гэта ўжо ад маёй і мужавай мам. Мы ўсіх прымалі дома, і толькі ў самыя апошнія гады мой муж, заснавальнік інтэрнэт-партала *TUT.BY* Юрый Зісер, стаў сустракацца па справах у кавярні. Дома ўвесь час было шмат маіх сяброў, шмат маіх студэнтаў, Юравых прыяцеляў — усе з усімі знаёміліся і «засяброўваліся».

Музеі, канцэрты і спектаклі былі для нас не баўленнем часу, а жыццёвай неабходнасцю. Юра болей любіў музыку, я — тэатр. Усюды бралі з сабой дачку з самых ранніх гадоў. Ёй было можна сядзець за сталом з дарослымі (як Юру ў яго дзяцінстве), пры ёй не спыняліся сур'ёзныя размовы.

Некаторыя правілы мы выпрацавалі самі: напрыклад, калі пасварыліся — мірыцца перад сном, не выносіць сварку ў заўтрашні дзень. Калі не мелі рацыі ў адносінах да дзіцяці — папрасіць прабачэння (гэта маё правіла). Не сварыцца на дзіця разам, хтосьці павінен быў трымаць нейтралітэт, каб дзіцяці заўсёды было да каго пайсці.

Пакуль я не пакалечыла нагу, вельмі шмат ездзілі. Юраў прынцып: за тры дні ахапіць тры гарады. Я б аддала перавагу больш спакойнаму рытму, але яго бурная прага жыцця перамагала маю засяроджанасць. Любы горад уключаў наведванне канцэрта і музеяў. Раз на год абавязковая паездка ўдваіх: мы абодва шмат



ФОТА СЯРГЕЯ КАЗЛОВА

**Юлія Чарняўская** — прафесарка Універсітэта культуры, літаратарка.

працавалі, і гэта быў спосаб пабыць разам. Ляжанне на пляжы не прыцягвала ніводнага з нас.

І яшчэ два правілы: давараць і ніколі не гаварыць тое, што я называю «апошнімі словамі», гэта значыць, ні ў якім запале сваркі не сказаць чалавеку самага крыўднага, не ўдарыць яго па балючым месцы.

▶ Аляксей Русецкі, Янка Брыль, Ян Скрыган і мой дзед. Мужчынская кампанія і я, адзінае дзіця ў гэтым дарослым паважным шыхце. Я чаплялася за руку дзеда: іх размовы былі зусім незразумелымі.

Толькі шмат гадоў пазней я спыталася ў дзеда, пра што яны гаварылі тым разам. «Нашы размовы, — адказаў ён, — можна сцісла ахарактарызаваць назвай паслярэвалюцыйнага часопіса “Каторга и ссылка”».

Адрозна ад многіх іншых, дзед ацалеў. Але ў адным з яго лістоў да бабулі ёсць радок: «твая мужнасць, твая стойкасць, твой гераізм». І следам падкрэслена кароткая фраза «1937 год».

Пра гэта не расказвалі. Гэта было ў лістах, у дзённіках і мімаходзь згадвалася ў адным з эсэ дзеда. А што здарылася тады? У 1937-м дзеда выключылі з камсамолу і выгналі з газеты «Чырвоная змена», дзе ён тады працаваў, з фармулёўкай «за страту пільнасці і лібералізм». На некага ён не данёс, як тое было патрэбна кіраўніцтву. Майму тату, Вісарыёну, як называлі яго ў сям’і, Віліку, было каля трох месяцаў.

Дзеда не пасадзілі, але ў любы момант маглі. Расцерці чалавека ў пыл, распусціць на трэскі. Яго адно толькі пазбавілі працы. Гаспадыня пакоя на вуліцы Розы Люксембург імгненна выгнала сумнеўных кватарантаў на двор, колькасць сяброў змяншалася ў геаметрычнай прагрэсіі. Але заставаліся верныя браты Лыньковы.

### «Хорошо!»

Рыгор браў на сваё імя пераклады і аддаваў іх дзеду. Памятаю, былі сярод іх апавяданні Чэхава і паэма Маякоўскага «Хорошо!».

А Міхась уладкаваў «выгнанцаў» у вартоўню пры Доме творчасці ў Пухавічах. Там, у гэтым пакойчыку, яны і жылі. І гэта было шчасце.

Вось як дзед згадваў пра той час у адным з лістоў да бабулі, калі вайна раскідала іх па свеце на доўгія чатыры гады: «Люсінька! Ці памятаеш ты адзін з летніх вечароў у Пухавічах, калі мы выйшлі з табой і сядзелі на лавачцы ля кветніку, пасля доўга хадзілі. Здаецца, у той вечар не было між намі нічога асаблівага сказана, але ён застанецца ў маёй душы на ўсё жыццё. Я фізічна адчуваю яго. Я заўжды, калі пра яго згадваю, чую свежы пах мацыёлы. Мацыёла! Чаму я пішу пра яе, думаю? Таму што ўвогуле не ведаў, што ёсць на свеце такая кветка. Гэта ты адкрыла яе назву, яе таямніцу, што яна радуецца свайму шчасцю толькі ўначы, калі ніхто не бачыць... Я тым разам не сказаў табе гэтага, бо зразумеў усё гэта пазней, магчыма, па-сапраўднаму — цяпер. Але тым разам, у тую ноч, я ведаў, што ты іменна думаеш пра тое, што і я».



Васіль Вітка **на сустрэчы з малымі чытачамі.**

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

## Адзіны шум, які ён прызнаваў, быў шумам дзіцячай гульні

А пасля, як гэта бывала нават у тыя гады, неба над імі раптам праяснілася. Дзеда аднавілі на працы, а ў 1939 годзе прызначылі сакратаром аддзялення Саюза пісьменнікаў у Беластоку, які акурат тады часова стаў беларускім. Нарадзілася татава малодшая сястра Наташа. Жыццё наладжвалася...

### Якое шчасце, што не паспеў

«22 июня ровно в четыре часа», проста нібы ў песні, на Беласток

пасыпаліся бомбы. Ужо праз гадзіну дамы зеўралі прабоінамі, частка горада ляжала ў руінах. Бітае шкло, завалы цэглы, параненыя і мёртвыя людзі. Эшалон, у якім іх эвакуіравалі, бомбай разарвала на дзве паловы, тых, хто ацалеў, перасадзілі ў іншы, даехалі да Мінска...

Яны зноў аказаліся сярод тых, хто ўратаваўся. Пакінуўшы сям'ю ў цягніку, дзед пабег да Лыньковых прасіць парады. Міхась сказаў: «Выгружайцеся, застанёмся тут, разам». Але калі Рыгор і мой дзед дабраліся да вакзала, аказалася, што эшалон ужо пайшоў. Дзед валасы на сабе рваў, што не паспеў...

Зрэшты, хутка ён зразумеў, што расстанне з сям'ёй уратавала яе ад знішчэння. Калі б ён паспеў, бабуля-яўрэйка з дзецьмі-


З СЯМЕЙНАГА АРХІВА ЮЛІІ ЧАРНЯЎСКАЙ

**Васіль Вітка з жонкай.**

паўкроўкамі загінулі б у гета, як загінула жонка Міхася Лынькова Ханна Абрамаўна. І іх сын Марык. І Геня, бабуліна сястра, жонка Рыгора. І іх двухгадовая дачушка Аленка. Усіх іх расстралялі ў Старых Дарогах.

Хоць гэты тэкст — на 110-годдзе дзеда, я не магу не распавесці пра бабулю, Вольгу Рыгораўну. Ёй сёлета таксама спаўняецца 110 гадоў. Не магу не ўзгадаць, як іх эшалон разбамбілі. Як яна ішла праз вялізнае пшанічнае поле: сын на плячах, дачка на руках, да пояса прытарочаная пыльная, некалі ружовая коўдра. Як прымала роды ў лесе, і парадзіха на знак падзякі назвала і свайго сына Вісарыёнам (ад грэчаскага *Βησσαρίων* — «лясны»). Як працавала ў калгасе ў Куйбышаўскай вобласці, а пасля бракаўшчыцай на заводзе ў Кургане. Як уратавала дзяцей і захавала ў старой тэатральнай сумачцы ўсе 256 лістоў ад мужа. І паштоўкі. І нават бланкі пераводаў, якія слаў ім дзед. ▶

## Рыба па-грэчаску

Дзядуля быў чалавекам аскетычным у звычках, у тым ліку і ў ежы. Самая любімая яго страва — гэта маладая бульба з кропам. Вараная. І халаднік упрыкуску з варанай бульбай. Да мяса ён быў абыякавы. Болей любіў рыбу. Вось просты рэцэпт рыбы па-грэчаску ад маёй бабулі Вольгі Рыгораўны.

Любую белую рыбу добра адварыць, злёгку падсаліць, выняць з вады, пакласці на друшляк, астудзіць. Аддзяліць ад костак. Костак у канчатковым прадукце быць не павінна зусім. Невялікімі кавалачкамі выкласці рыбу на паўмісак.

Гатуецца закраса: дробна нарэзаную цыбулю, натаркаваную моркву падсмажыць у алеі на маленькім агні да мяккасці. Дадаць некалькі гарошын духмянага перцу, лаўровы ліст, некалькі спелых памідораў без лупіны. Тушыць пад вечкам да аднастайнасці, памешваючы. Соль можна дадаць, але ў нас не салілі, не выкарыстоўвалі спецый. Кансістэнцыя сярэдняя: не павінна ліцца, але і не павінна быць камякамі. Галоўнае — аднастайнасць. Можна выціснуць туды дольку лімона і два-тры зубчыкі часнаку.

Затым усім гэтым заліць рыбу. Закрасы павінна быць удвая болей, чым рыбы. Патрымаць (не ў халадзільніку) 3–4 гадзіны для прамочвання.


VSEVKULINARY.RU

Усё, на чым быў яго почырк.

На фронт дзед прасіўся тройчы. Яго не ўзялі з-за зроку і рэўматоіднага поліартрыту. У яго лістах — заўсёдная віна за тое, што ён не на вайне.

Кампенсацыя гэтай віны — праца па васямнаццаць гадзін на суткі і, як мы сказалі б цяпер, валанцёрства: пошук ацалелых беларусаў і іх сем'яў.

### Гісторыя кахання

Ён канчаткова перастаў быць «Згрэбным» і стаў Васілём Віткай у 1944-м. У тых захаваных лістах — гісторыя таго, як чалавек становіўся сабой. І кахання, канечне ж, кахання.

Кожнае новае пакаленне думае, што менавіта яно вынайшла каханне. Яны б вельмі здзівіліся, каб ім надарылася пачытаць лісты іх прадзедаў...

У лістах дзеда, цнатлівых і вельмі адкрытых, жанчына і радзіма становяцца адзіным — марай і імкненнем. Тым, чаго няма побач.

Але тая радзіма — не вялікі Савецкі Саюз, хоць і ён не ўспрымаецца чужым. Але радзіма сапраўдная— унутры Савецкага Саюза, ён называе яе «наш край», «наша зямля». «І паляцім, нібы птушкі, на нашу родную зямлю», — лейтматыў лістоў.

Не выпадкова назвай сваёй першай кніжкі ён зробіць «Горкі вырай». Зробіць, але назваць не зможа. «Рэдактар Галоўліту патрабавала, каб я пісаў так, як Лебедзеў-Кумач, што вершы мае незразумелыя. Прычапілася да назвы нават "Горкі вырай". Кажуць, Глебка з ёй праз гэта пасварыўся, абазваў яе дурніцай. Глебка — рэдактар кніжкі, і ён бараніў кожны верш. Ну, але чорт з імі... Я з імі нават справы не стану мець. Паеду некуды на Палессе».

Кніжка выйшла пад назвай «Гартаванне».

Дзед усё жыццё стараўся не мець «з імі» справы. Думаю, шмат у чым менавіта таму ён пайшоў у дзіцячую паэзію. У ёй было меней патрабаванняў да ідэалагічнага зместу. А яшчэ ў ёй была прастора для жарту, фантазіі, забавы і словатворчасці.

Знайшлі пеўні
зломак-грэбень.
А нашто ён ім патрэбен?
Як схапіліся сварыцца,
Потым біцца, калаціцца.
Вырваў лысаму руды
Палавіну барады.
Ледзьве я разбараніла,
Памірыцца ўгаварыла.
Рады пеўні разысціся,
Ды не могуць адсапціся.
Раптам чую голас лысага:
— Ты адкуль, дачка?
— З Барысава.
— А чыя ты?
— Дзянісава.
— Як завуць цябе?
— Ганупя.
— А што робіш?
— З вас смяюся.

Адзіны шум, які ён прызнаваў, быў шумам дзіцячай гульні. Адзіны запал, які ён дазваляў сабе прадэманстраваць, — гэта запал вясёлага настаўніцтва. Затым і ездзіў па школах — у розныя гарады і вёскі. І чытаў дзецям вершы. І вадзіў з імі карагоды. І гуляў у ручаёк. І вучыў іх сваім чыстагаворкам і лічылкам.

Драч-ірвач,
Зубны ўрач,
Што за крык,
Што за плач,
Што за гам —
Тарарам?
— Зубы рву
Камарам,
Каб не грызлі камары
Доктаравай дзетвары.

Ён атрымліваў асалоду ад гульняў не меней, чым яны. Ён разумеў дзяцей, і яны разумелі яго.

### А пілі па кропельцы

Дзед быў інтраверт і не любіў адхіленняў ад працоўнага графіка. З сябрамі ён размаўляў штовечар, падоўгу гуляючы разам па парку Янкі Купалы ўздоўж ракі, не за сталом. Бяседы ў нас былі рэдкімі і малалюднымі: толькі для сваякоў. Пры гэтым




### Сапраўдны фаршмак

Яшчэ адзін просты рэцэпт ад маёй бабулі Вольгі Рыгораўны.

**Інгрэдыенты:** два вымачаныя ў малацэ селядцы (да ступені слабай салёнасці). Трохі алею. Кропля воцату або сок адной долькі лімона. Тры крутыя яйкі. Адзін буйны салодкі яблык без лупіны. Сярэдніх памераў цыбуліна. Кавалачак батона без скарынкі, вымачаны ў малацэ і адціснуты.

Селядзец, бялкі, батон, яблык, цыбуля пракручваюцца тройчы (каб здрабніць і змяшаць да дасканалай аднастайнасці). Дадаецца воцат або лімон на смак, алей, усё старанна змешваецца. Зверху можна для прыгажосці пакрышыць жаўткі. Можна пасыпаць зялёнай цыбуляй. Маё ноу-хау: на першым этапе можна дадаць яшчэ жменьку растоўчанага ў пудру грэцкага арэха.

### «Нервова шкелачкі працёр»

У пісьменніцкіх асяродках былі добра вядомыя сціпласць Віткі і ягоная абыякавасць да спажывальніцтва. Характэрна, што нават Ніл Гілевіч у напісанай у 1970-я гады сатырычнай паэме «Сказ пра Лысую Гару», знайшоўшы чым пакпіць практычна з кожнага калегі, Вітку ім супрацьпаставіў. У пачатковым раздзеле паэмы «Дзяльба», калі на пісьменніцкім сходзе ўсе сварацца і самавыхваляюцца, намагаючыся выбіць для сябе найбольш зручны ўчастак пад лецішча, Вітка ад гэтага свядома ўхіляецца:

*Тады змяніўся з твару Вітка,*
*Нервова шкелачкі працёр,*
*Яму, напэўна, стала брыдка,*
*Бо выйшаў ціха ў калідор.*
*«Ну і актыўнасць, — думаў горка, —*
*Такая зроду не была.*
*О, каб і творчая гаворка*
*На ўздыме гэтакім ішла!..»*




**У адным доме з Віткай на Карла Маркса, 36** жылі Уладзімір Караткевіч, Ніл Гілевіч і Іван Шамякін.

калі я — заўсёды экспромтам — прыцягвала ў дом кагосьці, ад сяброў да выпадковых знаёмых, госця абавязкова кармілі абедам і распытвалі пра яго жыццё. А потым, часам праз гады, цікавіліся ў мяне, як яна ці ён маецца.

## Духі дарыў не толькі родным, але і паштальёнцы, што прыносіла пенсію

На бяседы збіраліся заўсёды а другой гадзіне дня (раніцай дзядуля паспяваў яшчэ папрацаваць). Нават на Новы год сядалі за стол а другой дня першага студзеня: я доўга не ведала, што новы год надыходзіць ноччу. Ніколі не елі шмат, а пілі наогул па кропельцы. У асноўным гэтыя бяседы ажывалі нашымі з татам агністымі спрэчкамі пра палітыку. Але памятаю, як на 80-годдзе дзеда гэты пратакол быў парушаны: сабралася шмат гасцей, Ніл Гілевіч і Янка Брыль дзівосна спявалі дуэтам беларускія, украінскія, польскія песні, песні па-руску і на ідышы. Дзед, чалавек увогуле ціхі, разгарачыўся і стаў падпяваць: у Гілевіча быў бас, у Брыля барытонавы бас, у дзеда цалкам прыстойны тэнар.

На 9 Мая за абедам дзед наліваў сабе палову чаркі віна, бабулі кропельку, яны моўчкі чокаліся. 7 Лістапада не святкавалася ніколі. На 8 Сакавіка дзед ішоў у краму «Чараўніца» на Ленінскім праспекце (цяпер праспект Незалежнасці) і пасля доўгай кансультацыі з прадаўцамі купляў духі: дарагія — бабулі, крыху таннейшыя — мне і цётцы. І яшчэ адны: для паштальёнкі Олі, што прыносіла яму пенсію.

### Беларускае і яўрэйскае

Бабуля была яўрэйкай, дзед беларусам. У гэтым не было экзотыкі, у тыя гады гэта было ▶

вельмі распаўсюджана ў асяроддзі інтэлігенцыі, у прыватнасці, у беларускім пісьменніцкім асяроддзі.

Сям'я бабулі была цалкам асіміляванай: з яе замужніх сямі сясцёр чатыры былі замужам за беларусамі, жанаты з беларускай быў і яе малодшы брат. Ідыш бабуля ведала, але ніколі на ім не размаўляла, толькі лаялася часам сабе пад нос, каб я не разумела лаянкі.

Сям'я была нерэлігійнай. Але памятаю, што кожную вясну на стале з'яўляліся дзіўныя сухія мучныя лісты. Я іх не любіла, а дзядуля вельмі любіў есці з імі ўпрыкуску булён. Гэта была маца, якую бабуля недзе купляла да Песаха (слова «Песах» не прамаўлялася). А праз два тыдні бабуля ідэальна роўна і прыгожа фарбавала яйкі. Хоць слова «Вялікдзень» таксама не прамаўлялася. Што гэта рэчы «з розных опер», я зразумела толькі дарослай.

А калі бабуля памерла, мой заўсёды акуратны дзед упершыню ў жыцці не пагаліўся. Я думала, што ў яго ад гора моцы не было. Але ён патлумачыў мне, што гэта яўрэйская жалоба — не галіцца месяц. Неяк неўпрыкмет суіснавалі беларускае і яўрэйскае ў адной сям'і. Ніхто на гэтым не факусіраваўся.

## «Добра' здароўя!»

Васіль Вітка заўжды вітаў знаёмых фразай «Добра' здароўя!» («Добрага здароўя»). Больш ні ў каго такой формы прывітання я не згадваю.

## Як дзіцячы пісьменнік Васіль Вітка развіваў уласных унукаў

Педагагічны прынцып абсалютна бязмежнага развіцця. Напрыклад, для мяне не існавала «дарослых» і «дзіцячых» кніг, чытаць можна было абсалютна ўсё і ў любым узросце.

Узаемадзеянне і навучанне праз гульню. Жарт, ласка. Падтрымка любой добрай, нават самай недарэчнай ініцыятывы. Беражлівыя адносіны да думак дзіцяці (запамінаў і запісваў), да яго працы (захоўваў усе мае малюнкі, прыдумляў ім назвы, часта смешныя, расстаўляў даты, надпісваў «Малюнак Юлі»). Вельмі шмат прыдумляў і шанаваў мае прыдумкі.

Дзед уважліва сачыў за дынамікай развіцця дзіцяці, мяняў свае правілы ў адпаведнасці з ёй, ускладняў задачы.

Калі настаўнікі ў школе казалі мне: «Будзь працягвай», то ён стараўся зрабіць усё, каб я была больш складанай.

**Калі бабуля памерла, мой дзед упершыню ў жыцці не пагаліўся. Я думала, што ў яго ад гора сілы не было. Але ён патлумачыў мне, што гэта яўрэйская жалоба — не галіцца месяц**

## Як сын забітага бацькі

Мой дзед не любіў дэманстрацыі пачуццяў. Дазваляў сабе яе толькі ў лістах да каханай жанчыны і ў зносінах з дзецьмі. Мне і маёй сястры Марыі тут пашанцавала нашмат болей, чым іншым яго чытачам. Зрэшты, пра адзін выпадак, калі пачуцці ўсё ж неяк адолелі яго на публіцы, ён успомніць у дзённікавым запісе ад 7 красавіка 1995 года.

Было гэта ў Дзень Перамогі. Сям'я яшчэ мінулым летам вярнулася з свайго «горкага выраю» ў Мінск, у малюсенькі пакойчык, дзе ўсіх чацвярых прытуліў пісьменнік-франтавік Мікола Лупсякоў.

9 мая 1945 года яны былі ў Еўлічах. Раптам у хату забеглі



ФОТА АНАТОЛЯ КАЛЯДЫ

**Васіль Вітка з дачкой Наталляй, унучкай Юліяй і сябрам па пяры Алесем Бачылам** каля Дома кнігі «Светач». Мінск, жнівень 1980 года.

настаўніцы з радаснай весткай. Запрасілі дзеда выступіць перад аднавяскоўцамі на імправізаваным мітынгу.

Яму, 33-гадоваму, было няёмка вось так стаяць у цэнтры і гаварыць, нібы ён заезджы госць і вялікі начальнік. Але ён гаварыў. Гаварыў, саромеючыся ўрачыстасці, узнёсласці, без якой у той дзень не змог абысціся. Ён гаварыў, а людзі плакалі. Дзед разумеў, што гэтыя слёзы выкліканыя не высокімі словамі, а ранай, якая рве сэрцы кожнага. І плакаў сам, не як «інжынер чалавечых душ», а як сын забітага фашыстамі бацькі.

### Цанілася вернасць

Я не прыхільніца савецкай рэчаіснасці. Але і добрае памятаецца. Часам яно з'яўляецца працягам дрэннага, а часам наадварот. У той час з прычыны адсутнасці лёгкіх і разнастайных забаў людзі вельмі цягнуліся да людзей. Да размовы і цяпла.

Гэта быў час, калі чалавек найбольш поўна на маёй памяці рэалізоўваўся ў сяброўстве. Без сяброў не пражывае ні дня, ні падзеі. Вельмі шанавалася вернасць: сябру, справе...

Добрых кніг было не купіць, іх здабывалі, даставалі, бралі пачытаць, перадавалі адно аднаму (асабліва самвыдат і тамвыдат). Кніга была не толькі «найлепшым падарункам», не толькі крыніцай ведаў або забавы, яна таксама была нечым накшталт сябра.

Сябры — і рэальныя, і літаратурныя — змешваліся: нашы сяброўствы ў нечым таксама былі кніжнымі. Але гэта не значыць — пустымі або кепскімі.

Было сорамна не ведаць, ці не прачытаць, ці не схадзіць на прэм'еру або на студзеньскі фестываль джаза. І нават тыя, хто рабіў усё гэта з меркаваннеў свайго роду прэстыжу (а інтэлігентнасць была прэстыжнай), паступова ўцягваліся і пачыналі гэтым жыць, вастрылі густ і мараль, бо этыка і эстэтыка — рэчы дзіўна звязаныя.



ФОТА ВАЛЯНЦІНЫ АНДРЭЕВАЙ

Надмагільны помнік па дзеду на Паўночных могілках ставіла мая цётачка Наташа, у яе была схільнасць да канструктывізму. Мне здаецца, для яе асабліва важна было зрабіць дзедаў подпіс на пліце. Я спрабавала пасадзіць там дрэвы — не прыжываюцца.

Даўно падумваю пра тое, што трэба было б замяніць помнік. Маральная праблема ў тым, што гэты помнік і Наташына просьба, яе «след» побач з бацькамі: сама яна пахаваная ў Маскве...

Затое мемарыяльная дошка дзеду на Карла Маркса, 36 работы скульптара Аляксандра Шапо паводле партрэта Арлена Кашкурэвіча цалкам адпавядае майму густу. Карыстаюся з выпадку падзякаваць і Аляксандру, і мастацкаму кансультанту Ганне Трусавай, і Таццяне Навасельскай, якая займалася ўсімі арганізацыйнымі пытаннямі па ўсталяванні гэтай дошкі.

## «Што сказаць мне пра жыццё? Што аказалася даўгім»

У краіне, дзе панавала сістэма, людзі стваралі сабе своеасаблівыя анклавы для жыцця: рэзервуары паветра ў беспаветранай прасторы. У гэтых анклавах, дарэчы, вельмі шанавалася рэпутацыя. Гэта цяпер шмат навін і плётак і ўчарашняе заціраецца сённяшнім, фокус увагі перамяшчаецца... А тады подлым учынкам ты выкрэсліваў сябе са свайго атачэння, і гэта помнілі доўга, дзесяцігоддзямі. Таму, напрыклад, баязлівасць была больш відавочная і менш даравальная. Але я кажу пра 1980-я, пра часы вегетарыянскія, пасляссталінскія, якія на памяці...

Савецкі час быў вельмі розным.

### Не здацца

Чаго найболей страшыўся Васіль Вітка? З яго дзённікаў вынікае, што дзядуля вельмі баяўся не апраўдаць сваіх патрабаванняў да сябе ж. Баяўся праявіць слабіну, спалохацца, скарыцца перад сілай, здзейсніць неінтэлігентны, нягодны ўчынак. Але ён справіўся — не здаўся.

Мой дзед памёр у 1996 годзе, 5 ліпеня.

«Што сказаць мне пра жыццё? Што аказалася даўгім», — цытаваў ён Іосіфа Бродскага, якога адкрыў для сябе незадоўга перад смерцю. ◆




**Равіч Славамір. Доўгі шлях.** — Мінск: Кнігазбор, 2021. — 272 с.

Упершыню на беларускую мову перакладзены сусветны бестселер паводле ўспамінаў ураджэнца Беларусі. І хоць аўтар, відаць, апісаў не сваю ўласную гісторыю, яна кранае і дае сілы рухацца наперад.

…Увосень 1939 года малады паручнік польскай кавалерыі Славамір Равіч трапляе ў самае пекла пачатку Другой сусветнай вайны. Пасля паразы польскага войска ён вяртаецца ў родны Пінск, але тут яго ўжо чакаюць. Да поўнага выратавання герой Славаміра Равіча прайшоў больш за 6000 кіламетраў, маючы пры сабе толькі сякеру, нож і мару пра свабоду.

**Цвікевіч, Аляксандр. Збор твораў: у 2-х тамах. Том 1: Гістарычныя працы.** — Смаленск: Інбелкульт, 2021. — 864 с.




Аляксандр Цвікевіч — адзін з найбольш выдатных беларускіх дзеячаў, якія прысвяцілі жыццё барацьбе за незалежнасць Бацькаўшчыны. Стаяў ля вытокаў дыпламатыі Беларускай Народнай Рэспублікі, у эміграцыі ўзначаліў яе Міністэрства замежных спраў, стаўшы затым кіраўніком урада. Пасля вяртання ў БССР як вучоны сакратар Інбелкульта актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі і станаўленні беларускай навукі. У гэты перыяд, у другой палове 20-х, нягледзячы на мізэрна кароткі час, адведзены, як высветлілася, беларускім навукоўцам, паспеў стаць адным з найбольш адметных айчынных гісторыкаў.

Гэты збор твораў быў задуманы і збольшага ўкладзены вядомым беларускім навукоўцам, доктарам навук Арсенем Лісам (1934–2018). На жаль, яму ўжо не дадзена было пабачыць вынік сваёй працы.

Першы том збору твораў Аляксандра Цвікевіча змяшчае ў сабе гістарычныя і гісторыка-публіцыстычныя працы, у тым ліку «Заходнерусізм», «Адраджэнне Беларусі і Польшча», «Інстытут беларускае культуры», якія выйшлі пры жыцці аўтара асобнымі кнігамі, дзве брашуры, прысвечаныя гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, і шэраг артыкулаў на адпаведную тэматыку. Публіцыстыка і творчасць Аляксандра Цвікевіча ў цэлым падрабязна ахарактарызаваныя ў прадмове аўтарства Арсеня Ліса. Біяграфію дзеяча напісаў кандыдат гістарычных навук Аляксандр Горны.




**Канчэўскі, І. Адвечным шляхам: эсэ, вершы.** — Мінск: Зміцер Колас, 2021. — 88 с.

Серыю Gradus пачынае публікацыя філасофскага даробку Ігната Канчэўскага (1896–1923), прымеркаваная да 100-годдзя першага выдання эсэ «Ад вечным шляхам». Таксама пад адной вокладкай сабраныя 11 вершаў Канчэўскага, вядомыя да гэтага часу. Тэксты друкуюцца паводле першых выданняў і рукапісаў з захаваннем аўтарскага правапісу.

У эсэ «Адвечным шляхам» Ігнат Канчэўскі сфармуляваў тры тэзы нацыянальнай ідэі беларусаў, якія актуалізаваліся ў наш час. Гэта быццё паміж, няспынная творчасць і кааперацыя.

**Александровіч Станіслаў. Картаграфія Вялікага Княства Літоўскага XV да сярэдзіны XVIII ст.** — Мінск: Тэхналогія, 2021. — 304 с.

Станіслаў Александровіч (1931–2015) нарадзіўся ў Вільні, але род яго паходзіў з-пад Браслава. Усё жыццё ён меў сантымент да Беларусі, лічыў наш край сваёй другой радзімай.




У гэтай кнізе навуковец даў грунтоўны аналіз найбольш значных мапаў Вялікага Княства, а таксама канчаткова ўстанавіў, што першае выданне Радзівілаўскай мапы Вялікага Княства Літоўскага, падрыхтаванае ў Нясвіжы каля 1603 года, існавала.

Шукайце ў мінскіх кнігарнях **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72) і **«Галіяфы»** (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе), у гандлёвым цэнтры **«Купалаўскі»** (пад Кастрычніцкай плошчай), крама 41–42, інтэрнэт-кнігарнях **kniganosha.by, knihi.by, tn.by, arche.by**.



**Чэслаў Мілаш** у 1988 годзе. Берклі (Каліфорнія, ЗША).

ФОТА НЭНСІ ЭЛІСАН

# *Небяспечнае падарожжа* ЧЭСЛАВА МІЛАША

**Нобелеўскі лаўрэат Чэслаў Мілаш некалі лічыў найлепшым дансінг у Баранавічах, а ў Оршы ледзь не згубіўся. Ён быў адным з самых тонкіх лірыкаў ХХ стагоддзя, а Беларусь была неад'емнай часткай яго мінулага, піша Сяргей Грунтоў.**

У часы акупацыі ці тыраніі кожнаму даводзіцца рабіць няпросты выбар між грамадскім і прыватным, рызыкай і бяспекай, падпарадкаваннем ці супрацівам. І такі выбар не адзін — ён становіцца штодзённасцю чалавека ва ўмовах несвабоды, можа кардынальна змяняць траекторыю ягонага жыцця. Пра гэта цягам нямецкай акупацыі і камуністычнага рэжыму ў Польшчы давялося даведацца Чэславу Мілашу, славутаму паэту і нобелеўскаму лаўрэату.

Але да лаўровых вянкоў яму яшчэ далёка. Летам 1939 года ён, 28-гадовы малады паэт і супрацоўнік Польскага радыё, едзе на адпачынак у Глыбокае, у дом сваіх бацькоў.

## Апошняе лета. Глыбокае – Баранавічы – Паўлінава – Косава – Варшава

Гэта першы прыезд Чэслава сюды пасля таго, як у 1937 годзе ён вымушаны быў перабрацца ў Варшаву з Вільні, дзе новы ваявода-шавініст зрабіў немагчымай яго далейшую працу на радыё. Мілаш узору 1930-х гадоў шчыра падтрымлівае левыя ідэі, спачувае праблемам ▸

нацыянальных меншасцяў, знаёмы з Максімам Танкам, запрашае выступаць на радыё беларускі хор. Мясцовым уладам гэта косткай у горле — і ён пераязджае ў сталіцу з яе больш ліберальным і насычаным інтэлектуальным жыццём.

Глыбокае, цэнтр памежнага Дзісенскага павета, ва ўспрыманні Мілаша — экзатычны край, край не толькі краіны, але і цывілізацыі. «Нават яўрэі гавораць тут па-беларуску, пануе брушны тыф, сяляне ходзяць у лапцях і маюць гаршчочкі залатых рублёў — вельмі багатыя ваколіцы — лён», — піша ён у сваім жнівеньскім лісце. Бацька Аляксандр, некалі інжынер Расійскай імперыі, які будаваў масты над сібірскімі рэкамі, цяпер кіруе дарожнай службай павета і мае ўласны «Форд», які праз месяц уратуе жыццё яму і ягонай сям'і.


ФОТА УЛАДЗІМІРА СКРАБАТУНА, VGLYBOKAYE.BY

**Драўляны дом Мілашаў у Глыбокім** захаваўся да нашага часу (цяпер гэта вул. Вольная, 20). Яго адрас здолеў знайсці ў мінулым годзе вядомы краязнаўца Кастусь Шыталь. Тут мог бы з'явіцца музей нобелеўскага лаўрэата.


MILOSZ.PL

**Чэслаў Мілаш у 1930-я гады.** Ён шчыра падтрымлівае левыя ідэі, спачувае праблемам нацыянальных меншасцяў, знаёмы з Максімам Танкам, запрашае выступаць на радыё беларускі хор.

З Глыбокага ён едзе ў маёнтак Паўлінава каля Баранавічаў, у госці да Бохвіцаў. «Вялікія лясы, у лясах зручны дом, мураваны, двухпавярховы, з ваннай, тэлефонам, у садзе прыгожыя фрукты і ружы, а адразу за ім сцяна елак». Тут яго чакае каханая Янька — Яніна Цэнкальская, на той момант жонка польскага рэжысёра Эўгеніюша Цэнкальскага. Разам каханкі ездзяць на экскурсію ў Косава і на танцы ў Баранавічы. Пазней ён будзе ўзгадваць гэта сярод апошніх шчаслівых момантаў мірнага жыцця. У пісанай у акупаванай Варшаве кнізе «Легенды сучаснасці» на адну паліцу дасягненняў цывілізацыі ён паставіць «дансінг у Баранавічах, гатычныя катэдры, Дантэ і Шэкспіра».

### Уцёкі і першыя страты. Варшава – Люблін – Львоў – Бухарэст

Пачатак вайны Мілаш сустракае ў Варшаве. Гітлераўцы пруць. 5 верасня адбываецца эвакуацыя супрацоўнікаў Польскага радыё. З сабою нельга браць ні жонку, ні сям'ю, таму некаторыя адмаўляюцца ехаць. Але Мілаш адзін — Яніна з мужам у маёнтку яго сваякоў пад Варшавай, і ён прымае рашэнне ехаць. Дарога вядзе ў кірунку Любліна, які тады яшчэ падаецца адносна бяспечным.

## Выпадковасць: Мілаша адправілі ў камандзіроўку на фронт. Тым часам калегі загінулі ў офісе пад бомбамі

Калі прыходзіць распараджэнне адправіць частку абсталявання на фронт, Мілаш пагаджаецца яго суправаджаць. Рызыкоўнае рашэнне, якое, аднак, ратуе яго ад значна горшай небяспекі. Вярнуўшыся з задання ў Люблін 9 верасня, ён даведваецца, што некалькі гадзін таму прайшла вялікая бамбардзіроўка горада, пад якую трапілі ягоныя калегі.

Сярод загінулых — сябра і паэт Юзаф Чаховіч.

Фронт насоўваецца, даводзіцца бегчы далей — у Львоў. Сітуацыя ўсё болей нагадвае хаос. Што рабіць — невядома, як і невядома, што з блізкімі: бацькамі і каханай. Тут Мілаш сустракае Яна Тарноўскага, даўняга знаёмага, які мае ўласны аўтамабіль і добры запас паліва. Разам яны вырашаюць вяртацца ў Варшаву і ўжо рушаць у дарогу, але гэты дзень — 17 верасня. Спачатку яны заўважаюць самалёты на нізкім палёце, а пасля даведваюцца, што савецкія танкі перасеклі мяжу.

У той жа сітуацыі, праўда, не маючы машыны, славуты польскі мастак і пісьменнік Станіслаў Ігнацы Віткевіч (Віткацы) скончыць жыццё самагубствам раніцай наступнага дня. Але Мілаш і Тарноўскі — разам упэўненасці больш — імчаць у бок румынскай мяжы. Яны пераходзяць яе, як і яшчэ каля 50 тысяч польскіх грамадзян, і неўзабаве апынаюцца ў Бухарэсце.

Польшча знікае з карты Еўропы меней чым за месяц. Мілаш адчувае глыбокую дэпрэсію, пачуццё віны, а паралельна дасягае піку ў сваіх левых сімпатыях. Публіцыстыка гэтага перыяду ў яго такая радыкальная, што яе адмаўляюцца друкаваць, а праз дзесяцігоддзі ён і сам саромеецца, што такое пісаў.

У Бухарэсце Мілаш даведваецца, што Яніна вярнулася ў Варшаву, бо спадзявалася, што ён застаўся, і там чакае яго. Прыходзіць вестка і ад бацькоў: яны здолелі ўратавацца літаральна ў апошнюю хвіліну. Зранку пачулі, як грымяць савецкія танкі, уязджаючы ў Глыбокае, выбеглі з дому ў чым былі, схапілі з сабою валізу з каштоўнасцямі і паспелі выехаць на сваім аўто ў кірунку Вільні. Пад уплывам гэтых навін ён адмаўляецца ад прапаноў выехаць спачатку ў Францыю, а пасля ў Харватыю — краіны, якія тады яшчэ маглі падавацца бяспечнымі. Замест гэтага яму ўдаецца вырабіць сабе літоўскія дакументы, і ён выпраўляецца ў небяспечнае падарожжа праз тэрыторыю СССР дадому. Вільня з ваколіцамі ў кастрычніку 1939 года паводле міждзяржаўнага пагаднення была перададзена саветамі Літве.

### Вяртанне. Бухарэст – Кіеў – Орша – Коўна – Вільня – Варшава

«Гэты Кіеў быў апошнім дантаўскім колам. Гэта трэба ▶



**Маёнтак Паўлінава** каля Баранавіч.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

▸ зазнаць, каб зразумець тую агіду без межаў, той смутак халоднага казюркавага пекла». Зімовага падарожжа праз Савецкі Саюз у 1940 годзе аказалася дастаткова, каб назаўсёды вакцынаваць Мілаша ад левых сімпатый. Ён разумее, што здабытыя дакументы могуць выклікаць падазрэнне і на любой станцыі яго могуць арыштаваць — у чарговай зале чакання, дзе холад, галеча, людзі з дзецьмі на падлозе і вокрыкі міліцыянтаў. «Найгоршае няшчасце, якое можа здарыцца з чалавекам, — гэта стаць савецкім грамадзянінам», — піша ён пасля падарожжа.

Цягнік напханы людзьмі, дарога вядзе на поўнач, у Оршу. Менавіта тут, як здаецца яму, ён згубіўся на вакзале шасцігадовым хлопчыкам, а бацькі ледзь не з'ехалі без яго.

*Орша — дрэнная станцыя. У Оршы*
*цягнік можа стаяць і суткі.*
*Таму, можа быць, гэта ў Оршы*
*згубіўся я, шасцігадовы,*
*І цягнік рэпатрыянтаў рушыў,*
*пакідаючы мяне*
*Назаўсёды. Нібыта я зразумеў,*
*што буду некім іншым,*
*Паэтам іншае мовы, з іншым лёсам.*
*Нібыта прадбачыў канец свой*
*ля берагоў Калымы,*
*Там, дзе дно мора бялее ад чарапоў*
*чалавечых.*

Гэта адчуванне згубленасці, магчымасці страціць уласны лёс перагукаецца ў ім са страхам малога хлопчыка, які згубіў бацькоў, — страхам, што будзе суправаджаць яго ў найбліжэйшыя гады жыцця, адчаем, які да канца не знікне ніколі.

Праз Віцебск і Дзвінск (Даўгаўпілс) паэт нарэшце дабіраецца да Коўна, дзе сустракаецца з бацькамі і братам Аляксандрам. Ён наведвае сяброў, ездзіць у родны маёнтак, а паралельна клапоціцца пра

**Зімовага падарожжа праз Савецкі Саюз у 1940 годзе аказалася дастаткова, каб назаўсёды вакцынаваць Мілаша ад левых сімпатый**

атрыманне патрэбных дакументаў для выезду ў Швецыю для сябе і Яніны. Нарэшце ўсё зроблена і падрыхтавана, але Яніна не можа наважыцца на самастойны пераход «зялёнай мяжы». У красавіку немцы перапыняюць авіязлучэнне са Стакгольмам, усё аказваецца марным — і Мілаш едзе ў Вільню, у горад свайго юнацтва.




WIKIMEDIA COMMONS

**Глыбокае** ў 1930-я гады.

15 чэрвеня 1940 года, седзячы ў кавярні насупраць Катэдры, паэт чуе грукат савецкіх танкаў, якія ўязджаюць у горад. Ніякіх ілюзій наконт таго, што адбываецца, у яго няма, і ён плануе ўцёкі ў Варшаву. План — чыстае вар'яцтва. Трэба тройчы нелегальна перайсці межы, каб кружным шляхам праз Сувалкі і Усходнюю Прусію перабрацца ў Генерал-губернатарства (так пры немцах сталі звацца акупаваныя тэрыторыі Польшчы) і акупаваную Варшаву. У Сувалках ён упершыню бачыць, што такое нацысцкая акупацыя: амаль апусцелы горад, усё насельніцтва вывезенае на працы ці замкнёнае ў гета.

Ва Усходняй Прусіі мясцовы жыхар здае іх паліцыі — Мілашу даводзіцца з'есці свой літоўскі пашпарт. У Астраленцы яго па твары б'е гестапавец, бо ўцякач не ведае, што, пабачыўшы яго, мусіць зняць шапку і сысці ўбок. Але, нягледзячы ні на што, ён дабіраецца да Варшавы, дзе знаходзіць Яніну. Падарожжу, якое зацягнулася на дзесяць месяцаў, прыходзіць канец.

## Як жыць пад акупацыяй. Варшава

У польскай сталіцы Мілаш даведваецца новы парадокс: аказваецца, можна раптам адчуць невядомую дагэтуль свабоду ў сітуацыі вайны і акупацыі. Старыя статусы, абавязкі, сацыяльныя сувязі раптам знікаюць, жыццё зводзіцца да простых рэчаў, а старая максіма пра «жыві кожны дзень як апошні» раптам аказваецца натуральным прынцыпам існавання.

У акупаванай Варшаве Мілаш на свой лад шчаслівы. Ён жыве разам з каханай жанчынай (муж яе ўцёк за мяжу), іх усе


MILOSZ.PL

**У віленскай кавярні Рудніцкага.** Цяпер у гэтым будынку (пр-т Гедыміна, 2) амбасада Ірландыі.

ўспрымаюць парай, і пэўны час на кватэры разам з імі жывуць яе бацькі. Паэт знаходзіць сабе працу — фізічную і на свежым паветры. А да таго ж вельмі сімвалічную: ён уладкоўваецца ў бібліятэку Варшаўскага ўніверсітэта грузчыкам і дапамагае разбіраць завалы разбомбленага ў 1939 годзе палаца Сташыца, пад руінамі якога апынулася бібліятэка Французскага інстытута. Ці варта казаць, што ў гэты час ён шмат чытае па-французску, а заадно перакладае трактат філосафа Жака Марытэна аб прычынах паразы Францыі ў 1940 годзе.

Праца на бібліятэку дае стабільны, але мізэрны даход, даводзіцца падпрацоўваць перапродажам рэчаў на чорным рынку. Але беднасць не перашкаджае весяліцца: «Сапраўдныя папойкі пачаліся ў Варшаве ў час акупацыі — з Ежы Анджэеўскім і Янькай». Анджэеўскі — ягоны сябра і пісьменнік, утраіх яны амаль неразлучныя ў гэтыя гады. Ежы адчайна смелы: паводзіць сябе так, нібы акупантаў увогуле няма, часам жартуе з афіцэраў гестапа, але кожны раз яго неяк абмінала ліха.

Атмасферу варшаўскіх вечарын можна ўявіць па розных, захаваных то тут, то там узгадках: «На вечарынках у ваеннай Варшаве, калі госці працягвалі піць пасля каменданцкай гадзіны, я са здзіўленнем заўважыў у жаночай часткі кампаніі патрэбу скідаць з сябе ўсё [адзенне] — магчыма, пастаянную, якая вызвалялася дзякуючы алкаголю».

Іншы прыклад — гульня ў «морды», у якой Мілаш быў майстрам. Гулялі так: два чалавекі станавіліся адзін насупраць ▸


WIKIMEDIA COMMONS

**Чыгуначны вакзал у Оршы** ў час Другой сусветнай вайны.

адначасова стукалі лбом аб падлогу, а паднімаючы галаву ў трэці раз, строілі нейкую «морду», напрыклад, Гітлера ці Сталіна. Самай смешнай у акупаванай Варшаве ў Мілаша атрымлівалася «морда» Бога.

Паралельна Чэслаў і Яніна вядуць актыўнае (і цалкам нелегальнае) творчае жыццё. Яніна чытае лекцыі на курсах для кінааператараў пра тое, як здымаць злачынствы немцаў і акцыі супраціўлення. Мілаш самвыдатам публікуе зборнік новых вершаў, разам з Анджэеўскім выдае літаратурны часопіс, піша кнігу эсэ «Легенды сучаснасці», вучыць англійскую мову, перакладае для падпольнага тэатра п'есу «Як вам падабаецца» Шэкспіра, а таксама «Бясплодную зямлю» Эліята — і гэта без уліку драбнейшых перакладаў, вершаў і публіцыстыкі.

Мілаш увесь час балансуе паміж дзвюма крайнасцямі: вострым перажываннем катастрофы навокал і дзіўным унутраным спакоем, адчуваннем прыгажосці свету, якая нікуды не знікае. У красавіку 1943 года ў цёплую ноч яны стаяць на балконе ў камяніцы аднаго з варшаўскіх прадмесцяў і чуюць крыкі з боку гета, якое знішчаюць нацысты. «Было нешта асабліва жорсткае ў гэтым спакоі ночы, прыгажосць якой і чалавечыя крыкі білі ў сэрца адначасова. Мы не глядзелі адно аднаму ў вочы». Праз некалькі дзён, едучы трамваем, ён бачыць, як людзі катаюцца на каруселі ля самых муроў гета, і піша адзін з самых знакамітых сваіх вершаў «Кампа дзі Ф'ёры», строфы якога застаюцца ў памяці як фотаздымак:

*Вецер з дамоў гарэлых*
*Чорных паветраных змеяў*
*Прыносіў, і іх хапалі,*
*Хто ехаў на каруселі.*
*Ўздымаў сукенкі дзяўчатам*
*Той вецер з дамоў гарэлых,*
*Смяяўся натоўп вясёла*
*Прыгожай варшаўскай нядзеляй.*

## Выратаванне. Варшава – Гошыцы – Кракаў

Пачатак паўстання, 1 жніўня 1944 года, застае Мілаша ў Варшаве. Разам з Янінай яны трапляюць пад кулямётны абстрэл проста на вуліцы, цудам застаюцца цэлыя, дапаўзаюць да камяніцы, дзе жывуць знаёмыя, і тут завісаюць амаль на два тыдні. 13 жніўня немцы пачынаюць падпальваць жылыя дамы ў квартале — трэба бегчы.

Дварамі, прысадамі і агародамі, пад гукі кананады, між гестапаўцамі і ўласаўцамі яны ўсё ж выбіраюцца за межы горада і бягуць далей. Часовы прытулак знаходзяць у селяніна ў адной з мазавецкіх вёсак, да якога Мілаш наймаецца капаць бульбу. Працуюць за ежу, ні грошай, ні запаснога адзення няма — яго адабралі рабаўнікі па дарозе з Варшавы, – насоўваецца зіма, і што далей рабіць — невядома. Мілаш рассылае лісты знаёмым на правінцыі з просьбай даць ім прытулак і нарэшце 1 лістапада атрымлівае станоўчы адказ ад Ежы і Ганны Туровічаў з Гошыцаў пад Кракавам. Іхні маёнтак становіцца іх апошнім ваенным прытулкам. 17 студзеня ў гэтую мясцовасць уваходзяць часці Чырвонай арміі — і ўжо праз некалькі дзён Чэслаў і Яніна выпраўляюцца ў вызвалены Кракаў.




**Экслібрыс з партрэтам Чэслава Мілаша** работы Лембіта Лепа.

## Дамова з д'яблам. Кракаў – Варшава – Лондан – Нью-Ёрк

Польшча вызвалена ад нямецкіх акупантаў, але радасць — прызабытае пачуцце на кракаўскім бруку. Адбываюцца рабаванні, паўсюль савецкія салдаты і патрулі, у горад вяртаюцца гаротныя ўцекачы і выжылыя ў нямецкіх лагерах. Не хапае ежы, працы, месцаў для жылля. Вяртаюцца ацалелыя яўрэі, але знаходзяць свае крамы і дамы занятымі новымі ўладальнікамі. Летам 1945-га ў Кракаве адбываецца яўрэйскі пагром.

Мілаш піша фельетоны і вершы, але знаходзіцца ў цяжкім псіхалагічным стане. Адзіная яго мэта — з'ехаць з краіны, цяпер ужо камуністычнай. А з'ехаць немагчыма. Тады ён прыдумляе план: шукае сувязяў, каб уладкавацца ў польскае Міністэрства замежных спраў, і за тое да самога сябе адчувае агіду. Што гэта, як не калабарацыя з новымі акупантамі — цяпер ужо ідэалагічнымі, акупантамі знутры? Яму сорамна, бо ён у фаворы. З 1930-х гадоў за ім захоўваецца рэпутацыя інтэлектуала з выразнымі левымі



СА ЗБОРАЎ МУЗЕЯ ВАРШАЎСКАГА ПАЎСТАННЯ, КАЛАРЫЗАЦЫЯ МІКАЛАЯ КАЧМАРЭКА, FACEBOOK.COM/KOLORHISTORII

**1 жніўня 1944 года ў Варшаве выбухнула паўстанне супраць нацысцкіх акупантаў, арганізаванае Арміяй Краёвай.** Удзел у баях узялі каля 50 тысяч паўстанцаў, паўстанне доўжылася больш за 2 месяцы. Падаўляючы паўстанне, нацысты знішчылі сталіцу Польшчы дашчэнту. Сярод іншых, лютавалі падраздзяленні рускіх калабарантаў. Савецкія войскі падышлі на правы бераг Віслы, але дапамагчы паўстанцам не змаглі. На фота — паўстанцы на вуліцах Варшавы.

сімпатыямі, а гэта — найлепшая рэкамендацыя для новай улады.

У паваеннай Польшчы ўплывовай становіцца нефармальная «віленская група», на чале якой стаіць ураджэнец Мінска Ежы Путрамент, паэт і сябра Мілаша з 1930-х. Яшчэ ў маладосці ён сімпатызаваў камуністам, а цяпер хутка робіць кар'еру. Ён дапамагае Мілашу атрымаць патрэбнае месца, але пры гэтым кажа яму: толькі памятай — ты заключаеш дамову з д'яблам. Той усведамляе гэта і сам.

У канцы 1945 года Яніна і Чэслаў ляцяць у Лондан, а пасля пяці тыдняў там адплываюць з Эдынбурга ў Нью-Ёрк. Там Мілаш пачынае з найніжэйшай пасады, але вельмі хутка вырастае да аташэ па культуры. Дапамагаюць і ягоная працавітасць, і пратэкцыя з Варшавы: ён усё-такі адзін з самых вядомых польскіх паэтаў, такі плюс для іміджу «новай Польшчы» за мяжой.

На змену яснасці і прастаце ваенных дзён прыходзіць час падазрэнняў, адчужанасці, маральнай двухсэнсоўнасці, згрызотаў сумлення. У 1946 годзе ў Нью-Ёрку ён піша адзін з самых горкіх сваіх вершаў «Дзіця Еўропы».

*Мы, каму слодыч дня пранікае*
*да лёгкіх,*
*Хто бачыць квітненне галінаў*
*у траўні,*
*Мы лепшыя за тых, хто загінуў.*
*Мы, хто доўга смакуе*
*і пераможоўвае ежу*
*І цэніць у поўнай меры ўсе*
*забавы кахання,*
*Мы лепшыя за тых, хто пахаваны.*

Ні нараджэнне першага сына, ні вандроўкі да Ціхага акіяна ці ў лясы над Вялікімі азёрамі не могуць да канца пазбавіць яго ад гэтага настрою. Ён кожны дзень можа проста збегчы, проста не выйсці на працу, але не робіць гэтага.

У 1949 годзе Мілаш упершыню едзе на адпачынак у Еўропу. Спачатку ў Францыю, дзе польскім амбасадарам працуе Ежы Путрамент. Пасля ў Польшчу, якая робіць на яго самае цяжкае ўражанне. На вуліцах беднасць, на Мілаша ў прыгожым амерыканскім касцюме людзі глядзяць з сумессю зайздрасці і пагарды, думаючы, што ён высокапастаўлены супрацоўнік дзяржбяспекі. На чытаннях вершаў ▸




**Пасольства сацыялістычнай Польшчы ў Вашынгтоне.** Чэслаў Мілаш — другі злева, Янька — другая справа.

і літаратурных сустрэчах атмасфера нязносная: выступаюць з дагматычнымі прамовамі і лекцыямі пра сацрэалізм. Што стала з яго краінай? І як ён стаў часткай таго, што яе так змяніла?

Праз месяц ён вяртаецца ў Штаты ў стане, блізкім да роспачы.

### Падарожжа ў пастку

У 1950 годзе варшаўскае міністэрства высылае ў амбасаду ў Вашынгтоне сакрэтныя дэпешы: Мілаш нядобранадзейны, яго трэба выманіць праз Парыж у Польшчу і болей не выпускаць. У Варшаве добра разумеюць, што ў любы момант ён можа адмовіцца ехаць, таму спрабуюць закалыхаць яго пільнасць. Прыходзіць загад пра перавод у Парыж. Цяжарная Яніна ехаць не можа і ўгаворвае яго застацца, але Чэслаў усё ж выпраўляецца ў дарогу. У Францыі яму даюць розныя дзіўныя заданні, кшталту арганізацыі экскурсіі польскай дэлегацыі ў Альпы ці перапахавання парэштак мастака Юзафа Панкевіча. Але Мілаш не можа пазбавіцца думкі, што гэта толькі маскіроўка.

**Толькі цяпер ён разумее, якой цаной заключаюцца дамовы з д'яблам**

Неўзабаве прыходзіць загад аб пераводзе на пасаду аташэ па культуры ў Лондан. Але па прылёце туды аказваецца, што гэта памылка і ляцець яму трэба ў Варшаву. Праз Прагу ў польскую сталіцу ён дабіраецца 20 снежня. Тут ён здае замежны пашпарт у МЗС, а перад самым Новым годам яго выклікаюць на размову да кіраўніцтва, каб паведаміць, што прынята рашэнне пакінуць яго ў Польшчы, выязджаць адкуль ён не мае права. Пастка замкнулася.

Наступныя дні, магчыма, самыя цяжкія ў ягоным жыцці. Ён звяртаецца па дапамогу да ўсіх каго можна, але нічога нельга зрабіць. Адчай нарастае, і ўсе навокал разумеюць, што паэт знаходзіцца на мяжы самазабойства. Можа быць, толькі цяпер ён разумее, якой цаной заключаюцца дамовы з д'яблам. Урэшце дапамагае ўмяшальніцтва Наталлі Мадзялеўскай, жонкі міністра замежных спраў. Яе муж запрашае Мілаша да іх дадому, уваходзіць у ягоную сітуацыю і пасля абмяркоўвае яе з Баляславам Берутам, польскім Сталіным, прэзідэнтам Польскай Народнай Рэспублікі.

Зыгмунт Мадзялеўскі, як і Берут, ідэйны камуніст і сталініст, але Мілаш выклікае ў яго павагу, і ён шчыра лічыць, што калі той як паэт і можа быць карысны новай Польшчы, то толькі па ўласным жаданні, і што трымаць яго сілай няма ніякага сэнсу. У гэтым яму ўдаецца пераканаць Берута, і той дае


N° d'enregistrement

CERTIFIE

30 juin 1911



**Пасведчанне Чэслава Мілаша аб статусе ўцекача**, выдадзенае французскім урадам. 1957 год.

дазвол на вяртанне ў Парыж на пасаду першага аташэ.

16 студзеня 1951 года Мілаш вяртаецца ў Парыж, дзе даведваецца, што ў яго нарадзіўся сын. Але дазвол на выезд у ЗША атрымаць немагчыма. Ужо 1 лютага ён збягае з амбасады, узяўшы з сабою толькі тое, што мог вывезці таксоўкай. Так пачынаюцца амаль тры дзесяцігоддзі эміграцыі.

## Пасля

Яніна здолее прыехаць да яго толькі праз два гады. Яны нарэшце афіцыйна ажэняцца ў 1956-м. Амерыканскую візу будзе немагчыма атрымаць да 1960 года, калі яны зноў адправяцца за акіян, дзе на доўгія гады паселяцца ў Берклі. Яніна памрэ паралізаванай пасля цяжкай хваробы ў 1976 годзе. Чэслаў у 1980 годзе атрымае Нобелеўскую прэмію па


MILOSZ.PL

**Чэслаў Мілаш з сынамі** Антоніем і Пятром у 1957 годзе.

літаратуры. У наступным годзе ён упершыню за дваццаць гадоў наведае Польшчу, а канчаткова пераедзе ў Кракаў толькі праз дванаццаць гадоў. Тут 14 жніўня 2004 года і скончыцца ягонае падарожжа. ◆


YALE.EDU

У 1980 годзе Чэслаў Мілаш атрымае **Нобелеўскую прэмію па літаратуры.**

**Тарасаў, Сяргей. Еўфрасіння-Офрасіння-Афрасіння Полацкая. Яе час, яе крыж.** — Мінск: Р. М. Цымбераў, 2021. — 368 с.

У гэтай кнізе не толькі сабрана амаль усё, што мы на сёння маем пра вядомую сярэднявечную асветніцу, нябесную заступніцу Беларусі Еўфрасінню Полацкую, але і робіцца спроба ажывіць яе час, зрабіць яго чалавечым, каляровым і прадметным.

Разам з аўтарам, прафесійным гісторыкам і археолагам, чытачы змогуць прайсці па полацкіх драўляных вулічных насцілах XII стагоддзя, зайсці ў майстэрню Лазара Богшы, дзе ў 1161 годзе быў створаны знакаміты Крыж, прачытаць тое, што на самай справе пісала Еўфрасіння. Аўтар расказвае, чаму і якая «брація» ляжала ў манастыры ў Сяльцы пад Полацкам, што сустрэла прападобная Еўфрасіння падчас паломніцтва ў Святую Зямлю, якім зусім няпростым быў яе зваротны шлях да Кіева, а потым і ў родны Полацк. А таксама — якім драматычным стала яе жыццё пасля смерці і дзе, на думку аўтара, сёння знаходзіцца Крыж.

Набыць кнігу можна ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), у гандлёвым цэнтры **«Купалаўскі»** (пад Кастрычніцкай плошчай), крама 41–42, інтэрнэт-кнігарнях **kniger.by** і **kniganosha.by**.



# БАБОЎНЯ

# божыя людзі пад цёмным небам

**Мы пераехалі ў Бабоўню, калі мне было 7. Не ведаючы ніякіх гістарычных падрабязнасцей, я ўвесь час адчувала тамтэйшую іх наяўнасць. Нешта не так было з паркам вакол бальніцы: ідзеш па ім — і сэрца нібы перакульваецца. Такія краявіды звычайным вёскам увогуле не ўласцівыя. Святлана Воцінава праводзіць гістарычнае расследаванне і адкрывае яшчэ адно чароўнае месца на мапе Беларусі.**

### Слімак-слімак, пакажы рожкі

Над паркам бесперапынна кружылі, гарлапанячы на ўвесь свет, крумкачы — як прывіды з сівой даўніны, як героі, перанесеныя сюды з мудрых казак.

Да гэтай пары не забуду вялікіх калматых вусеняў шакаладнага колеру, якія так важна перапаўзалі дарожкі ў парку каля ручаёў (дзе я вельмі любіла затрымлівацца), быццам яны тут гаспадары. Паўсюль вусені як вусені — шчаўлікі кшталту капусных бялянак, лімонніц, крапіўнікаў ды адміралаў, а тут… Я потым шукала, у якога матыля можа ператварыцца такая самадастатковая істота. Падазраю, што была гэта *Arctia caja*, мядзведзіца-кая — невялічкі начны матыль з тоўстым цельцам і прыгожымі «жырафістымі» крылцамі, малюнак якіх у кожнай асобіны свой, як адбіткі пальцаў у чалавека. Яна якраз выбірае ландшафты культурныя і з вадаёмамі.



Нешта не тое было і з каменнымі пабудовамі, паўз якія мы хадзілі ў пачатковую школку: яны прымушалі затрымлівацца каля іх кожны раз з рызыкаю спазніцца на ўрок. У зарасніках пры іх вадзіліся слімакі-вінаграднікі, якія абы-дзе не водзяцца і з якімі мы вельмі любілі гуляць. Скажаш «слімак-слімак, пакажы рожкі» — і тут жа з галаграфічнай галоўкі пачынаюць вылазіць тэлескапічныя шчупальцы. Такіх паслухмяных слімачкоў яшчэ пашукаць. Пасля аказалася, што каменныя пабудовы — гэта вінакурня і склады сыравіны, узведзеныя ў пачатку XX стагоддзя прадпрымальнай пані Янінай па прозвішчы Траскуляцкая.

А вуліца, што выводзіла на дарогу да Нясвіжа? Сапраўдная брукаванка пераходзіла ў відавочна

**Вёска Бабоўня** знаходзіцца ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці, за 15 км на паўночны захад ад Капыля і за 20 км на ўсход ад Нясвіжа.

стары «панскі» тракт, абсаджаны «калібраванымі» дрэвамі.

Іншымі словамі, высакародным паходжаннем і гісторыяй тут дыхала ўсё, але нічога «такога» ніхто нам тады не расказваў.

### Пра што яшчэ мы не ведалі

Пра тое, што на могілках вёскі Бабоўня пахавана паэтка Зоф'я Трашчкоўская, у дзявоцтве Манькоўская, хросным бацькам якой быў Уладзіслаў Сыракомля і якая імя бацькі роднага, ператварыўшы ў крыптанім Адам М-скі, узяла сабе за псеўданім. Не ведалі мы пра такую паэтку, хаця ведаць ужо маглі: яе творчасць пачалі адкрываць у 1970-я, і да школьнікаў 1980-х, калі б іншыя ўмовы, яна магла б ужо дайсці. Але, здаецца, яна і да сённяшніх не дайшла. Паэтка жыла тут паблізу, у Дарагавіцы. Памерла ў 1911 годзе.

Пра васьмітычынкавы (з чырвонымі свечкамі замест белых) каштан, што рос недзе ў парку, мы таксама нічога не ведалі. Неяк ён нам не трапляўся. А мо ад старасці ўжо і не цвіў. Чырвоныя каштаны ў велізарнай колькасці я ўбачыла ў маі 1989 года, у выпускным класе, калі трапіла перад самым апошнім званком дзён на дзесяць у ГДР. Там яны квітнелі паўсюдна.

Не ведалі мы і пра суконную мануфактуру, якая тут існавала з XVII да пачатку XVIII стагоддзя, адкрытую ў той жа год, што і Тызенгаўзава ў Гродне. Праўда, калі прыезджыя, сярод якіх і мае бацькі, разважалі



PXHERE.COM

Раней у Бабоўні раслі **васьмітычынкавыя каштаны.**

пра назву вёскі, яны чамусьці апелявалі да слова «бавоўна» — яно нібыта з Бабоўняй сугучнае. І казалі тады, што раней тут выраблялі бавоўну. На самай справе, ніякую не бавоўну, а сукно самых розных гатункаў і прызначэнняў — для вайскоўцаў, манахаў, святароў, шляхцічаў і шляхцянак — з мясцовай воўны.

І пра тое, што існавалі тут на стагоддзе раней за нас дзве цагельні і выпускалі на іх нават чорную, нібы камень моцную цэглу з лагатыпам *Bobovnia*, я нічога ў той час не пачула, хоць дзяўчынкай была цікаўнай і нават уедлівай. ▶

**Зоф'я Трашчкоўская** (1847–1911) вярнулася на радзіму толькі ў канцы жыцця, але заўжды насіла Беларусь у сэрцы. Па сканчэнні віленскага пансіёна дзяўчыну выдалі замуж за афіцэра царскай арміі. З ім яна жыла ў Разанскай губерні, у час руска-турэцкай вайны — на Балканах, а потым у Ноўгарадзе. Там Зоф'я перапісвалася з высланымі паўстанцамі — паплечнікамі Каліноўскага. У гэтай перапісцы даследчыкі і знайшлі ейны адзіны вядомы беларускамоўны верш. Таксама яна перакладала для беларусаў польскія песні і вершы.

А вось той самы выпадкова адшуканы верш, прысвечаны жыхарам роднай Капыльшчыны. Даследчыкі назвалі яго «Беларуская малітва»:

Божа, наш Бацька, мы Твае людзі,
А неба цёмна ад чорных хмар.
На свеце цяжка, аж баляць грудзі,
Дзе ні пачуеш — голад, пажар.

Гулялі ветры на нашым полі
І сапсавалі нам ураджай,
І няма шчасця, і няма долі.
Божа, наш Бацька, хлеба нам дай!

Дай нам здароўя, шчыру ахвоту,
Калі з сахою пойдзем араць.
Ты бачыш цяжку нашу работу,
Дай жа пажытку з яе прыждаць!

Пашлі нам сонца з цёплай расою,
Каб зашумела ніва, як гай.
Кажуць, Ты – Бацька, мы – пад Табою;
Хлеба, і сонца, і шчасця нам дай!

*1888 год.*



ФОТА ВІЯЛЕТЫ ВОЦІНАВАЙ

Будынак былой **вінакурні.**

### ▸ Як казаў Гарацый

Бабоўня з тых вёсак, якія ў мінулым лічыліся за мястэчкі: мелі плошчы з храмамі і права на штотыднёвыя кірмашы. Гэта была тэрыторыя Капыльскага княства, уладанняў Алелькавічаў і Радзівілаў. Потым яна адміністрацыйна належала Навагрудскаму ваяводству, а гаспадарылі тут нашчадкі лівонскіх рыцараў Бітнеры, якім за заслугі быў дадзены герб «Бярновіч». Суконная мануфактура ўзнікла якраз пры Міхале Бярновічу, з якім Бабоўня і набыла рысы мястэчка. З падзелам Рэчы Паспалітай яна адышла Нясвіжскаму павету і зноў стала належаць князям Радзівілам. Апошнім з іх уладарыў тут Дамінік, вядомы сваёй прыхільнасцю да Напалеона.

Хочаце верце, хочаце не, але атмасфера Бабоўні ў часе майго дзяцінства, калі ўжо ні ад кірмашоў, ні ад храма не знайсці было ні слядоў, ні ўспамінаў, а пра Радзівілаў згадвалі толькі ў звязцы з Нясвіжам, усё ж нешта такое захоўвала. Як там казаў Гарацый? Пах, які ўвабраў у сябе новы сасуд, захавацца павінен надоўга. Зрэшты, гэта мы былі тымі сасудамі, якія ўбіралі ў сябе гістарычныя пахі.

### Што мы ўвогуле ведалі?

Што некалі на месцы бальніцы, размешчанай у згаданым парку, жыў (па іншай версіі — у ёй працаваў) добры доктар, які ратаваў людзям зрок. Імя доктара і калі дакладна ён жыў, я ніводнага разу не пачула. Хіба што аднойчы... У пятым класе з намі вучыўся хлопчык па прозвішчы Ёдка. Настаўнік спытаў, адкуль у яго гэтае прозвішча, але хлопчык не змог адказаць. Паведаміў толькі, што продкі яго не мясцовыя. Мо таму настаўнік няшмат нам распавёў: жылі тут, маўляў, Наркевічы-Ёдкі — і на гэтым усё. Магчыма, калі б з намі вучыўся сапраўдны нашчадак Ёдкаў герба «Ліс», мы маглі б пачуць больш. Але хіба мог тады з намі вучыцца хоць чый-небудзь нашчадак?


ФОТА УЛАДЗІМІРА ЦВІРКІ

У парку сення.

### Наркевічы-Ёдкі

Многія цяпер ведаюць пра Якуба Наркевіча-Ёдку — «утаймавальніка маланак», «прафесара магнетызму», «электрычнага чалавека», якога, маўляў, мы для сябе адкрылі. Пра яго і фільмы здымаюцца, і кнігі выходзяць, і маёнтак яго ў Наднёмане, трохі бліжэй да Узды, рэстаўруецца. Ён там ставіў свае электрычныя доследы, і гэта чамусьці ўзносіць яго ў вачах нашых сучаснікаў ажно да «беларускага Тэслы». А бабаўнянскі Наркевіч-Ёдка, з імем Вітольд, застаецца вядомым толькі мясцоваму краязнаўству. Гэта вельмі несправядліва, бо ў часе, які належаў яму, ён і быў тым згаданым мной добрым доктарам, прафесарам-акулістам, які ратаваў людзям зрок. Якуб у Наднёмане меў санаторый, дзе лячыў разнастайнымі сродкамі, уключаючы электрычнасць. Дык браў ён за гэта адзін рубель і дваццаць капеек за суткі. Нават са сваячкі, жонкі Вітольда, браў такія самыя грошы. А Вітольд сваіх хворых лячыў бясплатна. Прыбытак яму давала цагельня.

**Якуб Наркевіч-Ёдка браў грошы нават са сваякоў. Яго брат Вітольд лячыў бясплатна**

Дзед абодвух, Ануфрый Наркевіч-Ёдка, стаў валодаць землямі ў трохкутніку, утвораным Уздой, Капылём і Нясвіжам (слаўныя землі: на

геніяў урадлівыя), пасля таго, як нашчадкі Дамініка Радзівіла страцілі іх з-за яго пазіцыі. Радзівіл падтрымаў Напалеона, і за гэта дзяржава забрала яго землі ды выставіла на продаж. Пакупніком аказаўся згаданы Наркевіч-Ёдка. У аднаго яго сына, Атона, нарадзіўся Якуб, а ў другога, Аляксандра, — Вітольд.

Браты, дарма што калегі, не кантактавалі. Вітольд быў старэйшы ажно на трынаццаць гадоў. Якуб вучыў медыцыну ў Сарбоне, а Вітольд ездзіў па гэтыя ж веды ў Дэрпт (цяпер эстонскі Тарту), дзе на медфакультэце выкладалі прафесары-немцы. Значыць, валодаў нямецкай мовай, якую вучылі далёка не ў кожнай шляхецкай сям'і.

### Вітольд

Ён нарадзіўся ў самым канцы 1833-га, калі браць стары стыль. Па новым — у пачатку 1834-га. Значыць, казярог, з усім уласцівым гэтаму знаку перфекцыянізмам. Нарадзіўся не ў Бабоўні, а ў Пукаве, гэта побач. Вучыўся ў гімназіі ў Мінску, затым паступіў ва ўніверсітэт, потым стажыраваўся ў Берліне: удасканальваў веды па афтальмалогіі і майстэрства хірурга. У 1860-м, абараніўшы ў Варшаве дысертацыю аб парушэннях лімфазвароту ў органе зроку, Вітольд Наркевіч-Ёдка стаў доктарам медыцыны. Праз два гады, напісаўшы працу «Аб правільнай акамадацыі, акамадацыйнай прасторы і яе вымярэнні», заняў месца дацэнта афтальмалогіі пры Варшаўскай медыка-хірургічнай акадэміі. Выкладаў і ў іншых месцах. Як клінічны ардынатар працаваў у Інстытуце афтальмалогіі імя князя Эдварда Любамірскага, дзе з яго ўдзелам былі прааперыраваныя сотні вачэй з катарактай, не лічачы іншых дыягназаў. А былі сярод іх і вельмі складаныя, запушчаныя выпадкі. Увогуле, ад хваробаў вачэй, самых розных, у той час пакутавала такая вялікая колькасць людзей, што нам сёння цяжка сабе нават і ўявіць. Доктар Наркевіч-Ёдка не толькі аперыраваў хворых і вучыў студэнтаў, але і пісаў манаграфіі, і друкаваўся з артыкуламі ў шматлікіх медыцынскіх выданнях. Некаторыя з іх і сам выпускаў.

А тым часам меў ён хворыя лёгкія. На зіму 1881 года паехаў з Варшавы ў Бабоўню з тым, каб, падмацаваўшы здароўе, вярнуцца, і сапраўды яшчэ двойчы вяртаўся да працы ў клініцы і на кафедры. Але ў 1883 годзе прыняў рашэнне Бабоўні ўжо не пакідаць.

### Сядзіба-лячэбніца

Нельга нават і ўявіць, якім прыгожым быў парк вакол сядзібнага дома ў той час, калі доктар, пасяліўшыся тут назаўсёды, спраектаваў яго на свой густ, калі нават праз сотню гадоў ён уражваў. Дом, які дастаўся доктару ад бацькі, Аляксандра Наркевіча-Ёдкі, ён таксама




**На прыёме ў афтальмолага.** Малюнак з французскага часопіса XIX стагоддзя «Annales d'oculistique».



**Доктар Вітольд Наркевіч-Ёдка.**

перабудаваў: хірург павінен мець аперацыйную, перавязачную, палаты... Зрэшты, палатамі сталі і хаты мястэчка, якое пакрысе ператварылася ў нешта накшталт рэабілітацыйнага цэнтра. Здалёку і зблізку ехалі і ішлі да мясцовага пана самыя розныя людзі з надзеяй, што верне ён ім шчасце глядзець на свет здаровымі вачыма. Надзеі апраўдваліся. Доктар і сам адчуў сябе здаравейшым, удыхаючы паветра мясцовых сосен, і мог бы вярнуцца да варшаўскай практыкі, але гэтага не зрабіў: зразумеў, што тут ён таксама патрэбен, і мо нават больш, чым там.

Хвароба ўсё ж не адпусціла. Пражыўшы ў Бабоўні і праслужыўшы мясцоваму люду паўтара дзясятка гадоў, 11 лістапада 1898 года доктар Вітольд Наркевіч-Ёдка памёр.

### Памяць

Нічога, што было, ужо няма: ні сямейнай капліцы, дзе быў пахаваны доктар (магілу яго з прыходам савецкай улады разрабавалі), ні бюста, які ▶




ФОТА ВІЯЛЕТЫ ВОЦІНАВАЙ

**Аб'ява каля могілак вёскі Клецішча.** Менавіта на гэтых могілках у 1942 годзе адбыўся знакаміты Лаўскі бой.

яму паставілі (некуды знік), ні сядзібнага дома. На яго фундаменце пабудавалі бальніцу, у якую хадзіла некалі на прышчэпкі і я. Бальніца стаіць і сёння, толькі цяпер гэта бальніца сястрынскага догляду. У ёй медсястрой працуе мая аднакласніца. Сустрэчаю з ёю ажывіліся іншыя ўспаміны.

### 1980-я. Хованкі

Былі ў нас і іншыя гульні, але хованкі, здаецца, збіралі разам усіх без выключэння, хто жыў у трох нашых двухпавярховых васьмікватэрніках, а толькі ў сваім я налічваю сем дзяцей «хованкавага» ўзросту: я і мая сястра, суседскі хлопчык Алежка, брат і сястра Мікулічы, дзяўчынка з першага паверха, якая штохвілінна на некага крыўдавала, і дзяўчынка з другога паверха, якую строгая мама пускала гуляць ненадоўга. Не менш дзяцей было і ў двух астатніх дамах, а бывала, што завітвалі яшчэ і дальнія — «з вёскі».

Гулялі доўга і з вялікім запалам. Таго, хто будзе першым «вадзіць», вызначалі пры дапамозе лічылкі, паўтараючы яе да той пары, пакуль не павыбываюць усе да апошняга. Апошні і быў «водай». А лічылак мы ведалі процьму, і кожны раз нехта прамаўляў нешта новае — даўжэйшае і цікавейшае.

Былі абгавораныя месцы, дзе хавацца забаранялася: за домам і за кастрамі дроў, што стаялі паміж домам і хлеўчукамі. Бо хто цябе пойдзе туды шукаць? Пакуль аднаго вода знойдзе, іншыя «адкуюцца». Так называлі дзеянне, калі, злавіўшы зручны момант (вода адышоўся далей), можна было выбегчы з хованкі, дабегчы да краю лаўкі, паляпаць па ёй далонькай і прагаварыць, каб чуў вода: «Тукі-тукі, адкаваўся» або «Тукі-тукі, сам за сябе». Бо, калі цябе знойдзе вода, ён, паляпаўшы па той самай лаўцы, прамовіць: «Тукі-тукі Наташа Сяліцкая! За плотам сядзіць!» або: «Тукі-тукі Дамарад Света, за дзвярыма схавалася». Знойдзеныя выходзілі і чакалі, пакуль адкуюцца ўсе. Тады зноў хаваліся, з новым водай, якім станавіўся ўжо той, каго адкавалі першым. Водай быць не хацелася, таму стараліся так хавацца, каб паспець адкавацца самім. Ад гэтага гульня ішла жыва, чым вельмі ўсім падабалася. Выхапіць з яе маглі толькі матуліны галасы, якія вылятали з кухняў у адкрытыя форткі і клікалі бегчы ў дом павячэраць. Забягалі, хапалі вячэру — і зноў гуляць.



ФОТА ВІЯЛЕТЫ ВОЦІНАВАЙ

У Бабоўні за дзесяцігоддзі шмат чаго змянілася, і не ў лепшы бок. Але ёсць рэчы і нязменныя. **Першы раз за шмат гадоў убачыла тут не бутафорскае, а сапраўднае агароднае пудзіла. Як у дзяцінстве.**

## «Тукі-тукі Дамарад Света, за дзвярыма схавалася»

### Мясцовыя гутаркі

Успамінаюцца хіба два выразы, якія мяне здзіўлялі. Убачыўшы дзіця, дарослыя звярталіся да яго лісліва са словамі «мая мамачка» або «мамка мая». А калі дзіця ўмешвалася ў размову дарослых, якія выпадкова сустрэліся і пачалі гаварыць пра яго, то

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА СВЯТЛАНЫ ВОЦІНАВАЙ



Аўтарка артыкула (самая высокая, у тапках) **каля свайго дома ў Бабоўні...**

адзін з дарослых, для дзіцяці чужы, гаварыў, адсякаючы: «От і ўсё». І другі дарослы, дзіцяці родны, паўтараў за ім тонам чалавека, які пагаджаецца: «От і ўсё». «У вас дзяўчынка такая чысценькая, акуратная, не тое што мая», — кажа нейкая цётка. «Ой, што вы! Гэта ў яе ўжо другая сукенка за дзень», — рэверанснічае матуля. Бо так было заведзена: калі тваё нешта хваляць, у адказ трэба аднеквацца і трошачкі ганіць, хай сабе нават уласнае дзіця. І калі дачка ад крыўды пачынае абараняцца («Ды не пераапраналася я, мама, з раніцы ў гэтай сукенцы»), гучыць ад абодвух дарослых фірмовае «от і ўсё». Дарэчы, дзеці карэнных, а не прыезджых, як мы, жыхароў называлі бацькоў на «вы». Так называла сваю строгую маму і дзяўчынка з другога паверха.

### Школа і шлях да яе

Школа ў Бабоўні была пачатковая. Драўляны дом на два вялікія пакоі, уваход у кожны — з сянец. Налева — клас, направа — зала, спартыўная і актавая адначасова. У класе палілася печка, а пасля трэцяга ўрока тэхнічная работніца прыносіла вядро салодкага гарачага чаю, які разлівала ў шклянкі і эмаліраваныя белыя кубкі, расстаўленыя на паднос. Каму што дастанецца, але піць са шклянкі лічылася больш прэстыжным.

Да чаю давалі пячэнне, заўсёды адно і тое ж — «Цукровае», у форме кветак (цяпер такі смак мае пячэнне «Дзіцячае», у форме пеўнічкаў). Гарачы, моцна завараны і насалоджаны чай з такім пячэннем для мяне і сёння вялікая смаката, ад якой пасля добра думаецца.

Настаўніца Марыя Пятроўна вучыла адразу тры класы: першы, другі і трэці. Пакуль адным тлумачылася новая тэма, другія выконвалі заданні пісьмова, а трэція, напрыклад, чыталі. Ніхто нікому не перашкаджаў, усё было натуральна. Непазбежна ў вушы малодшых улятала тое, што прызначалася для вушэй старэйшых, і калі праз другое вуха не вылятала, то засвойвалася «на вырост».

Але цікавейшай была дарога да школы. Выходзілі мы са сваіх двухпавярхховак на тэрыторы ►



ФОТА ВІЯЛЕТЫ ВОЦІНАВАЙ



**...і гэты ж дом сёння.** Вокны глядзяць быццам хворыя вочы, якія няма каму палячыць.

новай вёскі (дзе кантора, сельсавет, дзіцячы садок, сталоўка саўгаса і камбінат бытавога абслугоўвання з майстэрнямі, швейнай ды абутковай) і рушылі ў старую частку, дзе простыя драўляныя дамы за прыгожа памаляванымі платамі і вялікая адкрытая плошча, на якой размешчана не так шмат, як магло б: маленькае драўлянае аддзяленне пошты, маленькая драўляная школка і далёка насупраць іх, на высачэзным ганку, — вялікая драўляная крама (старая, бо новая была ў нашай частцы). Некалі на гэтай плошчы гулі кірмашы і храм быў недзе тут.

Ішлі мы сюды спачатку паўз невялікую круглую сажалку (што акурат побач з новай крамай), потым мiналi грамадскую лазню і далей вельмі жывапіснай сцяжынкай (вясной паабапал раслі кураслеп і зоркаўкі) выходзілі ў кароткі завулак, дзе мелі небяспеку затрымацца каля згаданай ужо вінакурні. Нейкімі намаганнямі ад яе адчапіўшыся, далей мы пераходзілі брукаванку, што вяла на абсаджаны тоўстымі дрэвамі нясвіжскі тракт, і траплялі ўжо ў іншую казку — пра Бабу-Ягу, не інакш. Яе антураж — невялікі, але вельмі высокі сасоннік. Паветра ў ім амаль увесь час гуло. Было страшна. Побач для ўзмацнення казачнай атмасферы стаялі драўляныя, начорна абсмаленыя слупы, складзеныя літарай Л. Яны трымалі электрычныя правады, але для нас гэта былі «чортавы вароты». Лічылася, што той, хто пройдзе праз іх, двойку атрымае дакладна.

## Гартаючы дзённік

Адзіны дзённік, які захаваўся пасля дзесяці гадоў школы, належыць якраз таму часу, калі



ФОТА ВІЯЛЕТЫ ВОЦІНАВАЙ

**Рэканструкцыя партызанскага лагера** ў лесе недалёка ад вёскі Лавы. У адной з рэканструяваных зямлянак — партрэты загінулых у Лаўскім баі.

я жыла і вучылася тут. Праўда, гэта ўжо незадоўга да пераезду, 1983/84 навучальны год, 5 клас і Лясноўская сярэдняя школа, у якую мы ездзілі з Бабоўні звычайным рэйсавым аўтобусам. Здаецца, «Бабоўня — Слуцк». І на ім жа а палове на пятую можна было вярнуцца дадому пасля «прадлёнкі». Спознішся — не бяда: а пятай будзе яшчэ ісці мінскі, з мякенькімі сядзеннямі, бо «Ікарус» (венгерская марка, хадзілі як міжгароднія).

Як шмат можа паведаміць пра мінулае адзін школьны тыдзень! Расклад: пісаўся па-беларуску, бо ўсе прадметы ў вясковых школах выкладаліся толькі па-беларуску. Але чамусьці назва месяца — абы-як: дзе руская, дзе беларуская. І па-руску зроблены запіс «Родительское собрание». Цікава тут заўважыць, калі яно праходзіла: раніцаю ў нядзелю.

Урокі працы — здвоеныя, каб больш паспець. Пакуль восень — запісы такія: «работа на пришкольным участку», «збор насення», «зграбанне лісця». Пазней пойдуць «гатаванне сырнікаў», «бутэрброды і грэнкі», «правілы работы на швейнай машыне» і г.д. Гатаваць вучыліся ў школьнай кухні, шылі ў спецыяльна абсталяваным класе. У гатаванні ежы я заўсёды была паспяховай, а вось шыць мяне так і не навучылі.

Па панядзелках пасля ўрокаў — палітінфармацыя. І трэба было рыхтавацца. Некаму даручалася распавесці пра навіны ў краіне, некаму міжнародныя, камусьці — культурныя, камусьці — спартыўныя. Па аўторках — класныя гадзіны. Не абы сабе, а тэматычныя: «Завочнае




**Так незвычайна ўвекавечылі памяць пра бой 1942 года** работнікі мясцовай лясной гаспадаркі.

ФОТА ВІЯЛЕТЫ ВОЦІНАВАЙ

падарожжа па Балгарыі», «Чытанне і абмеркаванне артыкула з газеты “Известия”»...

А ў чацвер пасля ўрокаў — лялечны кружок (чамусьці не гурток). Гэты лялечны «кружок» вяла настаўніца матэматыкі і наша класная кіраўніца Людміла Мікалаеўна Дубовік. Ён быў фішкай класа, які ўвесь падзяляўся на тых, хто лялек водзіць, і тых, хто іх агучвае. Вадзіць ляльку мне не давялося, я толькі агучвала. Вопраткамі герояў і дэкарацыямі займаліся і вучні, і бацькі, і настаўніца. Памятаю, для Машанькі з казкі «Марозка» мая мама пашыла сукенку, а я звязала цёплую хустку кручком. Са спектаклямі выступалі на школьных святах, бацькоўскіх сходах і ў дзіцячым садку.

Вучылася я добра і пяты клас скончыла толькі з дзвюма чацвёркамі: па гісторыі і геаграфіі. Не ішлі ў мяне гэтыя дысцыпліны. Іронія лёсу: цяпер я пішу артыкул для часопіса «Наша гісторыя» ў рубрыку «Нацыянальная геаграфія».

### Лаўскі бой

Насупраць аднаго з урокаў спеваў — запіс: «Песня о Лавском бое». Пад бадзёрае дырыжыраванне настаўніка мы спявалі:

> На рассвете тени замелькали,
> Это вражьи цепи поползли,
> Но в засаде воины не спали…

Настаўнік спеваў, Уладзімір Уладзіміравіч Пашкевіч, ведаў маю бабулю, якая таксама настаўнічала ў Капыльскім раёне (вучыла пачатковыя класы ў Бадзяжах), і мне нават здавалася, што некалі, у маладосці, ён быў у яе закаханы.

Вёска Лавы і Лаўскі лес сталі месцам помсты немцаў партызанам у пачатку зімы 1942 года за шматлікія папярэднія



**Лаўскі бой** на карціне Міхаіла Савіцкага.

іх паражэнні на Капыльшчыне, Уздзеншчыне і Случчыне. У лесе брыгада імя Варашылава абсталявала шпіталь і лагер. Цяжка параненых з надыходам зімы размясцілі ў вёсцы па хатах. І тут раптам немцы. Рушылі сюды падрыхтаваныя, узброеныя да зубоў. Партызанам трэба было іх затрымаць, каб паспець эвакуіраваць шпіталь. Кульмінацыяй стала адчайная барацьба на світанку 3 снежня васямнаццаці маладых і юных байцоў (ад 15 да 32 гадоў), якія зладзілі начную засаду на могілках вёскі Клецішча. Дарога да Лаўскага лесу адтуль была добра відаць, і можна было перахапіць карнікаў нечакана. Чатыры гадзіны бою завяршыліся геройскай гібеллю ўсіх васямнаццаці.

Кожны вучань нашай школы, хоць ноччу яго падымі, мог пералічыць іх прозвішчы. Я і сёння многія памятаю: Канстанцін Шытыка, Мікалай Тэртычны, Павел Лыч, Васіль Астрэйка, Аляксандр Ясючэня... Піянерскія атрады ў Лясноўскай школе насілі імёны не Алега Кашавога ці Зоі Касмадзям’янскай, як у многіх іншых, а мясцовых, сваіх герояў. Адзін год на 9 мая мы былі на тых могілках, бачылі і брацкую магілу, і помнік з імёнамі ўсіх васямнаццаці. А немцаў ад іх загінула больш за восем дзясяткаў. І хоць Лавы ў выніку былі занятыя ворагам, эвакуіраваць шпіталь партызаны паспелі. Потым мастак Міхаіл Савіцкі напісаў карціну: байцы сярод магільных агароджаў і помнікаў у самы крытычны момант.

### Пасляслоўе

Бабоўня на адлегласці часу ўяўляецца мне нечым падобным да старэнькай размалёўкі, якая была некуды дзелася неразмаляванай, а потым я быццам знайшла яе і сяджу цяпер, размалёўваю... Нядаўна адшукала ў эстонскім архіве паперы, датычныя вучобы Вітольда Наркевіча-Ёдкі ў Дэрпце. Натрапіла і на кнігу ўспамінаў яго ўніверсітэцкага сябра. А яшчэ знайшла выдадзеныя ў Варшаве яго навуковыя творы. Іншымі словамі, пра бабаўнянскага Гіпакрата ёсць што сказаць і ў асобным артыкуле, і ў кнізе, і ў фільме. А наднёманскі Тэсла няхай ужо адпачне. ◆

# «З гонтай мы найбольш намучы

## Жонка дагэтуль не можа мне дараваць, што я

**Вясковая сядзіба «Марцінова Гусь» у Люцынцы рэканструяваная на ўзор шляхецкіх дамоў XIX стагоддзя. Цяпер гэты «жывы арт-аб'ект» прымае турыстаў. Яе ўласнік, доктар гісторыі і прадпрымальнік Алесь Белы, расказвае незабыўныя эпізоды яе пабудовы.**

Мы набылі дом у нашчадкаў даваенных, дасавецкіх уладальнікаў, Янкоўскіх. Гэта значыць, згодна з правам, без амаральнага «маральнага багажу», без удзелу ў ланцугу савецкіх рэквізіцый. Для мяне гэта прадмет асаблівай гордасці. А потым, разбіраючы дом, трапілі на бляшанку з дакументамі сям'і за 1931–1952 гады. Там шмат падатковых квіткоў ад усіх уладаў (з якіх савецкія падаткі былі самыя цяжкія), ну і з іх разам з вуснымі аповедамі збольшага складаецца гісторыя сям'і. Янкоўскіх раскулачылі ў 1948-м, але дом у іх не забралі. Праўда, з 1931 года зямельны надзел скурчыўся з 60 га да 0,25 га. Цікава прасачыць па этапах.

Дарэчы, у купчай Дуніна-Марцінкевіча на фальварак Люцынку (да якога ад нас 450 м) 1830 года адным з прадаўцоў указаная Апалінарыя Янкоўская. Магчыма, продак уладальнікаў нашага фальварачка ці засценка.




**Сядзіба «Марцінова Гусь»** у Люцынцы збудаваная ў традыцыйным стылі.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

## «Так, як раней»

Да вайны наша сядзіба называлася Новы Двор і не лічылася часткай Люцынкі. Асобная гісторыя — куды пазнікалі ўсе навакольныя фальваркі, засценкі, аколіцы і хутары. Раней жа як было: шмат-шмат малых населеных пунктаў, у 4–5 разоў гусцейшая сетка, чым цяпер.

А калі казаць асобна пра фальваркі, дык яны ўсе навокал спаленыя або разбураныя. Пра некаторыя з іх распавядае экспазіцыя ў доме. Пра Люцынку Марцінкевіча, пра Вялае Тышкевічаў, пра Кропаўшчыну Зэляў. Іх было значна больш.

Архітэктурны праект перабудовы нам рабіла Святлана Лакотка. Яна вядомы спецыяліст па беларускай архітэктуры.

Але асноўную логіку ўнутранага ладу дома мы заклалі ў яго самі.

Мы стараліся ўсё пабудаваць «так, як было раней». Я адчуваў у гэтым, даруйце за пафас, сваю гістарычную місію — аднавіць дух і форму тых старых сядзіб, якія змахнула з нашай зямлі XX стагоддзе.

## І выйшаў я на Новікава

Асабліва мы намучыліся з гонтай. Жонка дагэтуль не можа мне дараваць, што я ў гэта ўлез. Ужо ж ніхто не ўмее ані рабіць гонту, ані ўкладаць яе. Хаця 100 гадоў таму на ёй спецыялізавалася, у прыватнасці, суседняя вёска, Смалёўшчына. То цэлая гісторыя, як мы далі гэтаму рады.

У сваіх спробах знайсці спецыяліста я выйшаў на Міхаіла Новікава, якому было на той момант (каля 2006 года) ужо пад 85 гадоў. Ён жыў у Маладзечне, але сам родам з Расіі, і з вельмі цікавай жыццёвай гісторыяй. У Беларусі ён асеў адразу па вайне, у 1945-м або нават у 1944 годзе, у Ракаве. Неяк прыбіўся да пратэстантаў, пяцідзясятнікаў, і ўвогуле прасякнуўся мясцовым духам, тым больш што і жанаты быў з беларускай. Працаваў, здаецца, спачатку настаўнікам, а потым у розных будаўнічых арганізацыях, а ўжо ў гады гарбачоўскай перабудовы, на пенсіі, калі абвесцілі магчымасць ствараць кааператывы, стварыў свой, які спецыялізаваўся на рамонце і будоўлі хрысціянскіх святыняў. Усіх канфесій, прытым. Такі вось цікавы рускі чалавек, з класічнай «амерыканскай» працоўнай ды побытавай этыкай і з глыбокім разуменнем «заходнебеларускай» матэрыяльнай культуры, якую ён заспеў па вайне яшчэ адносна некранутай.

На яго рахунку — некалькі дзясяткаў аб’ектаў, пераважна ў ваколіцах Маладзечна, і недзе на 20-ці з іх ён укладаў гонту. У тым ліку на музейчыку ў Плябані, прысвечаным памяці паўстанцаў 1863 года. І музей Багдановіча ў Ракуцёўшчыне таксама яго прадпрыемства рабіла.

У яго ў кааператыве даўней быў адмысловы станок старой канструкцыі, які расколваў асінавую (напрыклад) чурку на кліны-сектары, пад адзін і той жа востры вугал. Усё паваротнае кола станка, на якім стаяла чурка, ▶

**Гонта, гонт** — дошчачкі для крыцця даху і сцен, вострa састругания з аднаго боку і з пазам з другога. Шырока выкарыстоўваліся ў лясных і горных краях, дзе драўніна была таннейшая за чарапіцу. «Злезь з даху, не псуй гонты» — гэта пра яе прыказка.



ФОТА ІВАНА АБРАЗЦОВА

**Старая гонта** з вёскі Лапаравічы Мінскага раёна.

▶ было разбітае, напрыклад, на 30 або 24 дзяленні. Кожная чарговая гонціна рабілася рэзкім ударам калуна-«гільяціны» па чурцы, які адколваў ад яе чарговы асінавы клін. Потым чарговы паварот зубчастага кола на 12 або 15 градусаў — і чарговы ўдар і адкол. Потым з шырокага боку кліна рабіўся прапіл, у які потым устаўляецца востры бок іншых гонцін.

Але на той момант Міхаіл ужо некалькі гадоў як канчаткова выйшаў на адпачынак, працаваць далей ужо здароўе не дазваляла. Станка ён ужо пазбыўся, і быццам бы яго звезлі ў Расію — або не здолелі «ўрухоміць». Ён мяне толькі трохі пракансультаваў па асновах вырабу і ўкладкі гонты, і мяне гэта вельмі ўразіла: як жа так атрымліваецца, што апошні носьбіт мясцовай аўтэнтычнай традыцыі вырабу і ўкладкі гонты — рускі чалавек?! Гэта ламала мае тагачасныя стэрэатыпы, але пазней гэты і іншы падобныя выпадкі дапамаглі мне цалкам перабудаваць сваё разуменне Белай Русі — і зусім не ў купалаўскім духу. (Дарэчы, у маім жыцці ў тым 2006-м адбылося шмат такіх «выхаваўчых» падзей, ну вы ж памятаеце той год таксама.)

Цяпер то мне здаецца якраз натуральным і лагічным, што захаваць мясцовую традыцыю спрабаваў, і даволі паспяхова, — 20 аб'ектаў, крытых гонтай, гэта вам не хыхі, — рускі чалавек.

Можа, нехта памятае Міхаіла Новікава, ведае пра яго больш, мае фота — калі ласка, падзяліцеся. У той момант мне было не да таго, я ламаў сабе галаву, як рэалізаваць задуманае, і не здагадаўся як след задакументаваць нашу сустрэчу — а шкада. Уражанне ад яе запомнілася на ўсё жыццё.

## Эпапея з гонтай за 13 тысяч долараў

Зрэшты, я працягваў шукаць на месцы, у ваколіцах Люцынкі, намаўляць, упрошваць і ўрэшце знайшоў людзей, якія ўзяліся вырабіць мне асінавую гонту і ўкласці яе на дах. Пра гэтую эпапею, зрэшты, трэба размаўляць асобна.

Я ў выніку намовіў заняцца гонтай Анатоля Баляслававіча Протаса з Івянца, які на той час працаваў дырэктарам мясцовага ДАКа (дрэваапрацоўчага



**Царква ў Кіяўцы** была збудаваная ў міжваенны час.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

камбіната), каторы відавочна ўжо канаў. Трэба было такія прадпрыемствы дазволіць прыватызаваць вось такім увішным кіраўнікам за 1 базавую, дык, можа, сёння мы б нашмат лепш жылі. Гэтая мая замова была адной з апошніх адносна буйных на прадпрыемстве. Усяго мне вырабілі каля 12 тысяч асінавых гонцін памерам 60 × 11 см. Іх не калолі, як у даўніну, і не распілоўвалі па дыяганалі вельмі тонкімі і дакладнымі піламі, як робяць цяпер у Польшчы, а счэсвалі палову прамавугольнага сячэння кожнай загатоўкі.

Потым ён жа разам са сваім пляменнікам Дзімам Багуцкім і ўкладалі гонту на даху. Протас у дзяцінстве і юнацтве, яшчэ ў 1960-х нават, бачыў нямала гонтавых дахаў, збольшага ўяўляў і як іх укладалі, хаця сам ніколі гэтага не рабіў. Вучыўся ўжо на маім даху, як і пляменнік. Памятаў з дзяцінства такую прыгаворку-дражнілку, якую і я ад яго запомніў:

Наша хата гонтай крыта,
На сцяне вісіць карыта.
Хто ні едзе, хто ні йдзе —
Кожны грошык пакладзе.

Паколькі гонта ўкладаецца мінімум у тры слаі, дык на адзін квадратны метр ішло па 53 такія гонціны — і ў выніку нават не хапіла тых 12 тысяч, давялося потым дакладаць самыя непрыкметныя кавалкі дома проста пілаванай асінавай дошчачкай. Дарэчы, у Валожынскім раёне распаўсюджанае прозвішча — Дошчачка, напамін пра колішні занятак многіх пушчанскіх жыхароў. Такое прозвішча носяць і сваякі аднаго з выхадцаў адсюль — выдаўца Валера Булгакава. А суседняя з нашай Люцынкай вёска, Смалёўшчына, некалі спецыялізавалася на вырабе гонты, дранкі, дошчачкі і выганцы смалы. Яшчэ ў міжваенны перыяд, да прыходу бальшавікоў.



**Масленка ў «Марціновай Гусі».**

Уся эпапея з гонтай (і дошчачкай) цягнулася амаль тры гады, з 2006 па 2009-ты, і была самым складаным элементам будаўніцтва. На апошнім этапе майстры ўжо не надта і хацелі заканчваць працу, нудную і карпатлівую, даводзілася іх шмат упрошваць. Памятаю, мы ўжо пачалі прымаць гасцей у сядзібе, а з аднаго боку дома яшчэ стаялі рыштаванні і кавалак даху быў недароблены.

## Тэраса

Яшчэ адзін элемент традыцыйнага драўлянага будаўніцтва, які мне хацелася ўзнавіць, — гэта тэраса, і каб на ёй абавязкова слупы з укосінамі, як у кляштары брыгітак у Горадні. «Масавыя» будаўнікі не надта хацелі гэта рабіць. У выніку ўзяўся той самы Анатоль Протас. Ён знайшоў недзе некалькі крываватых сасновых бярвёнаў, дадаткова падагнуў-падрэзаў іх — і атрымаліся дугападобныя ўкосіны, якія надаюць тэрасе надзвычай старасвецкі выгляд.



**Лямус брыгітак у Гродне.**

Дах мне абышоўся ў капеечку, з усімі выдаткамі каля 13 тысяч долараў. Але там і плошча немалая, амаль пад 300 кв. м. Пад гонтай ляжыць сучасны гідраізаляцыйны матэрыял, асобныя лісты якога герметычна сплаўленыя паміж сабой. У мяне часам пытаюцца: ці не працякае дах? Не, не працякае, хаця не ведаю, ці настолькі якасна ўкладзеная гонта — бо так ці інакш, ізаляцыйны матэрыял пад ёй страхуе ад нечаканасцяў.

## Гонта не дранка

Дранка — матэрыял значна прасцейшы і таннейшы, ▶

▶ нерэгулярнай формы, без паза, у які ўваходзіць востры канец іншай гонтавай дошчачкі. Раней гонтай крылі жылыя і грамадскія пабудовы, а дранкай — хлявы, свірны, стадолы і іншыя гаспадарчыя будынкі. Дарэчы, нам разам з домам на тым жа пляцы дастаўся хлеў, крыты дранкай, а зверху шыферам, ужо ў 1970-х, але ён згарэў, і менавіта праз гэтую дранку.

Палілі мы рознае смецце, выкапалі канаўку паміж вогнішчам і тым хлявом, метраў з дваццаць ад яго палілі, пралілі вадой, але ў нас галь, частыя моцныя вятры. Дык іскры ветрам падхапіла, яны трапілі на дах з сухой, як порах, дранкі, і яна імгненна загарэлася, ужо праз некалькі хвілін увесь вялікі хлеў гарэў як свечка.

Шчыра кажучы, цяпер, калі мы прымаем турыстаў і проста гасцей, мне найбольш крыўдна, што абсалютная большасць наведвальнікаў так і не ведае, што такое гонта і нават яе не заўважае. Не разумее прыгажосці гонтавага даху. Звяртае ўвагу на яе, можа, 1 чалавек з 50 ці меней. І тое, як правіла, ён называе яе «дранкай». А гэта ўсё роўна што пітны мёд (гл. пра яго артыкул у № 1/2019 «Нашай гісторыі») назваць «медавухай» — абраза.

### Крадзеж «буйваліных вачэй»

Адзін з вельмі прыгожых элементаў у класічным гонтавым даху — паўкруглыя вокны, абкладзеныя гонтай прыгожай плаўнай дугой, падобнай на палову сінусоіды, якая называецца «буйвалінае вока». Самі паўкруглыя вокны мы купілі ў «Забудове», па праекце іх мусіла быць 5, але ў тым самым нешчаслівым 2006 годзе будоўлю абакралі, 2 з іх знікла (і шмат чаго яшчэ, пераважна радыятараў — мы тады замест алюмініевых вырашылі цэментныя замовіць). Засталося 3, з іх 2 — на парадным фасадзе дома, і мне здаецца, яны вельмі яго ўпрыгожваюць. Не пайшлі на кампрамісы — нам прапаноўвалі зрабіць трохкутныя абводы вокнаў, але я настаяў — толькі «буйвалінае вока». Глядзіш на яго — такая лінія, такая гармонія.




**Камін мы зрабілі з ваўкавыскай кафлі**, з узноўленым традыцыйным узорам «Васільковы», які імітуе той самы «цвяток радзімы васілька», як у Максіма Багдановіча.

### Камін васільковы

Камін мы зрабілі з ваўкавыскай кафлі, з узноўленым традыцыйным узорам «Васільковы», які імітуе той самы «цвяток радзімы васілька», як у Максіма Багдановіча — папулярны дэкаратыўны матыў ужо і ў XVII стагоддзі. Ад сапраўдных каміноў ён адрозніваецца тым, што ў ім стаіць чыгунны французскі ўкладыш, ад якога ідуць паветраводы на 2-гі паверх, а сам корпус пры гэтым амаль не награецца. Выглядае дзіўна і нечакана. Часта госці спрабуюць пагрэць аб камін рукі — а ён амаль халодны: уся цеплыня ідзе або ў пакоі на 2-м паверсе, або праз шкло і дзве малапрыкметныя адтуліны ў камінную залу.

### З ліштвамі

Вокны — двайныя драўляныя шклопакеты, даволі якасныя, за 13—14 гадоў яны амаль не састарыліся, выглядаюць амаль як новыя, у тым ліку звонку. Прытым што ні разу не падмалёўвалі. Мы замовілі іх з парнымі драўлянымі імпостамі ўсярэдзіне, так што яны маюць форму шасціканцовага крыжа ў раме, найбольш традыцыйную для старога будаўніцтва.

Зрабілі і ліштвы, хаця і досыць простай формы.

Звярніце ўвагу на аканіцы нават самых багатых сучасных індывідуальных дамоў у Мінску і іншых гарадах Беларусі. Усе яны літаральна «зеўраюць» пустымі аканіцамі. Звялася мода аздабляць ліштвамі вокны, і ніякія архітэктары ці дызайнеры не падказваюць багатым кліентам, не настойваюць, каб іх абавязкова паставілі. Недалёка ад нашай Люцынкі, у былой Тышкевічавай Ісламоўцы недзе да 2012 года існаваў дрэваапрацоўчы ўчастак, там да канца СССР электралобзікам па шаблонах яшчэ выпільвалі ажурныя ліштвы — быў даволі прыкметны попыт у звычайных людзей. За пару дзесяцігоддзяў «эпохі тэлебачання» гэты элемент культуры амаль цалкам знік. А мне пустыя, без акантоўкі аканіцы моцна муляюць вочы.

Мы зрабілі ліштвы самыя простыя, без мудрагелістага

**Ракаў** — ідылічнае заходнебеларускае мястэчка на Ісляачы каля гродзенскай трасы.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

аздаблення, але ўсё-ткі яны надаюць вокнам ахайны і традыцыйны выгляд. Толькі над вокнамі накрыўкі з рэльефным арнаментам накшталт таго, што на сцягу РБ.

## Лідская мэбля

З мэблі ад старога дома не так шмат у нас засталося. Куфар, падноўлены металічнымі палосамі і перагабляваны, стальніца старога стала, якую мы пакрылі сучасным мэблевым шчытом, і калаўрот.

Таму мэблю купляялі прамысловую, найперш лідскую. Вельмі спадабаўся нам набор «Вікінг», набылі з яго некалькі элементаў, у першую чаргу камоду, якую я па-старасвецку называю «крэдэнс». У гэтым наборы ёсць яшчэ некалькі вельмі прыгожых шафак, тумбаў, але нам папросту няма куды ўсё гэта паставіць, а чыста вачыма так і «ем» іх, калі, бывае, дагэтуль убачу ў краме ці ў каталогу. Набыў бы, здаецца, усе.

## Што б я зрабіў інакш

Магу сказаць пра некаторыя памылкі (не пра ўсе). Напрыклад, мы працягнулі зруб на 2-гі паверх, чатыры вянцы. А, відаць, можна было спраектаваць каркасны працяг. Мы так другі дом пабудавалі пазней. Так прасцей, чым працягваць зруб яшчэ на чатыры вянцы, лягчэй для канструкцыі дома. І танней.



ФОТА АЛЕСЯ БЕЛАГА

**Лідскі крэдэнс.**

У цэлым мы больш-менш вытрымалі стылістыку XIX стагоддзя і ў архітэктуры, і ў інтэр'еры. Хаця аўтэнтычных рэчаў эпохі ў нас няма. Затое маем сучасную ваўкавыскую кафлю і лідскую з бабруйскай мэблю. Інтэр'ер намякае адначасова і на тыповы шляхецкі «дворык» ці то Міцкевіча, ці то Касцюшкі, і на габрэйскую карчму. У тыя часы, калі і тыя, і другія аб'екты былі звычайнымі, яны не маглі быць змяшаныя «ў адным флаконе», як гэта спрабую рабіць я. Гэта такая свядомая правакацыя, але адначасова і прысяга памяці як тых, так і другіх.

## Выйшаў «дворык»

У выніку атрымаўся ці не адзіны драўляны шляхецкі ▸

«дворык» у Беларусі, які належыць **прыватнай асобе**. Я там і прапісаны. Можа, ёсць і іншыя прыватныя, але я не чуў. І вядома, што ёсць такія славутыя сядзібы, як Кушляны, Мерачоўшчына, Завоссе. Але іх адбудоўвала або рамантавала дзяржава, як правіла, за немалыя іншаземныя грошы. А гэта цалкам прыватная авантура. Увогуле, крыўдна, што амаль ніхто не будуецца ў «стылю дварковым». Асабліва з дрэва. Многія багатыя цяпер «па-руску» будуюцца з прафіляваных цыліндрычных бярвёнаў. Успамінаюцца карціны Віктара Васняцова і савецкія мультфільмы-казкі ці то пра Бабу-ягу, ці то пра Ямелю і шчупака. Але тое ўсё не наша гісторыя.

Як мы адзіныя такія, то наш дом бывае запатрабаваны ў тым ліку і тэлебачаннем. У нас здымаліся розныя ТВ-сюжэты, напрыклад, навагодняя праграма «Белсата»



і ягоны ж мастацка-дакументальны фільм пра Язэпа Драздовіча. Міхаіл Шырвінт прыязджаў два гады таму з Масквы здымаць праграму «Съедобное-несъедобное».



ФОТА МАКСІМА ТАРНАЛІЦКАГА, ONLINER.BY

**Макс Корж у Люцынцы.**

Неяк заязджаў на абед брат Эмі Уайнхаўс з жонкай. Былі з начлегам нашчадкі Іды Кагановіч, ракаўскай вынаходніцы бюстгальтара. Макс Корж здымаў тызер для аднаго са сваіх шматтысячных канцэртаў.

## *Like zombies*

Я вельмі спадзяваўся, што асоба Дуніна-Марцінкевіча, чый дом стаяў у нашай Люцынцы, а цяпер тут стаіць помнік яму, будзе прыцягваць турыстычны трафік у вёску. Гэта, на жаль, цалкам не спраўдзілася. Амаль ніхто адмыслова да Марцінкевіча не ездзіць. Ну, можа, 50 рэдкіх чалавек на год. Або 100. А я разлічваў на сотні турыстычных аўтобусаў штогод. Школьнікаў найперш. Ды студэнтаў. Насамрэч, амаль толькі мы і водзім туды экскурсіі. Я іх прапаную ўсім групам як бясплатны бонус да пражывання ў доме. Ну дык дзякуючы нам некалькі соцень штогод там бывае і слухае мае аповеды пра Дуніна-Марцінкевіча. На 200-годдзе, у 2008-м, была прынятая пастанова Саўміна пра адбудову ягонай сядзібы, але грошай ніхто не выдзеліў і яна засталася пустым гукам.

Я пэўны час насіўся з праектам арганізацыі мемарыяльнага запаведніка Дуніна-Марцінкевіча і яго эпохі. Люцынка — Пяршаі — Тупальшчына — Кропаўшчына — Вялае... Усе абыякавыя.

У савецкія часы ў Люцынцы штогод праводзіўся фэст аматарскіх народных тэатраў імя Дуніна-Марцінкевіча. З «незалежнасцю» гэта было закінута.

Я яшчэ ў 2010-м з дапамогай МГА «Гісторыка» зрабіў роварны маршрут па гэтых мясцінах і выпусціў праваднік. Дарэчы, я дару яго на памяць наведнікам. Зусім трошкі раварыстаў, але ездзяць часам па ім дагэтуль. Потым мы ўжо кааператывам уласнікаў аграсядзіб раёна зрабілі цэлую сетку маршрутаў «Валожынскія гасцінцы». Аднак


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Івянец** — цэнтр прыцягнення акругі.


ФОТА ЛЮБОВІ ЕРМАКОВАЙ

**Майстар-клас па гатаванні клёцак з душамі (цэпелінаў)** у «Марціновай Гусі».

ад дзяржавы не тое што падтрымкі няма, але адна шкода. Увесь час электрыкі і леснікі знішчаюць разметку. Я часам кажу: ну як зомбі, дзе такое яшчэ можна ўбачыць?

Асобная размова, як паступова дэградуе інфраструктура. Напрыклад, магутнасць трансфарматара на ўсю вёску — 25 кВт, як па нарматывах 1960-х. Калі ў вясковым доме было некалькі «лямпачак Ільіча», ну і як вялікія навінкі — тэлевізар і лядоўня. А цяпер то патрэбы ў людзей зусім іншыя. І нават хоць большасць цяпер — не сталыя жыхары, але калі ў суботу ўвечары многія з'язджаюцца ў вёску, дык толькі пстрык па нейкім лішнім выключальніку — і адразу ў паловы вёскі гасне святло.

Ужо гадоў з 10 як пазачыняліся ўсе навакольныя піларамы, цяпер праблема нейкую дошку хутка знайсці, трэба гнаць у Мінск.

І пазнікалі мужычкі хто з трактарам, хто з грузавічком, да якіх у выпадку чаго можна было звярнуцца па дапамогу. Цяпер бліжэй, чым у Валожыне ці Івенцы такіх не знойдзеш. Хто з рукамі і галавой — у вёсцы не могуць пракарміцца, з'язджаюць у горад ці ўвогуле з Беларусі.

Калі паміж Іслачоўкай і Вялым, былым маёнткам Бенедыкта Тышкевіча, у 2013 годзе паводкай пасля «Хаўера» знесла падвесны мосцік, не знайшлося каму і як яго аднавіць (раней гэта цішком, без пафасу рабіла тая самая піларама, што і ліштвы некалі выразала). А цяпер спецы з райвыканкама падлічылі афіцыйны каштарыс: паўмільёна долараў! («Наша Ніва» пра гэта пісала пару гадоў таму.) І цяпер ад нас да Вялага не 9 км, як было да 2013-га, а добрых 35! Ужо так проста турыстаў не пашлеш на ровары.

Няма мясцовай эканомікі. Няма дробнага фермерства, якое вельмі патрэбнае аграсядзібам — па логіцы, мы мусілі б рабіць стаўку на мясцовыя прадукты. А іх то амаль няма! Ну, мяды і напоі з іх у нас ад сяброў кааператыва, часам яйкі і малочныя прадукты купляем у суседзяў. Але сістэматычнай дробнатаварнай вытворчасці ў вёсцы няма. І гэта праблема. ◆

Хочаце пажыць ці заехаць на абед у аграсядзібу «Марцінова Гусь»? Кантакты: + 375 29 613 70 85 (у тым ліку ў Viber і Telegram), Алесь.


ФОТА МАРАТА ГАРАВОГА

**1926 год адзначыўся ў Заходняй Беларусі, што ўжо некалькі гадоў знаходзілася пад палітычнай уладай Польшчы, моцным грамадскім уздымам. Толькі-толькі афармленая ў якасці палітычнай партыі Беларуская сялянска-работніцкая грамада атрымала нечувана масавую падтрымку з боку беларускага сялянства, усяго за паўгода колькасць яе сяброў дасягнула 100 тысяч і працягвала расці. У адказ устрывожаныя польскія ўлады ў пачатку 1927-га нанеслі па арганізацыі моцны ўдар, увадначас арыштаваўшы яе лідараў. Што іх чакала ў зняволенні, піша кандыдат гістарычных навук Аляксандр Пашкевіч.**

15 студзеня 1927 года а 7-й гадзіне раніцы на чыгуначны вакзал у Вільні прыбыў цягнік з боку Маладзечна. З яго выйшаў худы зморany чалавек з невялікімі вусікамі і з партфелем у руках. Чалавек звыкла накіраваўся да праходу на вакзал, але ў дзвярах быў нечакана спынены для праверкі дакументаў. Праз некалькі хвілін ён ужо знаходзіўся ў вакзальным паліцэйскім пастарунку, а адтуль неўзабаве быў перапраўлены ў кабінет начальніка тайнай паліцыі Вільні на вуліцы Завальнай.

На стол легла змесціва ягонага партфеля і кішэняў: рэвальвер «Браўнінг», блакнот, 195 польскіх злотых, кішэнны каляндарык, тры пачкі белай паперы. На адным з папяровых аркушаў была напісаная падчас чакання цягніка ў мястэчку Краснае прадмова да зборніка беларускіх народных песень. Вянчала пералік знойдзеных пры асабістым вобшуку рэчаў пасведчанне дэпутата польскага Сейма.

Чалавекам гэтым быў Сымон Рак-Міхайлоўскі, прозвішча якога ў той час было шырока вядомае ў вёсках Заходняй Беларусі. Бо ён быў адным з лідараў партыі, з якой масы беларускіх сялян у той час асацыявалі надзею на змены ў сваім жыцці — Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Гэтым арыштам на вакзале, які быў толькі адзін з многіх у тыя дні, клаўся пачатак крутым зменам у палітычным ландшафце Заходняй Беларусі. А адначасова рэзка мянялася жыццё самога Рак-Міхайлоўскага. Якое ўжо ніколі не стала ранейшым...

### «Няўтульна, дзіка, і ніяк не магу прывесці ў парадак свае мыслі»

Далей падзеі развіваліся імкліва. Кароткі допыт, пры якім следчых цікавіла, ці належыць затрыманы да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Складанне пратакола аб тым, што віны Рак-Міхайлоўскі не прызнае. І адразу ж — машына да вядомай віленскай турмы на Лукішках. Падрабязны надгляд, афармленне — і ўжо а 9-й раніцы свежааформлены вязень пераступае парог камеры № 115.

У камеры ён адзін, «няўтульна, дзіка, і галоўнае — ніяк не магу прывесці ў парадак свае мыслі: так усё шыбка і неспадзявана сталася». Удалося неяк утаймаваць эмоцыі толькі праз некалькі дзён, пасля чаго вязень вырашае весці дзённік, падрабязна апісваючы ў ім усё тое, што з ім здаралася. Дзякуючы гэтаму дзённіку тое, што тады адбывалася за тоўстымі турэмнымі сценамі, вядома сёння і нам. ▸

**Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885–1938) беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, настаўнік. Далучыўся да беларускага руху яшчэ да Першай сусветнай вайны, але вядомым дзеячам стаў толькі пасля рэвалюцыі 1917 года. Браў актыўны ўдзел у спробах стварэння беларускага нацыянальнага войска, быў кіраўніком Беларускай цэнтральнай вайсковай рады. У снежні 1917 года адкрыў Першы Усебеларускі з'езд і старшыняваў на некаторых яго пасяджэннях.

У 1918 годзе быў у складзе беларускіх дэлегацый, накіраваных на Брэсцкую мірную канферэнцыю і на перамовы з урадам УНР у Кіеў. У 1920–1921 гадах актыўна ствараў беларускія школы, быў арганізатарам і дырэктарам беларускай настаўніцкай семінарыі ў Барунах на Ашмяншчыне. Выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. Займаўся таксама культурна-асветніцкай дзейнасцю, збіраў народныя песні, сам пісаў музыку. Адна з ягоных мелодый добра вядомая большасці беларусаў — музыка да песні «Зорка Венера» на словы Максіма Багдановіча.



У 1922 годзе быў абраны дэпутатам у польскі Сейм, уваходзіў у склад Беларускага пасольскага клуба. Трымаючыся радыкальных сацыяльных поглядаў, у 1925–1926 гадах стаў адным з заснавальнікаў і лідараў спачатку пасольскага клуба, а пасля палітычнай партыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

У 1927 годзе арыштаваны разам з іншымі лідарамі БСРГ, асуджаны на 12 гадоў зняволення. Пасля датэрміновага вызвалення ў 1930 годзе выехаў у БССР, дзе стаў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага гістарычнага музея. У 1933 годзе арыштаваны па сфальсіфікаванай справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра», асуджаны на 10 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў на Салаўках, у 1938 годзе арыштаваны паўторна і расстраляны.

### Першы дзень

Да канца дня вязня ўжо ніхто не чапае. Яму нічога не застаецца, як пачынаць разглядацца і асвойвацца. Бесперапынна ходзіць па камеры, курыць адну за адной цыгарэты. Праўда, пры сабе іх не было, і грошы пры вобшуку забралі, але турэмная адміністрацыя пайшла насустрач: выдала 20 штук цыгарэт і пушку запалак. Акрамя таго, удалося выпрасіць паперу і канверт ды напісаць ліст жонцы.

Сама камера — хваліцца няма чым. Куты ў ёй вільготныя і аблупіліся. Сцены памаляваныя жоўтай алейнай фарбай, на іх поўна розных надпісаў і нязграбных малюнкаў. Чаго тут толькі няма: і гармата, і кулямёт са стужкай, і перагоначны апарат, і сэрца, прабітае крыжам і кінжалам, і вычарчаныя кругі, і людзі ў егіпецкім ды асірыйскім стылі, і надрапаныя прозвішчы былых вязняў, і розныя непрыстойнасці — куды ж без іх.

На абед прынеслі міску крупніку з бульбай без хлеба: на атрыманне хлебнай пайкі не паспелі аформіць. Урэшце, пасля ўсіх перажыванняў гэтага дня, а 7-й гадзіне вечара вязень, крыху супакоіўшыся, засынае на цвёрдым турэмным сенніку. На дварэ мароз, у камеры не надта цёпла. Таму, акрамя турэмнай коўдры, Рак-Міхайлоўскі накрываецца дадаткова яшчэ і ўласным футрам, балазе яно вельмі цёплае.

### «Ломячы сваю ж канстытуцыю»

Пад'ём у турме — а 5-й гадзіне раніцы. Пасля ранішняй праверкі і вынасу санітарных вёдраў разносіцца «кава» — на самай справе, крыху падсалоджаная гатаваная вада з цыкорыяй, налітая ў белую эмаліраваную міску. Каб яе сёрбаць, даецца драўляная лыжка.

Увечары — першы допыт, і пасля яго згасае надзея, што сітуацыя неўзабаве вырашыцца тым, што вязня адпусцяць дахаты. Рак-Міхайлоўскі даведваецца, што абвінавачваецца па 102-м і 110-м артыкулах Крымінальнага кодэкса, тэрміны зняволення па якіх — вельмі сур'ёзныя. 102-гі прадугледжвае ў якасці адказнасці за ўдзел у змове, створанай для замаху на дзяржаўны лад Польшчы альбо на цэласнасць яе дзяржаўнай тэрыторыі, 8 гадоў цяжкай турмы (катаргі), а 110-ы, у якім ішла гаворка пра дзеянні на шкоду Польшчы ў сувязі з замежнымі дзяржавамі, — ад 4 да 15 гадоў цяжкай турмы.

Вязень вяртаецца ў камеру ў прыгнечаным стане. Ён разумее,


3

БІЛЕТ № 52789

Макарэвіч
(прозвішча)

Сымон
(імя)

па прафесіі каваль

які пражывае ў в. Зенлюцях

Лебедзкое гміны

Ліфкага павету

пошта Скрыбава

зьяўляецца сябрам Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту

Сэкратар

Вільня, дня 16 лютага 1926 г.

БЕЛАРУСКАЯ СЯЛЯНСКА-РАБОТНІЦКАЯ ГРАМАДА

Партыйны білет

Цэнтральны Сэкратарыят Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады — Вільня, Вялікая вул. № 30 кв. 9.

**Так выглядаў партыйны білет Беларускай сялянска-работніцкай грамады.**

### Беларуская сялянска-работніцкая грамада

палітычная арганізацыя, якая існавала ў Заходняй Беларусі ў 1925–1927 гадах, спачатку ў выглядзе пасольскага клуба (дэпутацкай фракцыі) у Сейме, а з мая 1926-га — масавай палітычнай партыі. Яе стварэнне было вынікам супрацоўніцтва прадстаўнікоў левай плыні беларускага нацыянальнага руху з нелегальнай Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі, якой патрэбна была легальная пляцоўка для дзейнасці. Дзеля гэтага ідэалогія Грамады спалучала ў сабе як чыста нацыянальныя пастулаты, так і патрабаванні радыкальных сацыяльных зменаў. Шчодрую фінансавую падтрымку арганізацыі аказвала савецкае пасольства ў Польшчы.

За адну толькі другую палову 1926 года БСРГ стала сапраўды народнай партыяй, колькасць яе сяброў маланкава ўзрасла да больш чым 100 тысяч. Спужаўшыся развіцця гэтага руху, польскія ўлады ў пачатку 1927 года арыштавалі яе лідараў, у тым ліку дэпутатаў Сейма ад БСРГ Браніслава Тарашкевіча, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Пятра Мятлу і Паўла Валошына, а таксама дэпутата ад Незалежнай сялянскай партыі (фактычна аналаг БСРГ на этнічна польскіх землях), беларуса паводле паходжання Фелікса Галавача.

Паколькі грамадоўскі рух быў стыхійны і слаба арганізаваны, а большасць шараговых грамадоўцаў не надта добра ўсведамляла задачы руху (як прызнаваў Сымон Рак-Міхайлоўскі ў дзённіку, «сіла вялікая, калі б яе ўдалося і быў час усведаміць і нацыянальна, і сацыяльна, і палітычна»), то рэпрэсіямі польскім уладам сваёй мэты дабіцца ў той час у цэлым удалося. Як вобразна добра акрэсліў заходнебеларускі паэт Валянцін Таўлай, «стыхія, пабурлеўшы, апала».

Канчаткова афіцыйна забароненая Грамада была 21 сакавіка 1927 года, пад суд былі аддадзеныя больш за 4 000 яе кіраўнікоў і актывістаў.




**Будынак віленскай турмы на Лукішках.** 1920-я гады. Пабудаваны ў пачатку XX стагоддзя, выкарыстоўваўся як месца зняволення ўсімі ўладамі, якія пачаргова валодалі Вільняй, аж да 2019 года.

што пастаўлена задача любой цаной і любымі сродкамі знішчыць Грамаду, бо ад следчага даведаўся, што гэтак жа сама арыштаваныя і ягоныя калегі па парламенцкай фракцыі. І ў гэтай сітуацыі польскім уладам не да законаў, бо, паводле права, дэпутаты Сейма маюць недатыкальнасць і арыштаваць іх без згоды парламента могуць толькі тады, калі заспелі проста на месцы крымінальнага злачынства. Застаецца толькі канстатаваць: «Не ўдалося ўладам штрафамі і арыштамі спыніць на нізах рост і ўплывы Грамады, дык хапіліся за вярхі, ломячы гэтым нават сваю ж канстытуцыю, якою прывыклі — як надта ліберальнай — хваліцца ў Еўропе».

## Ізаляцыя і чорныя думкі

Але што тут зробіш. У вязня не так шмат магчымасцяў змагацца за сябе. Першае, што робіць Рак-Міхайлоўскі, — піша тэлеграму да маршалка Сейма з просьбай неадкладна ўмяшацца, а таксама скаргу ў Віленскі акруговы суд.

А ў чаканні адказаў далей прызвычайваецца да жыцця ў турме. Чыста побытавыя ўмовы, калі разабрацца, то і нічога сабе як для такой сітуацыі, можна нават стварыць сабе пэўныя выгоды. Ад жонкі прыйшла добрая перадача: шмат рознай ежы, коўдра, лямцавы дыванок пад ногі, мяккая падушка, бялізна. Голад ды холад пакуль не страшныя, тым больш што ў турме даюць і гарачую ежу. Але што будзе з сям'ёй, калі пасадзяць надоўга? Ён адзіны ў яе кармілец, без яго жонцы і дзецям пагражае галеча, прытым што і здароўя ў іх асаблівага няма.

Турэмныя ж улады, відавочна на загад зверху, ствараюць арыштаваным грамадоўцам поўную ізаляцыю. У дзвярах камеры Рак-Міхайлоўскага забіваюць нават невялічкае акенца і замазваюць найменшыя шчыліны. Камера на першым паверсе, але з акна нічога не відаць, апрача пустога панадворка і вартавога з карабінам. І на прагулку выводзяць яго аднаго, нікога з іншых вязняў немагчыма ні пабачыць, ні перакінуцца хоць слоўцам. Адзінае акенца ў адкрыты свет — польскія газеты, з якіх можна здабыць толькі самую агульную інфармацыю. Але ж і іх калі нават даюць, то нячаста. А беларускіх не даюць увогуле.

Нудна, рабіць няма чаго. Адзінае, чым можна заняць час, — гімнастыка ды кнігі з турэмнай бібліятэкі. Настрою на сур'ёзнае чытво, праўда, няма, таму замаўляецца белетрыстыка.

## Галадоўка

Між тым адказу ні ад маршалка, ні ад суда ніякага няма, і гэта прыводзіць у адчай. Пры такой ізаляцыі няма спосабу ні параіцца з кімсьці, ні даць вестку пра сваё становішча на шырокі свет. І ў галаве на чацвёрты дзень зняволення пачынае ўзнікаць і ўмацоўвацца думка: трэба абвяшчаць у знак пратэсту галадоўку!

Але ж наважыцца на такое цяжка нават чалавеку, здароваму як бык. А ў Рак-Міхайлоўскага вельмі слабыя лёгкія: ужо дваццаць гадоў хранічны бранхіт, у мінулым годзе ледзь выкараскаўся пасля ўскладненняў ад перанесенага на нагах грыпу. Ды і страўнік не надта моцны, лекар раіў для захавання здароўя есці пяць разоў на дзень і трымацца дыеты. А тут галадоўка. Нават калі яе і перажываеш ды выжывеш, то можна знішчыць здароўе канчаткова.

Зноў-такі, ці мае гэта сэнс у сітуацыі такой строгай ізаляцыі? Ці паведамяць каму пра яе за сцены турмы? Відаць, дасведчаныя вязні неяк умеюць зрабіць гэта самі, але то ж дасведчаныя...

Але ўрэшце рашэнне прынятае. 20 студзеня а 16-й гадзіне ▶

вязень 115-й камеры Сымон Рак-Міхайлоўскі зрабіў заяву турэмнай адміністрацыі, што пачынае галадоўку. А тэрмін яе — да таго часу, пакуль пытанне аб ягонай выдачы не разгледзіць Сейм...

Галадаваць ён здолеў «толькі» сем дзён. Але даліся і яны фізічна нямогламу чалавеку вельмі цяжка. Увесь гэты час ён толькі курыў цыгарэты ды піў ваду, калі рабілася млосна. Прымаць перадачы з дому адмаўляўся, сярод іншага разлічваючы, што на волі зразумеюць, з чым гэта звязана.

Уговарам спыніць галадоўку доўга не паддаваўся, хоць угаворвалі і начальнік турмы, і інспектар, і наглядчыкі, і лекар. Ніхто не пагражаў, а толькі прасілі, прыводзячы рацыянальныя аргументы наконт уласнага здароўя і патрэбаў сям'і. Адно толькі інспектар, «чалавек, які сапраўды пакідаў добрае ўражанне», калі вязень зусім ужо аслабеў, папярэдзіў, што «адміністрацыя змушана будзе дакармліваць вас сілком, уміраць не дамо, не маем права».

Паміраць, зрэшты, і самому не хацелася. А з польскіх газет, якія нарэшце сталі даходзіць рэгулярна, вынікала, што на спрыяльнае вязням рашэнне Сейма спадзявацца не выпадае. Таму на шосты дзень галадоўкі ўсё часцей з'яўляюцца думкі: «Ці гэтая мая шляхотная пастанова аб галадоўцы-пратэсце пасля ўсяго гэтага мае якую-небудзь рацыю разумную? Пачынаю ўжо сумнявацца ў гэтым... А мо, сапраўды, спыніць галадоўку? Можа, гэта выгадней будзе? Можа, мае сілы, веды і здольнасці яшчэ спатрэбяцца роднаму народу, справе беларускай?»

Урэшце 26 студзеня позна ўвечары, прачытаўшы свежыя газеты, з якіх вынікала, што працэдура прыняцця парламентам рашэння адносна арыштаваных дэпутатаў будзе доўжыцца яшчэ як мінімум тыдзень, вязень, хістаючыся ад слабасці, падышоў да дзвярэй і сказаў наглядчыку, што галадоўку спыняе. Пасля чаго перад сном выпіў паўкубка цёплага малака, разбаўленага вадой.


WIKIMEDIA COMMONS

**Бібліятэка Лукішскай турмы.** Беларускія дэпутаты, якія ўтрымліваліся ў строгай ізаляцыі, не маглі яе так наведваць, але актыўна карысталіся зборамі.

## Прыняцце непазбежнага

Спыненне галадоўкі і прыбыццё фізічных сілаў паляпшае ўнутранае самаадчуванне. Ужо на наступны дзень вязень канстатуе: «Ранейшы ўнылы, прыгнечаны настрой знікае. Пачынаю прымірацца з лёсам, супакойваючы свой бунтарскі дух, праявы якога тут, у адзіночцы, пры гэткай герметычнай ізаляцыі, ні да чаго не прывядуць».

І ўжо нават бачыць у сваім зняволенні сярод тлустых мінусаў хоць бы дробненькі плюсік: «Няма злога без добрага. Маю прынамсі адпачынак. А ён так мне патрэбен! Праўда, не зусім санатарыйна-курацыйны адпачынак, але ўсё ж адпачынак, адпачынак ад штодзённай беганіны, ад рвання нерваў, ад клопату, ад вялікіх, непасільных абавязкаў, ад вечнага незадавальнення тым, што не ўсё паспяваеш, чалавек, зрабіць у свой час, што нават на іменную-прыватную карэспандэнцыю часамі прыходзіцца адказваць праз якія тыдні два-тры. А тут ціха, спакойна; адзіноцтва не абцяжарвае, а нават спрыяе ўнутранаму спакою».

З'яўляецца аптымізм і адносна грамадскай справы: «Ну, што ж? Будзем сядзець. Аднак жа не сумняваюся ні на мінуту: справа наша будзе ісці сваім шляхам — ускалыхнутае народнае мора супакойвацца не будзе, народ будзе дамагацца свайго, знойдуцца і адпаведныя кіраўнікі замест нас, так цяпер ізаляваных, як я, што не ведаю нават, што творыцца ў самой турме».

Вязень стараецца нечым пастаянна сябе займаць. Гімнастыка, харчаванне «як у санаторыі», балазе перадачы даходзяць, пісанне лістоў жонцы, хоць іх, праўда, доўга трымае цэнзура. Чытанне кніг, узятых

у турэмнай бібліятэцы, а таксама газет. Беларускіх, праўда, адміністрацыя па-ранейшаму не аддае, хоць на ўсе, што выходзяць, афармленая падпіска. Але польскія прыходзяць розныя, і з іх зместу складваецца мазаіка таго, што адбываецца на волі.

Весткі збольшага несуцяшальныя: няспынна ідуць рэпрэсіі, дзе-нідзе ліецца нават кроў, як падчас расстрэлу дэманстрацыі ў Косаве 3 лютага. Лічбаў адносна колькасці арыштаваных нідзе не падаецца, але Рак-Міхайлоўскі ацэньвае гэта ўскосна. 11 лютага ён падгледзеў у турэмнай кнізе, дзе ўлічваюцца грашовыя сродкі вязняў, што ягоны нумар, пастаўлены 15 студзеня, — 263-ці, а апошні занатаваны ў ёй — 573-ці. Гэта значыць, што за 27 дзён «насельніцтва» галоўнай віленскай турмы павялічылася як мінімум на 310 чалавек. А гэтая ж турма не адна!

Сейм, як і трэба было чакаць, на пасяджэнні 4 лютага прыняў рашэнне выдаць беларускіх дэпутатаў суду: добра, што спыніў галадоўку, да гэтага часу дакладна не выжыў бы. Адно што цешыць: у БССР пракацілася хваля выступленняў салідарнасці з заходнебеларускімі палітвязнямі, а беларускія, украінскія ды левper радыкальныя польскія дэпутаты зладзілі ў дзень выдачы сваіх калегаў у Сейме пратэсную маніфестацыю са спяваннем нацыянальных песень.

7 лютага дадзена першае спатканне з жонкай: «Як яна, бедная, гаруе: відаць з кожнага руху, з кожнае рысы твару...» Праўда, гаварыць можна было толькі пра справы, не датычныя палітыкі. За гэтым строга сачылі прысутныя пры сустрэчы судовы чыноўнік і афіцэр з турмы. ▶


WIKIMEDIA COMMONS

Сымон Рак-Міхайлоўскі з жонкай Надзеяй і дзецьмі Рагвалодам і Рагнедай.

## Грачанка Надзея, Рагвалод і Рагнеда

Сваё сямейнае шчасце Сымон Рак-Міхайлоўскі знайшоў далёка ад радзімы, у крымскай Феадосіі, дзе вучыўся ў настаўніцкім інстытуце. Тут ён пабраўся шлюбам з маладой настаўніцай-грачанкай Надзеяй Мусолавай. У 1912 годзе ў маладой сям'і нарадзіўся сын, якога назвалі Рагвалодам. Можна не сумнявацца, што такое імя было дадзена па ініцыятыве бацькі, і гэта выразна сведчыць пра тое, якое месца ўжо тады займала ў жыцці Рак-Міхайлоўскага беларушчына. Дачцэ Рак-Міхайлоўскіх, якая нарадзілася ў 1919 годзе, было, дарэчы, дадзена такое ж дэманстратыўна беларускае імя з той жа серыі — Рагнеда.

Нягледзячы на небеларускае паходжанне жонкі Рак-Міхайлоўскага, мовай сям'і ў іх была беларуская, прынамсі пасля таго, як яна пераехала з Крыма на радзіму Сымона. Гэта па ягонай асабістай просьбе публічна пацвярджалі некаторыя сведкі падчас віленскага працэсу над кіраўнікамі Грамады ў сакавіку 1928 года, калі суд сярод іншага закідаў яму абвінавачанне ў «абрусіцельстве» беларусаў. Да таго ж Надзея Рак-Міхайлоўская была адной з актывістак Беларускага саюза жанчын.

### ▸ На этапе

Усё раптоўна змянілася 12 лютага, калі суботнім вечарам у камеру ўвайшоў наглядчык і загадаў спакаваць асабістыя рэчы, пакінуўшы пры гэтым кнігі з турэмнай бібліятэкі. Значыць, некуды маюць вывезці, але куды — не кажуць. І не толькі Рак-Міхайлоўскага, бо ў пакоі, куды яго з рэчамі прывялі, ён упершыню за месяц сустракае сваіх калег-дэпутатаў: Бранiслава Тарашкевіча, Пятра Мятлу, Паўла Валошына, Фелікса Галавача.

Усіх пяцёх вядуць да выхаду, па дарозе вязні на калідоры развітваюцца з начальнікам і інспектарам турмы. Развітанне даволі цёплае, вязні нават дзякуюць турэмнаму начальству за людскае з імі абыходжанне. Гэты месяц зняволення не быў салодкім, але да ўласна турэмнай адміністрацыі прэтэнзій ніхто не меў. Яна не здзекавалася, увесь час камунікавала з вязнямі ветліва ды паважліва і ўсё, што залежала толькі ад яе, ім забяспечвала. А дэпутаты, да якіх усе чатыры гады выканання імі сваіх абавязкаў сцякаліся скаргі на паліцэйскі і турэмны гвалт з усёй Заходняй Беларусі, ведалі, што ўсё магло быць і зусім іначай.

На душы ж трывожна, бо адносна далейшага маршруту так нічога і не вядома. Канваіры на задаваныя пытанні ці маўчаць, ці кажуць, што самі не ведаюць. Вязняў садзяць на панадворку турмы ў грузавую закрытую машыну. І неўзабаве прывозяць да чыгункі, але не на вакзал, а да вуліцы за чыгуначным мостам на вуліцы Вастрабрамскай. Там на пуцях ужо стаіць вагон з закратаванымі вокнамі, у які заводзяць усіх пяцёх і рассаджваюць кожнага ў асобную невялічкую камеру. Неўзабаве вагон прычапляюць да варшаўскага цягніка, які рушыў у кірунку польскай сталіцы.




БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

**Такі калаж з партрэтамі арыштаваных і зняволеных дэпутатаў Сейма** друкаваўся ў 1927 годзе ў многіх газетах.

Па дарозе да Варшавы — Гродна і Беласток, у якіх ёсць вялікія турмы. Можа, іх вязуць туды? Добра было б, каб хоць так: чым бліжэй да Вільні, тым лепшая камунікацыя са сваякамі. Але ж не, раніцай вязняў выводзяць з вагона на варшаўскім Усходнім вакзале. А адтуль на чорнай турэмнай карэце, запрэжанай коньмі, перавозяць на Галоўны вакзал і там зноў саджаюць у вагон, цягнік з якім неўзабаве бярэ курс на захад...

### У Вронках

Прывезлі вязняў амаль да самай мяжы з Германіяй, у мястэчка Вронкі за Познанню. Тут месцілася турма, пабудаваная ранейшымі гаспадарамі гэтых земляў, немцамі, і ў ёй тады па-ранейшаму дзейнічалі нямецкія парадкі. Бо ўніфікацыя крымінальнага заканадаўства ў польскай дзяржаве, якая пасля Першай сусветнай вайны склалася з тэрыторый, што раней уваходзілі ў склад трох імперый (Расійскай, Германскай і Аўстра-Венгерскай), адбылася не ўвадначас. Аж да 1932 года суды ў розных частках дзяржавы разглядалі крымінальныя справы паводле заканадаўстваў розных імперый, а ў турмах у залежнасці ад рэгіёна дзейнічалі розныя рэгламенты.

Уласна кажучы, у пэўнай ступені дзеля таго арыштаваных грамадоўцаў сюды і перавезлі. Паводле нямецкага турэмнага рэгламента, адміністрацыя турмы мела права цэнзураваць газеты, чаго не прадугледжвалі рэгламенты былой Расійскай імперыі. А таму з газет цэнзары выразалі нажніцамі ўсё, што ім падавалася «падрыўным», а таксама, як патлумачылі Рак-Міхайлоўскаму, «тое з вестак газетных аб жыцці ў турмах, што магло б уплываць на псіхалогію вязня». У выніку часта ён атрымліваў газеты, з

якіх было складана атрымаць нейкую інфармацыю, бо яны былі неміласэрна парэзаныя на ўсіх старонках.

Моцна абцяжарваў перавод вязняў у максімальна аддаленую ад радзімы турму і камунікацыю з сем'ямі. Праўда, жонкі зняволеных праяўлялі вялікую вытрымку, ахвярнасць і салідарнасць, стараючыся сумесна падтрымаць мужоў. Адразу пасля таго, як у Вільні стала вядома, што грамадоўскія лідары з Лукішак перавезеныя ў Вронкі, туды накіраваліся жонка Браніслава Тарашкевіча Вера і жонка дырэктара Віленскай беларускай гімназіі Радаслава Астроўскага Антаніна. Іх паездку аплацілі ў складчыну сем'і ўсіх зняволеных, і апекаваліся яны на месцы, адпаведна, усімі. Праз нейкі час адных жанчын мянялі іншыя.

Прыязджала і Надзея Рак-Міхайлоўская, якая мела некалькі спатканняў з мужам. Трымалася добра, але Сымон, ведаючы яе характар, пісаў пасля ў дзённіку: «Бедная Надзя! Усе беды найбольш на яе галаву, яна адчувае іх найбалючэй». І адчуваў сваю віну за тое, што непрадбачліва клаў уласныя грашовыя ашчаджэнні ў банк на сваё імя, а не на жончына. Рахунак ягоны пасля арышту быў заблакаваны (на ім было 2 275 злотых і 889 долараў — ▸




**Турэмная камера** ў адной з польскіх міжваенных турмаў.

## Польская турма з нямецкімі парадкамі

Рак-Міхайлоўскі пакінуў падрабязнае апісанне сваёй камеры ў турме ў Вронках, а таксама мясцовых парадкаў, якія засталіся яшчэ з часоў кайзера Вільгельма II:

«Камера чыстая, прасторная: 7×4 крокаў; суфіт — скляпенне. Чыста выбелены. Падлога асфальтавая, чорная; такія ж дзверы і падаконнік, укосны; акно на шэсць шырокіх шыбаў; прасвет яго больш ў шырыню, чым у вышыню. Ніжні край акна нароўні з галавой. Ніжэйшыя тры шыбы злёгка матавыя; замест форткі адчыняецца адразу ўся верхняя частка рамы з трыма шыбамі. Ад кручка-засоўкі спускаецца ўніз палка, за якую, цягнучы, адчыняюць верхнюю частку акна.

Столік белы на чатырох ножках, пераносны. Гэткі ж зэдлік. На сцяне шафка, а ў ёй турэмныя шчоткі для абутку і адзежы, сальнічка, дошка для мяса, каменная белая міска і шклянка; на вешалцы над шафкай — ручнік, сціркa для суддзя і мяшок-капшучок для нажа сталовага. Гэта ўсё пры правай ад дзвярэй сцяне. У пярэднім куце пры гэтай сцяне — бліжэй да акна — вешалка для вопраткі, а ў заднім куце, бліжай да дзвярэй — каларыфер (чорная, у тры вяршкі ў дыяметры труба ад падлогі да суфіту) цэнтральнага апалення.

Пасярэдзіне, пры левай сцяне, стаіць ложак. У куце каля дзвярэй стульчак для "начнога суддзя", таксама белага, каменнага. У пярэднім куце, што да акна — збан-гарлач для вады, белая міска для ўлівання і невялікае вядро для бруднае вады; на нізкай вешалцы — шчотка-мяцёлка для падлогі, савочак для смецця, анучка для сцірання пылу і другая для выцірання акна, як яно запатнее. Усё прадугледжана і кожная рэч мае сваё месца. Сплювачка таксама белая, каменная. Усе рэчы чысцюсенькія, як і бялізна на ложку, дзе коўдра ўложана ў чысты чахол.

Агульнае ўражанне куды лепшае, чым у Лукішках; відаць, турма тут багацейшая на рэчы, пазасталыя ад былых заборцаў — немцаў, і адміністрацыя стараецца падтрымліваць раней заведзены тут парадак.

6 гадзін рана ўставаць; 7 — кава; 10 — вар; 10—11 спацырую на панадворку-палісадніку; а 12 гадзіне абед; а 3.30 вар для гарбаты; 6 — вячэра; 7 — спаць, але я выгаварыў сабе права класціся спаць а 9 вечара, прыплачваючы за 2 гадзіны электрыкі (бо свечкі паліць у камеры не дазваляецца; ды гэта і добра: няма чаду і дыму ад іх)...

...Спацыру маю гадзіну. Цікава ў гэтым розніца паміж Лукішкамі і Вронкамі. Там — на невялікім панадворку верацёнавідная дарожка, шырынёй аршыны два; тут — мы, адзіночнікі, спацыруем на доўгім і шырокім панадворку-палісадніку; але каб не мог чалавек разглядзецца на бакі, на вокны турмы, спацыр адбываецца на градцы (ляха), якая мае форму эліпсіса, прычым вышыня градкі будзе паўтары пядзі, шырыня верхняе плошчы (па якой ідзеш) мае дзве пядзі (толькі!), ніжняя частка градкі — чатыры пядзі шырыні; градка насыпана з звычайнага грунту, чуць азірнешся ці паглядзіш убок — зараз нага спаўзе з градкі і сам пахілішся, што зараз жа заўважа пільнае вока вартаўніка-"дазорцы". Хітрая спадчына ад немцаў!..

...Дазорца азнайміў, што нібы лазня будзе штотыдня. Але я пэўны, што будзе праз два тыдні, як і ў Лукішках. Мыццё тут у лазні, як і ў Лукішках — у адзіночку (ізноў падстава — сціслая ізаляцыя!). Мыцца даводзіцца пад "душам" увесь час, у цеснай загародцы з дошак. Начыння ніякага. Рэгулюе ваду нейкі вязень-"істопнік", сядзіць нямы як рыба; воддаль трохі ад мяне сядзіць вартоўны-дазорца.

Парыкмахера прыводзяць да мяне ў камеру толькі раз на тыдзень».

вялікія на тыя часы грошы), і сям'я засталася без сродкаў да існавання. І нічога адсюль не зробіш, акрамя толькі пісання скаргаў пракурору. Якія, вядома, застаюцца без задавальнення.

### «Ад сваёй працы я не адракаюся, насупраць, ганаруся»

А тым часам ідуць дні, тыдні і месяцы, і кожны новы падобны да папярэдніх. Ужо праз тыдзень жыцця ў Вронках, 20 лютага, вязень натуе: «Неяк так манатонным становіцца жыццё ў турме, што мусіць я ў скорым часе зусім закіну гэты свой дзённік... Няма жадных новых уражанняў, ад жыцця адарваны, няма тых падмываючых душу, да працы пытанняў, якія меў на волі». І сапраўды — далей на старонках дзённіка пераважна толькі пераказ зместу нячастых лістоў і газетных публікацый, кароткія развагі наконт іх, успаміны пра мінулае. А пасля сакавіка запісы ўвогуле толькі спарадычныя, пакуль у сярэдзіне чэрвеня вязень канчаткова не махнуў рукой на вядзенне сваёй хронікі.

Следства па справе грамадоўцаў вялося амаль год, а судовы працэс, які ўвайшоў у гісторыю як «працэс 56-ці», адбыўся ў Вільні вясной 1928 года. Сымон Рак-Міхайлоўскі, як і іншыя галоўныя лідары Грамады, быў асуджаны на 12 год зняволення. Напрыканцы працэсу ён выступіў з заключным словам, несумненна, добра загадзя прадуманым і падрыхтаваным. У ім Рак-Міхайлоўскі засведчыў: «Ад сваёй працы я не адракаюся, насупраць, ганаруся ўсёй сваёй 20-гадовай працай і ў ваенных арганізацыях, і ў справах школьных і палітычных. Не было ніводнай галіны ў беларускай працы, у працы беларускага адраджэння, дзе б я не браў самы актыўны ўдзел. Усёй сваёй папярэдняй працай, як і працай у Грамадзе, магу ганарыцца і магу публічна пахваліцца. А Грамада скалыхнула наш народ, і гэта — яе вялікая заслуга».

Сядзець, аднак, давялося куды менш, чым было адведзена судом. Ужо праз год польскія ўлады пачалі спрабаваць праводзіць у беларускім пытанні больш гнуткую палітыку, якая сярод іншага прадугледжвала вызваленне з турмы аўтарытэтных беларускіх дзеячаў за абяцанне трымацца ў сваёй дзейнасці больш памяркоўнай лініі. Вясной 1930 года большасць лідараў БСРГ, у тым ліку і Сымон Рак-Міхайлоўскі, пасля крыху больш чым трохгадовай адседкі былі вызваленыя. Пасля гэтага ён прыняў рашэнне не заставацца далей у Польшчы, а выехаць у Савецкую Беларусь. Гэта рашэнне, як пасля аказалася, было трагічна-памылковым, хутка за яго давялося заплаціць жыццём. Але гэта ўжо іншая гісторыя. ◆

### Запіс ад 25 лютага 1927 года

Учора, у часе спацыру, а гадзіне 4 вечарам бачыў гусей, якія варочаліся з выраю. Чамусьці прыпомніўся мне адзін позні вечар у вёсцы Паташнікі Кемелішскай воласці Свянцянскага павета ў 1907 годзе (дзе я быў вучыцелем), дзе ранняй вясной давялося мне чуць і бачыць паварот птушак розных з выраю. Усё паветра, здаецца, было поўна крыкаў, піску птушынага, на розныя лады заклікаў… Было цёмна, вясна забірала свае правы. І неяк жа весела было на душы мне, хоць адзін быў сярод шэрых яшчэ палёў і безлістоўных дрэваў. Молад быў я, поўны сілаў і надзей. І волен быў я! 20 вёснаў прайшло з таго часу… Бачыў учора гусей… Таксама адзін, не, не адзін — у куце стаіць і пазірае на мяне вартаўнічы-дазорца з карабінам на плячы, кругом высокія з пабурэўшай чырвонай цэглы сцены, хаджу наўкруг па вузенькайградцы-сцежачцы. Няволя!...

Якая ж розніца паміж тым вечарам у 1907-м і сёлета — у 1927 годзе!...



ФОТА СВЯТЛАНЫ ПЕТУШКОВАЙ, FACEBOOK.COM

**Два гады таму турму на Лукішках сталі пераабсталёўваць на грамадска-культурны цэнтр.**



# Мірскі замак у 3D-фармаце

Шэдэўр, што нашы продкі будавалі цягам XVI–XX стагоддзяў, можна сабраць за гадзіну. Для гэтага не спатрэбяцца ні цэгла, ні цэмент — толькі прыкладзі рукі. Цяпер любы ахвотны можа сам пабудаваць Мірскі замак, які ўвайшоў у Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА і стаў адным з самых пазнавальных сімвалаў Беларусі.

Сяржук Бахун разам са сваёй мамай Тамарай і дачкой Адэляй уклалі свае высілкі ў праект па стварэнні 3D-мадэлі замка ў Міры. Галоўным натхняльнікам была Адэля. Дзяўчынка папрасіла ў бацькоў канструктар з якім-небудзь беларускім замкам. Абышлі ўсе дзіцячыя крамы. Там бачылі ўсё, што толькі можна: Эйфелеву вежу, Крэмль, Статую Свабоды. Але так і не знайшлі ніводнага канструктара, прысвечанага нашай гісторыі. Калі Адэлька прыехала ў Брэст праведаць бабулю, то распавяла пра гэту праблему і ёй. А бабуля сказала: «Не знайшлі, дык давайце зробім самі!»

Праект атрымаўся паспяховым, і цяпер 3D-канструктар «Мірскі замак», зроблены з трывалага кардону, можна набыць, сабраць ці падараваць. Канструктар можа быць выкарыстаны ў якасці цацкі, якую будуць ахвотна збіраць дзеці,




а пасля з ёй гуляцца. Таксама гэта цудоўны сувенір і падарунак іншаземцам, які з гонарам распавядзе ім пра слаўную гісторыю беларускай зямлі, дзе ў Сярэднявеччы будаваліся замкі і палацы, не горшыя за еўрапейскія. Пры канструктары ёсць каляровая брашура з фотаздымкамі, якая на беларускай і англійскай мовах займальна расказвае пра гісторыю стварэння і існавання Мірскага замка.

Калі вы хочаце заняцца пабудовай Мірскага замка альбо натхніць на гэтую цікавую справу іншых, то завітайце ў інтэрнэт-краму **bakhuny.by** і набудзьце 3D-канструктар «Мірскі замак».






**«Самотны бунтаўнік».**
Фота Джэфа Уайднера. 1989 год.

# ЦЯНЬАНЬМЭНЬ
## Плошча поўнага маўчання

**Ці можа застацца ў гісторыі асоба без імя, нават без твару? Да сёння невядомае імя чалавека, што трапіў на кадр амерыканскага рэпарцёра на плошчы Цяньаньмэнь у 1989 годзе. Але гэты невядомы стаў сімвалам імкнення кітайскага народа да свабоды і дэмакратыі, піша Таццяна Свянцецкая.**

Маа Цзэдун, што кіраваў Кітайскай Народнай Рэспублікай ад заснавання ў 1949 годзе і да 1976-га, бачыў Кітай флагманам праўдзівага камунізму. Савецкі камунізм, асабліва паслясталінскі, ён лічыў сапсаваным і шавіністычным.

Маа Цзэдун збудаваў такую сістэму, якая дазваляла ажыццяўляць жорсткія, а часам і абсурдныя ідэі (адстрэл вераб'ёў), не несучы за гэта ніякай адказнасці. І гэта прывяло краіну да мяжы эканамічнай, дэмаграфічнай і гуманітарнай катастрофы.

Рэформы былі непазбежныя, і кітайскія кіраўнікі гэта разумелі, але першапачаткова зводзілі іх ▸

### Маа Цзэдун, «вялікі скачок» і «культурная рэвалюцыя»

Улада камуністаў усталявалася ў Кітаі ў 1949 годзе, калі яны атрымалі перамогу над апанентамі-нацыяналістамі з партыі Гаміньдан у грамадзянскай вайне, што разгарнулася пасля вызвалення Кітая ў 1945 годзе з-пад японскай акупацыі. Мясцовыя камуністы цесна супрацоўнічалі са сталінскім СССР і былі скіраваныя на развіццё паводле савецкай мадэлі.

Некаторы час паводле савецкіх узораў Кітай развіваўся і пасля

смерці Іосіфа Сталіна ў 1953 годзе, яго нават закранула нешта падобнае да хрушчоўскай адлігі. У 1957 годзе лідар Камуністычнай партыі Кітая Маа Цзэдун (1893–1976) абвясціў кампанію «Хай расцвітаюць сто кветак, хай супернічаюць сто школ», скіраваную на ўзмацненне ўнутранай крытыкі. Але неўзабаве яна была згорнутая, а замест гэтага на ўзбраенне была ўзятая валюнтарысцкая ідэя Маа Цзэдуна «вялікага скачка» ў эканамічным развіцці з апорай на энтузіязм насельніцтва.

«Вялікі скачок», які праводзіўся ў 1958–1960 гадах, адзначыўся шэрагам масавых усекітайскіх кампаній, да якіх абавязкова прыцягвалася амаль усё тады 600-мільённае насельніцтва. Прытым гэтыя кампаніі былі, як правіла, чыста валюнтарысцкія: у Маа Цзэдуна ці кагосьці з ягоных паплечнікаў узнікала маштабная ідэя — і яе зразу пачыналі праводзіць у жыццё, не пралічваючы наступстваў.

Была праведзеная ўсеагульная калектывізацыя са стварэннем «народных камунаў», прытым у іх татальна абагульвалася ўсё.

Сяляне абавязваліся змагацца з вераб'ямі, мухамі, камарамі і іншымі шкоднікамі і дасягалі ў гэтым неверагодных поспехаў, але татальнае знішчэнне тых жа вераб'ёў прывяло да парушэння прыроднага балансу, размнажэння шкодных насякомых і, адпаведна, гібелі ўраджаю.

Была таксама абвешчаная кампанія па ўсеагульнай выплаўцы сталі, якая мусіла імгненна падняць кітайскую эканоміку на недасяжныя раней вышыні, але нізкаякасны чыгун, які атрымліваўся ў прымітыўных доменных печах, пастаўленых у кожным калгасным двары, быў мала да чаго прыдатны. Разам з тым на непасрэдна сельскую гаспадарку ў сялян не заставалася часу, што ў спалучэнні з неспрыяльнымі ўмовамі надвор'я і стыхійнымі бедствамі выклікала масавы голад. Увогуле, тады ў Кітаі было ініцыявана і шмат маштабных будоўляў, якія дорага каштавалі, але былі бессэнсоўныя з эканамічнага пункту гледжання, і смелых эксперыментаў, якія таксама заканчваліся пшыкам.

У цэлым палітыка «вялікага скачка» каштавала Кітаю страты амаль чвэрці валавога нацыянальнага прадукту, а ад выкліканага ім голаду памерлі, па розных ацэнках, ад 18 да 56 мільёнаў чалавек.

У 1960 годзе палітыка «вялікага скачка» была згорнутая, але выпрабаванні для кітайцаў толькі пачыналіся. Аўтарытэт Маа пасля гэтай няўдачы падупаў, а да таго ж з канца 1950-х значна пагоршалі і адносіны Кітая з СССР, што пасля праяўлялася і ва ўзброеных канфліктах. У такіх умовах у 1966 годзе Маа абвясціў новую маштабную кампанію (дакладней, серыю кампаній), якая ўвайшла ў гісторыю як «культурная рэвалюцыя». Падчас гэтай кампаніі нібыта для таго, каб супрацьдзейнічаць магчымай «рэстаўрацыі капіталізму» ў КНР, і «барацьбы з унутраным і знешнім рэвізіянізмам», праводзілася дыскрэдытацыя і знішчэнне любой апазіцыі ўладзе Маа Цзэдуна, перадусім унутрыпартыйнай. Гэта было нешта падобнае да таго, што праводзіў Сталін у СССР у 1930-я гады, толькі з усходнім каларытам.

Кітай таго часу быў сапраўды жудаснай краінай, дзе не дзейнічалі ніякія законы, апрача права моцнага. Асабліва так было на пачатковым этапе «культурнай рэвалюцыі». Тады пад лозунгам перадачы ўлады масам былі створаныя банды з маладых людзей — хунвэйбіны (школьнікі і студэнты) і цзаофані (маладыя рабочыя), якія тэрарызавалі ўсіх, каго Маа абвяшчаў «класавымі ворагамі пралетарыяту». Ахвярай тэрору з аднолькавай верагоднасцю маглі стаць як просты селянін, так і высокапастаўлены партыйны дзеяч, а асабліва цярпела інтэлігенцыя. Навучанне ў школах і ВНУ на пэўны час было ўвогуле адменена (як спяваў тады Уладзімір Высоцкі: «Не ходите, дети, в школу, приходите бить крамолу!»), замест гэтага вучні і студэнты займаліся пошукам «ворагаў», якіх білі, здзекаваліся і нават забівалі. Праваахоўная і судовая сістэмы фактычна самаўхіліліся ад умяшання ў сітуацыю.

Сістэма кіравання дзяржавай у гэтым хаосе амаль рухнула, і, каб аднавіць кантроль над сітуацыяй, Маа Цзэдуну давялося ўрэшце прымяняць нават армію. Але і пасля таго тэрор не спыняўся, хоць вёўся ўжо цэнтралізавана афіцыйнымі сілавымі структурамі. Колькасць толькі непасрэдна забітых падчас «культурнай рэвалюцыі» ацэньваецца ад 1,4 да 1,6 млн чалавек.

У ходзе «культурнай рэвалюцыі» практычна цалкам былі паралізаваныя і спыненыя культурная і навуковая дзейнасць у краіне. Граміліся навуковыя ўстановы, тэатры, музеі, храмы і манастыры, зачыняліся кнігарні і бібліятэкі. Загінула шмат помнікаў гісторыі і культуры, нават частка Вялікай Кітайскай сцяны была разабраная на дэфіцытную цэглу. Паўсюдна насаджваўся культ асобы Маа Цзэдуна, вялізнымі накладамі выдаваўся ягоны цытатнік: «Маленькая чырвоная кніжыца».

Канчаткова «культурная рэвалюцыя» была згорнутая толькі пасля смерці Маа Цзэдуна 9 верасня 1976 года. Яго пераемнікі запусцілі праграму эканамічных рэформаў, якія мелі поспех і зрабілі кітайскую эканоміку адной з найбуйнейшых у свеце. Але поўную манаполію на палітычную ўладу ў гэтай краіне дагэтуль мае Камуністычная партыя Кітая.

толькі да гаспадаркі: маўляў, якая розніца, якога колеру курыца.

Дэн Сяапін, які фактычна ўзначаліў краіну ў пачатку 1980-х, неўзабаве прапанаваў падзяліць усю эканоміку Кітая на чатыры сектары: абарончая прамысловасць, сельская гаспадарка, навука і прамысловая вытворчасць. Краіна адмовілася ад «народных камун» (калгасаў) і зрабіла стаўку на фермерства («сямейныя гаспадаркі»). Былі створаныя свабодныя эканамічныя зоны для прыцягнення інвестыцый. Адмовіліся ад планавай сістэмы.

Палітыка «чатырох мадэрнізацый», якую сталі праводзіць у Кітаі пасля смерці Маа Цзэдуна, мела на мэце найперш усіх накарміць дасыта. Але калі эканоміка стала расці, многія задумаліся не толькі пра дабрабыт, але і пра свабоду, прынцыпы.

## Астрафізік з лекцыямі

Грамадства па-рознаму рэагавала на гэты нэп. Адныя хацелі працягнуць эканамічныя рэформы і распачаць палітычныя, іншыя, наадварот, выступалі за спыненне нэпу і вяртанне да палітыкі Маа Цзэдуна.

Сполахі надыходзячай навальніцы сталі заўважацца яшчэ ў 1986 годзе. Вядомы навуковец-астрафізік Фан Лічжы, «кітайскі Сахараў», тады пачаў тур па кітайскіх універсітэтах з лекцыямі аб свабодах, правах чалавека, падзеле ўлады. Яго прамовы адгукаюцца ў студэнцкім асяроддзі, выходзяць за межы ўніверсітэта і распаўсюджваюцца ў Шанхаі, Гуанчжоу, Пекіне. Як вынік, пачаліся пратэсты.

Тагачасны кіраўнік Кампартыі Кітая Ху Яабан таксама бачыў будучыню Кітая ў дэмакратызацыі. Аднак нефармальны лідар партыі і краіны Дэн Сяапін бачыў інакш.

Ху Яабана, які атрымаў мянушку «кітайскі Гарбачоў», у студзені 1987 года прымусілі сысці з пасады кіраўніка КПК «за недастатковую рашучасць». Студэнцкія пратэсты разагнала паліцыя. Але ж ідэі нікуды не зніклі.

## Студэнт, якому найболей трэба

Маладосць не адчувае межаў, не прызнае бар'ераў, яна верыць у лепшае і працуе дзеля ўвасаблення ідэалаў у жыццё. Калі вясной 1989 года ў пекінскім паветры зноў запахла свабодай, гэтая атмасфера ўзрушыла і 17-гадовага старшакласніка Цзян Цзіляна.

Цзілян рос у выкладчыцкай сям'і: яго маці была прафесаркай філасофіі ў Кітайскім народным універсітэце, бацька там жа ўзначальваў Інстытут эстэтыкі. Для хлопчыка з маленства былі блізкія ідэалы правоў чалавека і дэмакратыі. Ён з раніцы сядаў на веласіпед, імчаў у студэнцкія кампусы пачытаць дацзыбао — вялікую насценгазету, занатаваць выкладзеныя там ідэі і лозунгі, а пасля абмяркоўваў іх з аднакласнікамі.

Тым часам 15 красавіка 1989 года памірае «нерашучы» Ху Яабан. На яго пахаванне 22 красавіка збіраецца каля 100 тысяч чалавек, пераважна студэнты. І пахаванне былога камуністычнага лідара ў хуткім часе ператвараецца ў пратэст супраць карупцыі, выступ за свабоду СМІ, палітычныя рэформы. Сярод студэнтаў вылучаюцца лідары.

Пасля пахавання найбольш актыўная частка студэнтаў, да якой далучыўся і Цзян Цзілян, накіравалася да ўвахода ў Чжуннаньхай, рэзідэнцыю партыйнага кіраўніцтва. Яны неслі патрабаванні аб палітычнай рэабілітацыі былога кіраўніка




На плакаце кітайскіх студэнтаў афарызм лорда Актана: **«Абсалютная ўлада абсалютна разбэшчвае».**

**Плошча Цяньаньмэнь** была задуманая, каб уражваць сваімі імперскімі маштабамі.




КПК. Міліцыя не пусціла іх усярэдзіну, тады студэнты зладзілі сядзячую забастоўку. Так пачалася амаль двухмесячная хваля пратэстаў.

### «Неабходна заняць адназначную пазіцыю»

Сваё стаўленне да пратэсту ўлада абазначыла ў афіцыйнай прэсе 26 красавіка. Напярэдадні мэр Пекіна Чэнь Сітун і сакратар Лі Сімін выступілі з дакладам, у якім гаварылі пра «антысацыялістычную змову», якая «кіруецца з Захаду».

Кіраўніком гэтай змовы назвалі Фан Лічжы, а мэтай — дзяржаўны пераварот. Чэнь параўнаў пратэстоўцаў з хунвэйбінамі часоў «культурнай рэвалюцыі», ахвярамі якіх у свой час сталі мільёны людзей, у тым ліку і Дэн Сяапін.

Раніцай Пекін пабачыў загаловак у галоўнай партыйнай газеце: «Неабходна заняць адназначную пазіцыю супраць беспарадкаў». Тэкст артыкула быў поўны варожасці да дэманстрантаў, вызначаў іх рух як антыпартыйны і антыдзяржаўны. Дэн Сяапін уласнаручна загадаў у артыкуле змяніць фразу «студэнцкі рух» на «беспарадкі». Чырвонай лініяй праходзіла тое самае параўнанне студэнтаў-пратэстоўцаў з разбуральнікамі-хунвэйбінамі.

Пазіцыя ўладаў стала дэтанатарам абурэння. Студэнцкі рух, які да таго быў хутчэй стыхійным, пачаў набываць арганізацыйныя формы. З’явіўся першы орган кіравання – Незалежны саюз студэнтаў Пекіна, які запатрабаваў выдаліць абразлівы артыкул з афіцыйнай прэсы і распачаць перамовы. А 27 красавіка ўзнік палатачны гарадок на плошчы Цяньаньмэнь.

### «Плошча нябеснага спакою»

Чым Пекін ёсць для Кітая, тым плошча Цяньаньмэнь ёсць для Пекіна. Гэта сэрца кітайскай сталіцы. Менавіта тут было абвешчана пра стварэнне Кітайскай Народнай



На наступны дзень пасля расстрэлу на плошчы Цяньаньмэнь **прафесар Фан Лічжы папрасіў палітычнага прытулку ў пасольстве ЗША ў Пекіне.**

**Рух 4 мая**
масавы антыімперыялістычны, пераважна антыяпонскі рух, які разгарнуўся ў Кітаі ў маі – чэрвені 1919 года. Разгарнуўся як рэакцыя на рашэнне Парыжскай мірнай канферэнцыі не вяртаць Кітаю захопленыя Японіяй былыя германскія канцэсіі ў правінцыі Шаньдун. Арганізатарамі і першапачынальнікамі гэтага руху былі студэнты, і сярод іншага ён пазначыў імкненне людзей пераняць заходнюю мадэль грамадства. Менавіта таму гэтая дата была для кітайскіх студэнтаў у 1989 годзе важная як сімвал.

Рэспублікі, тут знаходзяцца галоўныя адміністрацыйныя будынкі. Сімвалічна і гістарычна Цяньаньмэнь для Кітая — як Красная плошча для Расіі. Толькі маштабам пераўзыходзіць Красную плошчу.

Назву плошчы дала размешчаная там «Брама нябеснага спакою», якая аддзяляе плошчу ад «забароненага горада», кітайскага Крамля, рэзідэнцыі імператарскай улады.

Ад XIV стагоддзя да нашых дзён са зменай ідэалогіі тут мяняюцца помнікі і іх сэнс, але сама роля плошчы застаецца нязменнай: сваёй архітэктурай яна нагадвае Сонечную сістэму і сімвалізуе іерархічнасць улады і стратыфікацыю грамадства. ▸

▶ Пасля 1949 года ўсе значныя святы праходзілі тут. Тут адбываліся штогадовыя парады, тут давалі прысягу члены партыі, тут віталі замежных гасцей. Тут — цэнтр улады.

4 мая 1989 года студэнты сабраліся на юбілей пачатку Руху 4 мая ў 1919 годзе. Да студэнтаў далучыліся рабочыя, чыноўнікі. Рабочыя стварылі свой орган кіравання, аналагічны студэнцкаму, — Незалежную асацыяцыю пекінскіх рабочых.

Дэманстранты запрашалі кіраўніцтва партыі выйсці да людзей. Яно не выйшла. Тады 13 мая найбольш рашучыя пратэстоўцы абвясцілі галадоўку. Пасля пяці дзён некаторыя студэнты сталі слабець, страчваць прытомнасць. Людзі, якія першапачаткова абыякава ставіліся да пратэсту, пачалі хвалявацца за іх здароўе, прыносілі ваду і ежу і так далучаліся да пратэсту. Было відавочна, што дэманстранты павышаюць стаўкі.



WIKIMEDIA COMMONS

Студэнты размясцілі свой камандны пункт **каля помніка Народным Героям.**




PETER CHARLESWORTH, LIGHTROCKET, THEGUARDIAN.COM

## Багіня Дэмакратыі

Статую «Багіня Дэмакратыі», падобную да статуі Свабоды ў ЗША, студэнты Акадэміі мастацтваў стварылі з пенапласту і пап'е-машэ і па частках пранеслі некалькі кіламетраў праз увесь горад, каб паставіць у самым сэрцы Кітая. Багіня Дэмакратыі пазірала ў вочы таталітарнаму мінуламу — партрэту Маа Цзэдуна.



LIU HEUNG SHING, AP, WTOP.COM

## Арганізацыя Плошчы

Заняўшы прастору Цяньаньмэнь, студэнты прыстасавалі яе пад свае патрэбы. Манумент на паўднёвай частцы плошчы, помнік Народным Героям, быў упрыгожаны плакатамі і банерамі і ператвораны ў своеасаблівы камандны пост і прэс-цэнтр.

На прыступках манумента знаходзіліся студэнцкія лідары з чырвонымі павязкамі на галовах. Адсюль яны агітавалі, прамаўлялі. Тут жа людзі падпісвалі адзін аднаму футболкі, пакідалі адрасы для ліставання.

Некалькі сотняў галадоўнікаў размясціліся ва ўсходняй частцы плошчы. Для іх аховы былі створаныя атрады добраахвотнікаў. У адзін з такіх атрадаў уваходзіў і Цзян Цзілян. Студэнты, у прыватнасці, самі рэгулявалі дарожны рух.

Уся прастора плошчы, занятая студэнтамі, была падзелена на сектары для кожнай школы ці ўніверсітэта. Усярэдзіну пускалі па студэнцкіх білетах. Умоўнымі межамі былі нацягнутыя паміж лаўкамі вяроўкі.

Ва ўсходняй частцы плошчы паставілі туалеты. Кінахроніка зафіксавала, як у мегафон абвяшчаюць: «Увага! Адказныя за прыбіранне туалетаў, падыдзіце на ўсходнюю частку плошчы».

Сантэхнікі ўрэзаліся ў водаправод, каб у пратэстоўцаў была пітная вада.

Студэнтаў на плошчу падвозілі аўтобусамі. Аўтобусы паркаваліся радочкамі ў паўночнай частцы плошчы, упрыгожаныя плакатамі, лістоўкамі, аб'явамі, яны выкарыстоўваліся як мабільныя сталовыя, медыцынскія кабінеты, штаб-кватэры і інтэрнаты.

### Маленькая бутэлька

Плошча стала фінальным пунктам маршаў. Пешыя і веласіпедныя калоны з транспарантамі кожны дзень рухаліся па вуліцах горада ў цэнтр.

Дэманстранты віталі адзін аднаго ўсмешкамі, лозунгамі і жэстам вікторыі. То тут, то там разбівалі маленькія бутэлечкі – гэта былі перформансы супраць Дэн Сяапіна (па-кітайску Сяапін гучыць падобна да «маленькая бутэлька»).

Плошча нагадвала неабсяжнае мора сцягоў, якія луналі пад гукі музыкі і запальных прамоў студэнцкіх актывістаў.

Паводле ўспамінаў аднаго з лідараў студэнцкага руху, Чжоу Фэнсуо, адным з яго самых


CHINESEPEN.ORG

Плошча Цяньаньмэнь **28 мая 1989 года.**

яскравых уражанняў 1989 года была атмасфера, якая панавала на плошчы. Падавалася, быццам Цяньаньмэнь адкрыў у людзях тое, што вынішчалася дзесяцігоддзямі таталітарнага рэжыму. Гэта быў дух надзеі на перамены да лепшага, дух еднасці і адказнасці.

### «Вы не “крыху спазніліся”»

Кіраўніцтва КНР на чале з нефармальным лідарам Дэн Сяапінам вагалася. На 15 мая быў запланаваны візіт у Кітай Міхаіла Гарбачова, з гэтай нагоды ў Пекін з'ехаліся сотні замежных рэпарцёраў з усяго свету — а тут сталіца вірує. Упершыню камуністычны Кітай аказаўся ў такой сітуацыі.

Каб суцішыць пратэст, прэм'ер Лі Пэн пагадзіўся на сустрэчу са студэнцкімі лідарамі. Сустрэча адбылася 18 мая. Напружанне вісела ў паветры, і першым выбухнуў адзін са студэнтаў, Уэр Кайсі, дарэчы, уйгур паводле ▶


ANDREI-BT.LIVEJOURNAL.COM

**Пратэстуючыя студэнты з партрэтамі Міхаіла Гарбачова** як сімвала новага мыслення.

**Чжаа Цзыян** (1919–2005) удзельнічаў у камуністычным руху яшчэ перад Другой сусветнай вайной. Пры Маа Цзэдуне быў правінцыйным партыйным лідарам, заўсёды трымаўся памяркоўнай лініі. Падчас «культурнай рэвалюцыі» быў адхілены ад партыйных пасад і чатыры гады працаваў простым слесарам на механічным заводзе.

У сярэдзіне 1970-х, кіруючы правінцыяй Сычуань у цэнтры Кітая, Чжаа Цзыян правёў там паспяховыя эканамічныя рэформы, якія пасля былі ўзятыя за пэўны ўзор пры рэфармаванні ўсяго Кітая. А іх архітэктар пачаў рабіць імклівую кар'еру ў сталіцы. У 1980 годзе ён стаў прэм'ерам Дзяржаўнай рады КНР, то-бок узначаліў урад. Лічыў, што эканамічны прагрэс непарыўна звязаны з дэмакратызацыяй грамадства. Пасля адстаўкі Ху Яабана ў студзені 1987 года быў абраны на ягонае месца, хоць усё больш траціў пазіцыі пад ціскам кансерватараў.

Пасля выступлення перад студэнтамі на плошчы Цяньаньмэнь быў 20 мая 1989 года адхілены ад пасады і змешчаны пад хатні арышт, хоць ніякіх афіцыйных абвінавачанняў яму так і не выставілі. Пад гэтым арыштам ён заставаўся 15 гадоў, да самай смерці. Патаемна дыктаваў на магнітафон мемуары, якія былі апублікаваныя ў 2009 годзе ў Вялікабрытаніі. Да канца жыцця лічыў, што праблемы Кітая трэба вырашаць, паступова, але няўхільна рухаючыся да дэмакратыі.

паходжання: ён галадаў, быў увесь на нервах. Ён перабіў прэм’ера: «Я разумею, гэта даволі груба з майго боку перарываць вас, прэм’ер, але людзі сядзяць на плошчы, трымаюць галадоўку, а мы тут абменьваемся ветлівасцямі. Мы тут, каб абмяркоўваць канкрэтныя пытанні».

На заўвагу аб некарэктнасці сваіх паводзін Кайсі адказаў: «Вы сказалі, што крыху спазніліся на сустрэчу з-за затораў на дарогах. Але ж мы тут з 22 красавіка. Вы не “крыху спазніліся”, вы прыехалі зусім позна. Але нічога. Добра, што вы ўвогуле прыехалі».

Нічым канструктыўным сустрэча не скончылася.

Упершыню ў гісторыі замежную дэлегацыю везлі ў «Забаронены горад» аб’язнымі шляхамі, мінаючы плошчу.



Дарогу калоне вайсковай тэхнікі да плошчы Цяньаньмэнь блакавалі з дапамогай будаўнічай тэхнікі і грамадскага транспарту. **Так горад выглядаў 5 чэрвеня 1989 года.**

STUART FRANKLIN, MAGNUMPHOTOS.COM

### «Вы не такія, як мы»

Галоўным у найвышэйшым кіраўніцтве Кітая, хто фактычна падтрымаў пратэст, быў сам фармальны кіраўнік партыі, генеральны сакратар ЦК КПК Чжаа Цзыян. Гэта ён дазволіў у тыя дні сродкам масавай інфармацыі працаваць амаль бесцэнзурна.

19 мая Чжаа Цзыян выйшаў на плошчу Цяньаньмэнь, да людзей. Яго прамова, якая транслявалася на ўвесь Кітай, была прасякнутая пачуццём еднасці з народам, з тымі, хто выйшаў на вуліцы: «Вы не такія, як мы. Мы старыя. Мы ўжо не так блізка да сэрца ўсё прымаем. Некалі мы таксама былі маладымі. Таксама пратэставалі, клаліся на рэйкі. Тады мы таксама не думалі пра магчымыя наступствы».

І ўсё ж як чалавек, які валодаў сітуацыяй знутры, Чжаа Цзыян заклікаў людзей разысціся, бо ведаў, што для задушэння пратэстаў будзе выкарыстаная армія.

Так і сталася. 20 мая ў краіне было ўведзена ваеннае становішча, а Чжаа Цзыян быў пазбаўлены пасады.

### «Здаецца, папалі»

«Апошняе папярэджанне» пратэстоўцам, зусім не «кітайскае», прагучала 1 чэрвеня.




WIKIMEDIA COMMONS

Удзень 3 чэрвеня па пекінскім радыё перадалі загад увечары заставацца ў сваіх дамах, не выходзіць на вуліцы. А армія атрымала загад разагнаць плошчу любой цаной.

Пачуўшы заяву, зачытаную па радыё — у тыя гады радыё слухалі ўсе, — Цзян Цзілян кінуўся апранацца, каб ісці на плошчу. Бацькі ўсталі ў дзвярах. Але як яны ні ўгаворвалі, як ні малілі, усё дарма. «Галоўнае не перамога,

### «Маці Цяньаньмэнь»

Цзян Цзілян трапіў у ліст афіцыйна прызнаных ахвяр разгону на Цяньаньмэнь. Але яго маці Дзін Цзілян ніяк не магла прымірыцца са стратай. Яна стала шукаць іншых такіх маці, як яна. З’явілася супола «Маці Цяньаньмэнь». Жанчыны шукалі звесткі аб ахвярах, падтрымлівалі пацярпелых, давалі інтэрв’ю замежным СМІ. Жанчын пачалі арыштоўваць, судзіць, цяпер за кожнай замацаваны персанальны назіральнік. Дзяржава спрабуе забараніць не толькі памяць, але нават і мацярынскі боль.

а ўдзел», — па-алімпійску адказаў хлопец і замкнуўся ў ванным пакоі, а там адкрыў акно і збег.

Каля школы Цзян Цзіляна чакалі аднакласнікі. Яны разам паехалі ў цэнтр на роварах, аднак хутка наткнуліся на блокпост. Давялося хавацца ў кустах. Грымнулі стрэлы — і зазвінела ў вокнах. «Здаецца, папалі», — прашаптаў Цзілян і споўз на зямлю. Куля трапіла ў грудзі.

### Стралялі цэлую ноч

Уначы 3 чэрвеня на плошчу пайшлі танкі. Пратэстоўцы супраціўляліся: яны ссоўвалі бетонныя блокі, кідалі камяні, падпальвалі коўдры і накрывалі імі люкі танкаў.

За танкамі рухалася пяхота. Жыхары мікрараёнаў блакавалі дарогі. Месцамі салдат прымушалі адступаць. Амерыканскія журналісты фіксавалі, што некаторыя салдаты былі параненыя камянямі.

З 3 на 4 чэрвеня стралялі цэлую ноч. Расстрэльвалі тых, хто супраціўляўся, даганялі тых, хто ўцякаў, і абстрэльвалі тых, хто бег у цэнтр.

Раніцай па тэлебачанні кіраўніцтва краіны падзякавала арміі за паспяховае выкананне пастаўленых задач.

Цяжка падлічыць колькасць забітых.

Па афіцыйных дадзеных кітайскага кіраўніцтва, загінуў «усяго» 241 чалавек. Чырвоны Крыж даваў лічбу 2600 забітых дэманстрантаў і некалькі вайскоўцаў.

### Маўчанне стала сімвалам

Унутры Кітая гэтае студэнцкае выступленне і сёння абсалютна забароненая тэма. Яго нельга не тое што абмяркоўваць — нават узгадваць. Няма гаворкі, каб апраўдваць яго, сцвярджаць, што дзякуючы таму расстрэлу краіну ўратавалі ад хаосу перамен. Палітыка афіцыйнага Пекіна — проста маўчаць, быццам нічога не было, каб выгадаваць пакаленні, якія ніколі не чулі пра студэнцкі рух 1989 года. Гэта частка палітыкі татальнага кантролю над грамадствам з дапамогай цяпер ужо штучнага інтэлекту і алгарытмаў.

У гэтым годзе ў Кітаі заблакавалі старонку стартапа *Xiaohongshu*, на якой 4 чэрвеня напісалі «А ну, скажыце, які сёння дзень?».

Маўчанне стала сімвалам. ◆




**Студэнткі з плошчы Цяньаньмэнь.**

**Двухвяршынная скала Шаманка** — мыс на востраве Альхон, адзін з сімвалаў Байкала і бурацкая святыня. На скале ёсць святая пячора, у якой у старажытнасці знаходзілася малельня.

# БАЙКАЛ

# Падарожжа на востраў шаманаў



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Да Байкала 5000 кіламетраў: столькі ж да Індыі, Нігерыі ці Канады. Але гэта той выпадак, калі шлях варты пераадолення, піша Сяргей Грунтоў.**

Для тых беларусаў, якія хадзілі ў савецкую і постсавецкую школу, назва «Байкал» трывала прысутнічала ў свядомасці. На ўроках геаграфіі вучылі, што гэта самае глыбокае возера ў свеце і самае вялікае ў Еўразіі. Але бачылі яго толькі на дрэннай якасці карцінках, на якіх, каб не гарысты бераг, яго складана было б адрозніць ад Нарачы. Чамусьці газіроўка «Байкал» у буфеце колерам была поўнай супрацьлегласцю «самай чыстай вадзе» возера, пра якую пісалі ў падручніку. На гэтым набор асацыяцый звычайна заканчваўся. А пра Іркуцк ён быў і яшчэ меншы: горад недзе ў Сібіры, розныя ссыльныя і «дзекабрысты».

Але тым цікавей адкрыццё таго сапраўднага, багатага зместамі свету, якім раскрываецца гэты куток Сібіры пры першым знаёмстве. Ляцець з Масквы ў Іркуцк амаль шэсць гадзін, дарога большай часткай праходзіць у сне і праз яго, як у казцы ці фантастычнай гісторыі, адбываецца пагружэнне ў іншы свет.

### Іркуцк, яго цэнтр і саган-дайля

Іркуцк знаходзіцца так далёка, што выпадае са звыклай сістэмы каардынат: многія яго жыхары ніколі не бывалі ні ў Маскве, ні ў Санкт-Пецярбурзе, а арыентуюцца хутчэй на буйнейшыя рэгіянальныя цэнтры, такія, як Новасібірск.

Іркуцк падаецца крыху правінцыйным горадам, і калі для мясцовых жыхароў гэта нагода для скаргаў і планаў на магчымы пераезд, то для падарожніка — утульная, амаль хатняя атмасфера. Ад аэрапорта, які супастаўны па памерах з мінскім, да цэнтра толькі пятнаццаць хвілін на аўтобусе (праўда, ужо шмат гадоў збіраюцца будаваць новы, за гарадской рысай, ды ўсё ніяк не пачнуць). Дзверы ў аўтобусах тут адчыняюцца як у нас у метро — раз’язджаюцца ў бакі, а плаціць за праезд трэба калі выходзіш, а не калі заходзіш.

Цэнтр горада захаваўся зайздросна добра: ёсць тут і багатыя камяніцы, і цэлыя вуліцы ▸

драўляных дамоў з карункавымі разнымі ліштвамі, храмы розных стагоддзяў і канфесій, а да таго цікавы пласт савецкай забудовы. Разбурэнні Другой сусветнай вайны, натуральна, зусім незакранулі горад, чаго не скажаш пра лёсы іркуцян: на франты адсюль былі прызваныя каля 200 тысяч чалавек, а вярнулася толькі палова з іх.

Буратаў у Іркуцкай вобласці афіцыйна жыве толькі каля 3,5% ад усяго насельніцтва (прытым большая частка – ва Усць-Ардынскай Бурацкай акрузе, якая да 2008 года была асобным суб'ектам Расійскай Федэрацыі), але насамрэч у горадзе іх даволі шмат — прынамсі, так падаецца падарожнаму, які то тут, то там бачыць пазнавальныя рысы твару. Справа яшчэ і ў тым, што ў рэгіёне нямала змяшаных шлюбаў, а таксама прыезджых, якія не патрапляюць у статыстыку. Бурацкая культура тут не адчувае сябе малодшай ці другаснай. Наадварот, ёсць усведамленне сябе карэнным насельніцтвам, да якога далучыліся пазнейшыя хвалі перасяленцаў з Расіі і Усходняй Еўропы. Нямала сярод іх украінцаў і беларусаў, многія з якіх дагэтуль захоўваюць сваю нацыянальную ідэнтычнасць.

У цэнтры Іркуцка красуецца шыльда этна-кавярні «Беларуская глеба», адкрытай Сяргеем Глебцам з клуба «Крывічы», які гуртуе мясцовых беларусаў. Тут можна пакаштаваць дранікі, бабку ды іншыя беларускія стравы, а падаюць іх у беларускім чорным керамічным посудзе, які адмыслова замаўлялі ў мінскай

### Бурацкая мова

адносіцца да сям'і мангольскіх моў. Бураты Іркуцкай вобласці карыстаюцца ёю дома, але выкладаюць яе толькі ў адзінкавых школах.
У размешчанай на ўсход ад Байкала Рэспубліцы Бурацыя бурацкая мова лічыцца дзяржаўнай — нароўні з рускай. У 2014 годзе Народны Хурал Рэспублікі Бурацыя, рэалізуючы скіраваную на русіфікацыю палітыку Крамля, пастанавіў, што неабавязкова вывучаць у школах абедзве дзяржаўныя мовы. Аднак адначасова быў прыняты закон па абароне бурацкай мовы. Цяпер клас з бурацкай мовай навучання павінен быць створаны нават для аднаго вучня, калі гэтага хочуць ягоныя бацькі. А педагогам, што вядуць бурацкамоўныя групы ў садках (такіх 109 на 345 садкоў), даплачваюць 15% да заробку.





Іркуцк — гандлёвы горад на рацэ Ангара непадалёк ад упадзення яе ў Байкал, заснаваны рускімі каланістамі ў XVII стагоддзі. Ён і сёння, пасля ўсіх палітычных зменаў, размешчаны па расійскіх мерках зусім недалёка ад мяжы: да Манголіі па дарозе тут 520 км і ўдвая меней, калі лічыць наўпрост. А да Пекіна ў два з паловай разы бліжэй, чым да Масквы.


Ліштвы ў Іркуцку.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY TOSHER

ганчарнай майстэрні. Акрамя таго, у горадзе працуе Іркуцкае таварыства беларускай культуры, даволі актыўнае. Тут чытаюць лекцыі па айчыннай гісторыі, спраўляюць традыцыйныя абрады, ладзяць майстар-класы па народных рамёствах.

Яшчэ адно «этнаграфічнае» месца, як, бадай, і ў кожным горадзе, — гэта рынак. У Іркуцку ён мае ўсходні каларыт за кошт вялікай колькасці кітайцаў, а таксама каўказцаў, жыхароў Сярэдняй Азіі і буратаў. Прадаюцца тут, акрамя пластыкавых пантофляў, кавуноў ды цукерак фабрыкі «Ангара», і рэчы больш нязвыклыя. Гэта, напрыклад, саган-дайля (тыбецкі рададэндран), якія заварваюць як гарбату. Ужо некалькі лісткоў даюць прыемны, крыху салодкі смак. Але галоўная асаблівасць напою — яго моцныя танізуючыя якасці, якім знаўцы аддаюць перавагу перад байхавым чаем і кавай.

### Іркуцкі беларускі клуб «Крывічы» дбайна захоўвае сваю мову і традыцыі

У Іркуцкай вобласці даволі шмат беларусаў. Яны траплялі сюды як палонныя пасля войнаў Вялікага Княства Літоўскага з Вялікім Княствам Маскоўскім. Пазней сюды высылалі паўстанцаў 1863–1864 гадоў. У пачатку XX стагоддзя каля 300 000 беларусаў выехалі ў Сібір, бо на радзіме зямлі не ставала, а тут яны атрымлівалі вялікія надзелы ў карыстанне. І нават праз дзесяцігоддзі не ўсе асіміляваліся, захоўваючы ў сёлах элементы беларускай этнічнай культуры, а дзе-нідзе нават мову. Мясцовым беларускім актывістам удавалася запісаць тут нават такія аўтэнтычныя беларускія спевы, якія зніклі ў самой Беларусі.



Больш пра тое, як беларусы траплялі ў Сібір і ў ёй абжываліся, можна прачытаць у артыкулах Андрэя Вашкевіча «Як ліцвіны заваёўвалі царам Сібір» (№ 11/2019 «Нашай гісторыі») і Галіны Кавальчук «З-пад Шчорсаў — у Сібір» (№ 1/2021).

Апошнюю чвэрць стагоддзя душой і маторам беларускага нацыянальнага жыцця ў Прыбайкаллі быў былы вайсковец Алег Рудакоў. Але ў пачатку гэтага года ён разам з жонкай Аленай Галанавай, продкі якой перасяліліся ў Сібір 100 гадоў таму, вярнуўся на радзіму, у вёску Бяздзедавічы Полацкага раёна. Цяпер яны спадзяюцца быць не менш карысным для беларускасці ў Беларусі.

## Плаціць за праезд трэба калі выходзіш, а не калі заходзіш

### Быць Еўропай

Адна з самых цікавых рэчаў, якія можна назіраць у Іркуцку, — гэта тое, як сібірскі горад ад стагоддзя да стагоддзя імкнецца адпавядаць еўрапейскім узорам. Нягледзячы на тое, што ён размешчаны глыбока ў Азіі, у ім жыве шмат нашчадкаў еўрапейскіх перасяленцаў, якія везлі сюды свой звыклы лад жыцця і архітэктурныя формы. У горадзе багата прыгожых драўляных дамоў з разнымі ліштвамі кшталту тых, што можна ўбачыць у нашых усходніх раёнах Гомельшчыны. Сярод іх на адной з бакавых вуліц стаіць двухпавярховая мураваная сінагога з XIX стагоддзя.

Ля цэнтральнай гарадской плошчы размясціўся неагатычны касцёл, дужа падобны да тых, ▶


AROMATY-TAYGI.RU

Саган-дайля.

▶ што можна пабачыць у мястэчках на захадзе Беларусі. Храм на вуліцы Сухэ-Батара, 1 быў пабудаваны ў 1881 годзе і ў царскія часы адносіўся, як гэта сёння ні дзіўна гучыць да Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Ягоныя інвентары і сёння захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Мінску, а мясцовыя вернікі цяпер дзеляць храм з арганнай залай.

## У цэнтры Іркуцка красуецца шыльда этна-кавярні «Беларуская глеба»

Іркуцк сёння, дарэчы, цэнтр Рыма-каталіцкай дыяцэзіі святога Іосіфа, самай вялікай па плошчы каталіцкай дыяцэзіі свету (тэрыторыя юрысдыкцыі — 9 960 000 км$^2$). А ўзначальвае гэтую дыяцэзію з 2003 года нашчадак беларусаў з-пад Браслава біскуп Кірыл Клімовіч.


INFPOL.RU

Ёсць у Іркуцку і свой гістарычны квартал — ідэальны кавалак старога горада, дзіўная сумесь мінскіх Траецкага прадмесця і Зыбіцкай. 130-ы квартал (такая за ім замацавалася назва) драўляны, частка дамоў тут аўтэнтычная і добра адрэстаўраваная, частка — наватворы і архітэктурныя фантазіі на тэму. Усё цалкам падпарадкавана гандлёва-рэстаранным патрэбам і турыстычнай сферы. Уражанне квартал пакідае супярэчлівае, тым больш што побач можна пабачыць цэлыя вуліцы з аўтэнтычнай драўлянай забудовай, якая часам косіцца і развальваецца на вачах. Але і тут не ўсё кепска: частка дамоў добра адрамантаваная, а да таго ж у горадзе будуюцца драўляныя двухпавярховыя дамы па праектах з XIX стагоддзя — з іх атрымліваюцца выдатныя офісныя будынкі, якія на першы позірк можна і не адрозніць ад «гістарычных» суседзяў.

### Позы

галоўны мясцовы фастфуд. «Позныя», дзе іх прадаюць, можна дзясяткамі ўбачыць па ўсім горадзе. Тут яны паспяхова канкурыруюць з шаўрмярнямі ды бургернымі. Позы найболей нагадваюць звыклыя нам хінкалі, толькі ўверсе цеста не сашчэплена, а пакінутая дзірка, з якой можна выпіць булён. Начынне вельмі простае — ялавічны фарш ды сечаная цыбуля.

Калі вам спатрэбіцца рэцэпт гэтай стравы, больш карэктныя вынікі можна атрымаць па назве «буузы». Гэтыя два словы азначаюць адно і тое ж, толькі апошняе больш дакладна перадае яго гучанне на бурацкай мове. Апошні час вядуцца спрэчкі пра тое, якім з двух словаў трэба карыстацца: больш звыклым ці больш фанетычна правільным. Адчыніліся нават «Буузныя», але «Позныя» пакуль відавочна пераважаюць. Хто б тут ні перамог, відавочна адно: бурацкая культура трывала прадстаўленая на кулінарнай карце рэгіёна, і мы, якія так і не дачакаліся ўласнага фаст-фуду, у гэтым сэнсе можам буратам толькі пазайздросціць.


FTOSIBIR.RU

**Касцёл у Іркуцку пабудавалі ў 1881 годзе.** Ён адносіўся да Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі, а яго інвентары і цяпер захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Мінску.

### Асфальт і рытуальная канавязь

І ўсё ж гэта «еўрапейскасць» выяўляецца выспай у велізарным моры нязвыклага і мала засвоенага ландшафту, які адкрываецца, варта толькі выехаць з Іркуцка. Дарога вядзе на поўнач, а да яе

**Дарогу з Іркуцка заасфальтавалі** толькі ў 2016 годзе.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

туляцца пасёлкі, заціснутыя паміж складкамі вялікіх голых пагоркаў. Дрэваў не відаць, людзей таксама мала, і падаецца, што зробленае чалавекам тут нядаўняе і часовае. Часткова гэта і сапраўды так. Дамы навокал з'явіліся пераважна ў XX стагоддзі, трывалую дарогу зрабілі тады ж, а заасфальтавалі толькі ў 2016 годзе.

Дамы тут пераважна драўляныя, платы і брамы высокія. Краявід даволі суровы, паўночны — часам яго расквечваюць маляўнічыя слупы-сэргэ. Абвязаныя каляровымі стужкамі, яны стаяць па адным ці па некалькі і адзначаюць святыя месцы для бурацкага шаманізму. У аснове гэтых слупоў — канавязь, тое, за што прывязвалі коней. Для падарожнікаў гэта толькі дэталі, якія робяць манатонны краявід запамінальным, для буратаў жа — важныя сакральныя месцы, ля якіх прынята пакідаць дробныя паднашэнні, найчасцей манеты.

### Чэрскі

Беларусу Яну Чэрскаму было ўсяго 18 гадоў, калі за ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў яго выслалі ў Сібір. Тут пад кіраўніцтвам двух старэйшых калег па высылцы, польскіх навукоўцаў, ён атрымаў адукацыю і ўрэшце стаў выбітным даследнікам прыроды Поўначы. Сярод іншага ён даследаваў і Байкал, за што іменем Чэрскага названы адзін з берагоў возера. Акрамя таго, у ваколіцах Байкала імя вучонага носіць шэраг горных вяршыняў — гара, камень, пік, вулкан — а таксама ледавікі. Сваім патронам Яна Чэрскага абрала і Іркуцкае таварыства беларускай культуры.



WIKIMEDIA COMMONS

## Бурацкі шаманізм — жывая з'ява

Бурацкі шаманізм — жывая з'ява, якую не здолелі знішчыць савецкія атэістычныя часы. Да пачатку XX стагоддзя сярод буратаў актыўна пашыраўся будызм, але ў аддаленыя раёны, такія як заходні бераг Байкала, ▶



**Слупы-сэргэ.** Многія расійскія бураты вызнаюць шаманізм.

BAIKAL-OLKHON.RU

ён не паспеў толкам прыйсці да прыходу савецкай улады. Гэта дапамагло закансервавацца мясцовым народным вераванням, якія сёння з'яўляюцца важнай часткай нацыянальнай ідэнтычнасці.

### Востраў памерлых

На паўдарозе мы перакусваем позамі і адпраўляемся далей, да берага Байкала, дзе мусім чакаць паром на востраў Альхон. Самы пачатак восені, але з навакольных гор дзьме моцны халодны вецер, таму Байкал выглядае не дужа гасцінна. Пра магутнасць гэтага ветру расказваюць розныя гісторыі — звычайна з дрэнным фіналам. Ён набірае моц знянацку і ў некаторых месцах можа дасягаць такой хуткасці, што здзьмувае людзей. Небаракі ў гэтых гісторыях гінуць, разбіўшыся аб скалы ці патануўшы ў возеры. Пра тое, што берагі Байкала і сапраўды небяспечныя, нагадваюць невялікія помнікі за сціплымі агароджамі, якія ставяць проста над стромкімі схіламі, звычайна каля берагоў, дзе загінулі рыбакі.

Згаданыя факты будзе да месца прыгадаць, плывучы на Альхон, самы знакаміты востраў на Байкале, вядомы таксама як востраў памерлых. Справа ў тым, што гэта месца лічыцца святым у бурацкім шаманізме. Сюды прыплывалі паміраць шаманы, а людзі да XX стагоддзя ніколі не сяліліся. Каланізацыя пачалася толькі ў савецкі час, калі тут з'явілася рыбалоўная арцель і некалькі пасёлкаў. З імі ж з'явіліся і некалькі могілак звыклага нам тыпу. На адных з іх да нашых дзён захаваліся паваенныя магілы ссыльных літоўцаў — некалькі год таму іх адзначылі традыцыйным літоўскім разным крыжам, аздобленым стужкамі ў колер нацыянальнага сцяга.



ФОТА ЖЫВІЛЕ ШЫКУЦЕ-КРАСКАЎСКЕНЕ, SVOBODA.ORG

**Традыцыйны літоўскі крыж у Іркуцку.** Пасля Другой сусветнай вайны з Літвы было дэпартавана каля 10 000 сем'яў: Сталіна не задавальнялі тэмпы калектывізацыі на новаатрыманых тэрыторыях.

Што да буратаў, якія складаюць тут большасць насельніцтва, то сярод іх доўга прынята было хаваць сваіх памерлых, проста прыкрываючы цэлы грудам камянёў. Гавораць, што і цяпер яшчэ ў пэўных месцах, парушыўшы камень, тут можна натрапіць на чалавечыя косткі.

## Альхон, самы знакаміты востраў на Байкале, адначасова і востраў памерлых, і востраў жывых

### Востраў жывых

Альхон — гэта не толькі ўнікальная прыродная экасістэма, але і вельмі цікавая чалавечая супольнасць. Варта толькі сказаць, што электрычнасць сюды правялі толькі ў 2005 годзе. Да гэтага абыходзіліся без яе, а пры вялікай патрэбе карысталіся генератарамі. Гэта азначае, што мясцовая супольнасць існавала ў такой ступені адарванасці ад свету, якую ў Еўропе цяжка ўявіць. У Іркуцк тады вяла даволі дрэнная дарога, а таму непасрэдна бывалі там

**Нават улетку вада ў Байкале халодная**: каля 9°.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

адзінкі. Астатнім жа не дужа і хацелася глядзець на вонкавы свет проста таму, што ён не быў нечым прывабным. Не было тэлебачання і інтэрнэту, каб распальваць жаданні спажывання і наведвання новых месцаў.

Гэта лёгка магла б быць гісторыя пра тое, як адкрыццё вялікаму свету прыводзіць да крызісу і разбурае закрытую супольнасць, але з Альхонам атрымалася не так. Крызіс прыйшоў туды значна раней, чым электрычнасць. Канец Савецкага Саюза азначаў і канец рыбзавода, адзінага мясцовага прадпрыемства. Пачалася эканамічная дэпрэсія, а разам з ёю і абвастрэнне сацыяльных праблем, асабліва звыклага сярод рыбакоў п'янства.

Паратункам аказаўся турызм, які стаў развівацца ў арганізаванай форме толькі з той жа электрычнасцю. Адкрылася першая аграсядзіба, якая мясцовымі была спярша ўспрынята негатыўна: яна прываблівала чужынцаў, гатовых цярпець доўгі пералёт і дрэнную дарогу, каб убачыць Альхон.

У гэтай гісторыі мела значэнне і гендарнае раздзяленне. Жанчыны лёгка ўключыліся ў сферу абслугоўвання, скіраваную на турыстаў, але для мужчын гэта аказалася вельмі цяжка. Людзям, які дзесяцігоддзямі займаліся рыбалоўствам і рызыкавалі жыццём на неспакойных байкальскіх водах, падавалася нязноснай неабходнасць ператварацца ў звычайную абслугу.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Уазікі-«буханкі»** — адзін з сімвалаў вострава Альхон.

Сітуацыю вырашыла ўсё большая патрэба ў кіроўцах — гэтай працай яны не грэбавалі. І зараз асноўным відам транспарту на Альхоне з'яўляюцца «буханкі» — старой мадэлі ўазікі, у якія могуць змясціцца восем пасажыраў. Яны развозяць людзей ад парома па адзіным тут бальшаку — пракатанай шырокай дарозе без усялякага пакрыцця, якую час ад часу раўняе грэйдар. Кожная «буханка» мае аднолькавы шэры колер і індывідуальную аздобу ўнутры, якая адпавядае густам кіроўцы. «Буханкі» сталі адным з сімвалаў вострава, з імі тут выпускаюць магніты.

Цэнтральны пасёлак Альхона — Хужыр, тут жыве каля 1 350 чалавек, больш як тры чвэрці ўсяго насельніцтва вострава. ▶

▶ Галоўная вуліца, працяг бальшака, мае шырыню, блізкую да мінскага праспекта Незалежнасці: прастору тут не звыкліся эканоміць. Ад яе разыходзяцца лабірынты вулак, забудаваных драўлянымі дварамі, часам з вузкімі праходамі паміж імі. Бераг тут вельмі маляўнічы, высокі, пры ім з вады тырчаць скалы, і самая вядомая з іх — Шаманка, якая таксама шануецца буратамі. Перад ёю цэлы шраг слупоў сэргэ, абвітых стужкамі, — адзін з самых пазнавальных сімвалаў Альхона. Ніжэй бераг спускаецца да выдатнага пясчанага пляжа, вось толькі ахвочых купацца тут не так шмат: нават летам вада ў Байкале вельмі халодная. Знакамітая яе чысціня — не міф. Калі правесці рукою па дне, то яна цалкам захоўвае сваю празрыстасць: глею зусім няма, і бачна, як кожная пясчынка ападае на дно.

### Людзі ў запаведніку

Увесь Байкал, разам з Альхонам, пасёлкам Хужыр і нават руінамі рыбзавода пры ім з'яўляюцца часткай Байкальскага запаведніка. Для мясцовых жыхароў гэта стварае велізарныя праблемы. Уваход у лес забаронены — ходзяць туды нелегальна. Усё смецце трэба арганізавана вывозіць з вострава на вялікую зямлю, і мясцовыя плацяць за гэта каля 10 USD за кубаметр. Усе без выключэння будматэрыялы тут прывазныя. А да таго ж адміністрацыя запаведніка спрабуе абмежаваць колькасць турыстаў, якія наведваюць востраў, і нават выступала з прапановай цалкам забараніць туды ўезд. Зразумела, што гэта спроба захаваць унікальнае асяроддзе, але ж відавочна і тое, што патрабуецца нейкі баланс і разумны дыялог. Атрымліваецца ён не дужа, бо мясцовыя ўлады падпарадкоўваюцца Іркуцку, адміністрацыя запаведніка — Маскве, а для далёкай сталіцы праблемы менш як дзвюх тысяч мясцовых жыхароў падаюцца малазначнымі і далёкімі.

Затое супрацьстаянне запаведніку ці не ўпершыню з'яднала мясцовых жыхароў, якіх раней вельмі падзяляла



Лежня байкальскіх нерпаў.

WIKIMEDIA COMMONS



WIKIMEDIA COMMONS

**Байкальская эпішура** — маленечкі (да 1,5 мм) рачок, дзякуючы якому вада ў Байкале такая чыстая.

**Калі правесці рукою па дне Байкала, вада цалкам захоўвае сваю празрыстасць: бачна, як кожная пясчынка ападае на дно**

### Байкальскія эндэмікі

Унікальнасць байкальскай экасістэмы праяўляецца, сярод іншага, у тым, што ў мясцовай фаўне прысутнічаюць жывёлы-эндэмікі, то-бок такія, якія нідзе ў свеце больш не сустракаюцца. Найбуйнейшы з іх — байкальская нерпа, своеасаблівы від цюленя. З рыбы толькі тут водзяцца такія віды, як байкальскі омуль, байкальскія бычкі, галамянкі, шыракалобкі ці жаўтакрылкі. Акрамя таго, на дне Байкала зафіксаваныя больш за два дзясяткі эндэмічных відаў круглых чарвякоў, а таксама толькі тут жыве рачок эпішура.

Прыбайкальскія лясы ды палі — адзіныя месцы, дзе яшчэ водзяцца такія віды сысуноў, як баргузінскі собаль і альхонская палёўка.

З флоры толькі на берагах Байкала растуць такія расліны з сямейства бабовых, як альхонскі астрагал і зундукскі капеечнік. Акрамя таго, тут адзначаецца такая ўнікальная прыродная з'ява, як «хадульныя дрэвы» — сосны і лістоўніцы з агаленымі каранямі, якія могуць складаць у вышыню да 2–3 метраў. Агаленне каранёў адбываецца на пясчаных глебах пры выдзіманні ветрам ці вымыванні вадой з-пад іх пяску.

прызнанне ці адмаўленне неабходнасці развіцця турызму. Яны пачалі клапаціцца пра развіццё інфраструктуры, наладзілі рэгулярны вываз смецця, спрабуюць сачыць за тым, каб яно не валялася пасля турыстаў у найбольш папулярных пунктах, каб пазбегнуць новых канфліктаў з запаведнікам.

Жывуць на востраве не толькі людзі, але і жывёлы: рысі, зайцы, лісы, на якіх тут ніхто не палюе. Воды Байкала багатыя рыбай, самай вядомай з якіх з'яўляецца омуль. Рыба гэта лічыцца знакамітым байкальскім ласункам, хоць афіцыйна яна знаходзіцца пад пагрозай вымірання. Тым не менш пакаштаваць яго магчыма. На смак ён і сапраўды адрозніваецца ад звычайнай белай рачной рыбы тым, што мяса яго надзвычай тлустае.

Байкал папулярны ў турыстаў з самых розных краін — каля скалы Шаманкі можна сустрэць разам японцаў, немцаў ці палякаў. З гэтай моўнай разнастайнасці таксама пры жаданні можна атрымаць перавагі. Сын гаспадара сядзібы, дзе мы жылі, просіць крыху паразмаўляць з ім кожнага замежнага турыста, які ў іх гасціць, на ягонай мове. Так на пачатковым узроўні ён вывучыў ужо сем моў, і спіс гэты расце, а практыка ёсць ці не штодня.

Турысты едуць на Байкал круглы год. Частка возера паміж Альхонам і найбліжэйшым да яго берагам называецца Малым морам. Узімку яно замярзае і ператвараецца ў вельмі роўны каток з цалкам празрыстым лёдам, куды прыязджаюць катацца на каньках. Едуць сюды і шаманы. Праўда, не паміраць, як раней, а праводзіць штогадовы **тайлган** — маленні, на якія з'язджаюцца шаманы з Іркуцкага края і Забайкалля.

Кожны знаходзіць тут свае сэнсы і зместы. Многія — незалежна ад веравызнання — гавораць пра сакральнасць гэтага месца, пра тое асаблівае адчуванне, якое яно дае. Хто б і як ні спрабаваў бы схапіць гэта ў словах, рэчаіснасць — тое, што бачыць вока, — нязменна большая, чым яны. Памяць пра перажыванне гэтай прыгажосці, магчыма, найлепшы падарунак, які можна прывезці з сабою з гэтага далёкага краю. ◆

Аўтар удзячны арганізатарам **Байкальскай міжнароднай школы сацыяльных даследаванняў** за адзін з самых плённых тыдняў у сваім жыцці. Гэты тэкст — прыемнае вяртанне ў тыя вераснёвыя дні на Альхоне.



**Галоўны шаман вострава Альхон** Валянцін Хагдаеў.

ФОТА АРКАДЗЯ ЗАРУБІНА, WIKIMEDIA COMMONS



# Народ ідзе, як мак цвіце

**Пра забароненую кветку піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Многія чытачы яшчэ памятаюць такі рытуал: на Бедную Куццю (дзень перад Раством) мама ці тата бярэ спецыяльную церніцу і доўга, можа нават гадзінамі, трэ ў ёй мак. Аж пакуль не выступіць салодзенькае белае малачко. Тады яго разводзяць вадой, сыплюць цукар і кідаюць туды маленькія абаранкі-сушкі. Гэта цудоўная страва так і называлася — мак, яе разлівалі па кубках і елі на дэсерт. Многія дзеці чакалі Куццю менавіта дзеля гэтага прысмаку!

Сёння за сакавітыя чырвоныя кветкі ля дома і нават за мак-відук (самасейку) пагражае вялікі штраф. А раней кожны гаспадар меў свае макавыя пасадкі. Калі мак выспяваў, яго зжыналі, звязвалі ў снапкі, абвязвалі галоўкі, каб не высыпаліся зярняты, падвешвалі дасыхаць, а затым выстуквалі ўсе зярняты і ссыпалі ў торбачкі. А яшчэ раней спрытныя дзеці абрывалі макавыя каробачкі і аб'ядаліся жменямі мяккаватых зярнятак...

## Першая культурная расліна?

Даследчыкі мяркуюць, што мак мог быць першай раслінай, якую людзі пачалі культываваць. І не столькі з-за смаку ды пажыўных якасцяў, колькі з-за снатворнага і наркатычнага ўздзеяння няспелага насення.

Аднымі з першых вырошчваць мак пачалі шумеры (старажытны народ, які жыў на землях сучаснага Ірака). Вельмі рана пазнаёміліся з макам і ў Еўропе: археолагі знайшлі насенне і каробачкі маку ў Альпах у пластах каменнага веку.

А далей мак узняў бялявыя
сцяблiны,
На iх як быццам рой рассеўся
матылiны,
Трапечучыся крыльцамi, —
у iх мiгценнi
Гарацъ вясёлкi ды каштоўныя
каменнi —
Такiм багаццем колераў мак
позiрк клiча.

**Адам Мiцкевiч. «Пан Тадэвуш»**
*(пераклад Пятра Бiтэля)*



Егiпецкi папiрус 1550 года да н. э. называе насенне маку выдатным супакаяльным сродкам. А крыта-мiнойская цывiлiзацыя бронзавага веку ўжывала сумесь малака, мёду i макавага (опiумнага) соку, каб супакойваць немаўлят. Гэтак i ў нас, дарэчы: для лепшага сну немаўлятам таўклi мак з цукрам, насыпалi ў анучку i давалi смактаць.

Дзiўна, што мак анiводнага разу не згадваецца ў Бiблii, «якая называе амаль усе рэчы». Праўда, некаторыя вучоныя-бiблеiсты менавiта мак схiльныя бачыць у безымяннай «кветцы польнай» («цыц ха-садэ») у кнiзе Iсаi (Iс. 40, 6): «Кожная плоць — трава, i ўся краса яе — нiбы кветка польная» (пераклад Васiля Сёмухi).

Нашы продкi славяне рассмакавалi мак недзе 1500 гадоў таму падчас уварванняў за Дунай, у Рымскую iмперыю. Слова «мак» — агульнае для ўсiх славянскiх народаў. Яно роднаснае старажытнагрэчаскаму *μήκων*, старажытнаверхненямецкаму i саксонскаму *maho, mâgo* i, як лiчыцца, узыходзiць да нейкай са старажытных моў Малой Азii.



**Барэльеф з палаца цара Саргона II** (каля 722–705 гады да н.э.), якi захоўваецца ў Луўры, сведчыць, што асiрыйцы пакланялiся маку з рэлiгiйнай пашанай.

А вось у сучасным лiтоўскiм слове *aguona*, мяркуюць, даўней было пачатковае *m*, якое потым адпала.

## Макавая магiя

Мак здаўна выкарыстоўваўся ў розных магiчных абрадах. Людзей заварожвала колькасць макавых зярнятак, тое, што iх немагчыма пералiчыць! Сапраўды, у адным граме зярнятак iх змяшчаецца каля 3 350 штук, а ў шклянцы — без малога паўмiльёна!

Таму, напрыклад, краi палеткаў беларусы даўней стаpалiся абсеяць макам, каб ураджай быў такiм жа багатым, шматлiкiм. А ў засуху асвячоны ў царкве мак-вiдук высыпалi ў раку або ў калодзеж, каб выклiкаць «множанне» вады. Рабiлi гэта найчасцей да ўсходу сонца, як правiла старыя жанчыны, удовы, дзецi або агульнапрызнаны «шчаслiвы чалавек». ►

**Мак** (лац. *Papaver*)
род травянiстых раслiн сямейства макавых. Сцябло вышынёй у 30–60 см, кветкi часцей за ўсё чырвоныя, але бываюць рознага адцення, плод — каробачка. Сустракаецца ва ўмеранай, субтрапiчнай i радзей у халоднай клiматычных зонах. Большасць вiдаў маку расце ў стэпах, паўпустынях i пустынях, на камянiстых схiлах гор. У Беларусi сустракаюцца тры дзiкарослыя вiды маку: аргемона (*Papaver argemone*), няпэўны (*Papaver dubium*) i мак-самасейка, цi вiдук (*Papaver rhoeas*). Растуць як пустазелле на палях, каля дарог.



▶ Мак выкарыстоўвалі і для аховы ад сурокаў і злых духаў: лічылася, што нячысцік пачне лічыць зярняткі рассыпанага маку, але абавязкова саб'ецца з ліку і не давядзе злы намер да канца. Калі нябожчык сніўся сваёй сям'і, то мак рассыпалі наўкола хаты або на падлогу ці вакол магілы.

## Макавыя прыказкі

**Камары мак таўкуць** — гаворыцца тады, калі насякомыя мітусяцца клубком: прыкмета, якая абяцае пацяпленне пасля паласы халоднага дажджлівага надвор'я.
**Адзін дзень мак, а другі так** — калі ў хаце нішчымніца, недаяданне.
**Зялёны мак калаціць** — пераліваць з пустога ў парожняе, рабіць працу без выніку.
**Рассыпацца дробным макам** — лісліва дагаджаць каму-небудзь.
**Народ ідзе як мак цвіце** — пра людзей у святочным адзенні.
**Гаварыць як макам сыпаць** — пра надта хуткую, неразборлівую гаворку.
**Спаць быццам маку наеўшыся** — пра моцны, беспрабудны сон.

## У шклянцы — паўмільёна зярнят!

Каб чараўнікі не маглі нашкодзіць карове, якая ацялілася, яе паілі вадой з соллю і макам, таксама абсыпалі макам і абсейвалі ім абору. Каб усе «малочныя» чары былі марнымі, першы раз выганяючы кароў у поле, пракрапілі вымя асвячоным макам і сыпалі самародны мак на дарогу, па якой ганялі статак. Пры гэтым верылі, што вядзьмарчына карова не зможа перайсці праз мак і, равучы, паверне назад, пасля чаго ў яе прападзе малако ці ў ім з'явяцца чарвякі.

Забаронамі і забабонамі быў абстаўлены пасеў маку. Каб пасевам не чынілі шкоды птушкі, мак сеялі, як і збожжа, увечары, калі птушкі ўжо паснуць. Да таго ж сявец мазаў сабе рукі асвячонай саланінай або заечым тлушчам. Але нельга было сеяць мак пад месяцам — бо будзе цвісці пустым. З гэтай жа прычыны пры пасеве нельга было размаўляць. На гэты конт нават існавала прымаўка: «Сядзіць ціха, як мак

### Мак на агародзе

Наш агарод з аднаго боку Міронавага саду, а Санькаў — з другога. На Санькавым агародзе непралазны гушчар маку-самасею. Цётка Марфешка, полючы грады, заўсёды шкадуе яго рваць. Вясной маку не відаць, але потым, набраўшыся сілы, ён глушыць агуркі, памідоры, бульбу і капусту. У час цвіцення на нашай вуліцы няма прыгажэйшага агарода, чым Санькаў. Ён гарыць чырвоным полымем.

Калі мак паспявае, яго галоўкі шамацяць на ветры, і з акенцаў, што ўтвараюцца пад шапачкамі макавак, рассяваюцца па зямлі дробныя чорныя зярняткі. Мабыць, з-за гэтага маку ў Санькі і прозвішча такое — Макавей.

Іншы год цётка Марфешка збірае маку амаль цэлы пуд. Але заўсёды мы выходзім на збор ураджаю раней за яе. Мы з Санькам не чакаем, пакуль макаўкі высахнуць і пачнуць шамацець, а рвём, калі яны крыху пажаўцеюць. Адкруціш адну галоўку, абкалупаеш зверху брыжкі, і церушы сабе чырванаватыя зярняты на далонь.

Калі хапае цярпення, іх можна назбіраць цэлую жменю. А тады ўжо ўсе адразу ў рот. Лепшага смаку і не знойдзеш!

Санькавай маці нашы вылазкі ў агарод не вельмі падабаюцца. Звычайна, прагнаўшы нас старым дзеркачом, яна доўга крычыць услед, што мы — саранча, што ад нас махалам не адмахаешся, што Санька дулю цяпер з'есць, а не корж з макам.

Праз некаторы час, калі мы вяртаемся ў двор, яна пачынае нам расказваць розныя жахі. З яе слоў выходзіць, што мак — самая небяспечная рэч на свеце. Калі яго наесціся багата, можна заснуць і не прачнуцца. Як Санька быў малы, дык крычаў дзень і ноч. Думалі, надарвецца, давалі макавы адвар, каб заснуў. Але колькі давалі? Адну кропельку. Мы з Санькам слухаем ды хмыкаем самі сабе. Дай нам зараз маку па цэлым рэшаце, дык мы не тое што не заснём, а нават не задрэмлем.

*Іван Сяркоў.*
*«Мы з Санькам у тыле ворага»*


DEPOSITPHOTOS.COM, BY EALISA

На касцельных лавах часта выразалі стылізаваныя галоўкі маку, які сімвалізаваў уваскрашэнне.

засеяўшы», «Маўчыць, як мак засеяўшы».

**Макавей**

Паколькі мак можа выклікаць сон або галюцынацыі, людзі звязвалі яго з іншасветам. Верылі, што мак можа прадракаць будучыню. Дзяўчаты на Каляды або на Купалле, сеючы мак вакол калодзежа, прасілі ў маку расказаць праўду пра суджанага. Напрыклад, дзяўчына ў начной сарочцы тройчы аббягала вакол калодзежа і раскідала мак (імітавала мноства патэнцыйных жаніхоў), потым ішла ў дом і, ні з кім не гаворачы, клалася спаць, каб сасніць жаніха.

## Калі нябожчык сніўся сям'і, мак рассыпалі вакол магілы

Выкарыстоўваўся мак і ў памінальных абрадах. Напрыклад, яго клалі ў куццю, лыжку якой павінен быў узяць кожны з прысутных. У радзінных песнях спявалі, што бабка-павітуха носіць парадзісе «маку, каб было да смаку». У калядных песнях «мачок у клеці» быў адной з прыкмет багацця гаспадара, а «кошычак маку» давалі калядоўшчыкам.




Мак новага ўраджаю было прынята асвячаць у царкве на Макавея. Гэтае свята завецца яшчэ Макавым, або Мядовым, Спасам і адзначаецца 14 жніўня, прытым толькі праваслаўнымі. У гэты дзень з макам (як і з мёдам) пяклі бліны, смажылі сырнікі, гатавалі варэнікі і іншыя стравы. Таксама з тоўчанага маку гатавалі маканіну, у якую мачалі розную выпечку. Асвечаным макам абсыпалі ўсё, што магчыма: дом, падворак, хлеў, свойскіх жывёл, ваду ў калодзежы. Да вадаёмаў нярэдка ладзіліся крыжовыя шэсці. Мак у гэтых абрадах, з аднаго боку, прываблівае дастатак, дабрабыт, з іншага — адводзіў ад сем'яў і ўсёй грамады злыя чары.




**Макотра, або макацёр** — посуд, які сярод іншага выкарыстоўваўся і для расцірання маку.

**«Не ўрадзіў мак, пабудзем і так»**

На Куццю, святочную посную вячэру напярэдадні Божага Нараджэння, мак прысутнічаў на стале ў розным выглядзе. Часта яго дадавалі ў саму куццю, разам з разынкамі, мёдам. Ім пасыпалі сушкі, сліжыкі, булачкі. Таўклі і гатавалі поснае макавае «малако».

Нашы продкі лічылі, што нельга аблізваць таўкач, якім трэцца мак, бо тады будуць кусаць камары (шматлікія, як мак) або «мужык будзе лысы». Забаранялася таксама есці мак пры шыцці бялізны, бо ў ёй «завядуцца вошы». ▶

Самае моцнае ўздзеянне на арганізм чалавека аказвае мак снатворны, ці опійны, які ў нас не расце. Ён культывуецца пераважна ў Азіі: Кітай, Індыя, краіны Сярэдняй Азіі, Афганістан. З няспелых каробачак гэтага маку атрымліваюць опіум, які выкарыстоўваецца для вырабу абязбольвальных і снатворных медыцынскіх прэпаратаў, а таксама моцных наркотыкаў.

▶ Стратэгічная спажывецкая каштоўнасць маку не надта вялікая. Беларуская прыказка іранічна заўважае: «Сем гадоў мак і кроп не радзілі, а голаду не было». І яшчэ адна, падобная: «Не ўрадзіў *мак*, пабудзем і так». Гэта праўда: абысціся без маку няцяжка. Але мы ўсё адно яго любім.

У наш час для кулінарных патрэбаў вырабляецца і прадаецца спецыяльны кандытарскі мак. Гэта спелыя зярняты, якія прайшлі адмысловую дадатковую апрацоўку. Такі мак амаль не ўтрымлівае апіятаў (наркатычных элементаў) і складаецца прыкладна на 77% з тлушчаў, на 13% з бялкоў і на 10% з вугляводаў.

Галоўны сучасны вытворца насення нізкаапійнага маку для кандытарскіх патрэбаў — Чэхія, тут штогод збіраецца каля 28 тысяч тон яго насення. Далей ідуць Турцыя (18 тысяч тон), Іспанія (13 тысяч), Венгрыя (9 тысяч) і Францыя (5,7 тысячы), а таксама Славакія, Германія, Харватыя, Аўстрыя і чамусьці Палесціна. Звяртае ўвагу безумоўнае агульнае лідарства краін былой Аўстра-Венгерскай імперыі. Цяжка гэта патлумачыць нечым іншым, як толькі гістарычнымі традыцыямі. Менавіта ў гэтым рэгіёне здаўна добра ўмеюць мак і вырошчваць, і выпякаць з ім розныя рагалікі, прэтцэлі, бейгелі і да т. п.




**«Сырамак»**

Шкада, што Мінск не выкарыстаў шматгадовую папулярнасць «сырамаку», фірмовага дэсерту з тварагу і маку сеткі кандытарскіх «Салодкі фальварак», якая існавала ў 1999–2017 гадах. Ласунак, створаны мінскімі кандытарамі, шмат гадоў трымаўся ў топе папулярнасці і паклікаў да жыцця нямала перайманняў. Пры належным маркетынгу ён мог бы стаць брэндавым мінскім далікатэсам, кулінарнай візітоўкай горада. Але, на жаль, сышоў у нябыт разам з установай, якая яго культывавала.




**Пунсовы мак з заклікам «1939–1945. Ніколі зноў»** у апошнія гады стаў папулярным сімвалам памяці пра Другую сусветную вайну ва Украіне і Беларусі.

## Сімвал памяці

Чырвоны мак (мак-самасей, або відук) пасля Першай сусветнай вайны зрабіўся сімвалам памяці па палеглых падчас яе жаўнерах. Упершыню такі сімвалізм прагучаў у вершы канадскага ваеннага лекара Джона Маккрэя «На палях Фландрыі» (1915). А пасля вайны амерыканка Мойна Мішэль апантана папулярызавала гэты вобраз і прапанавала прадаваць штучныя макі, г. зв. *Remembrance poppy* з паперы або шоўку, каб на сабраныя грошы дапамагаць інвалідам і ветэранам. Звычай аказаўся вельмі трывалым і да сёння распаўсюджаны ў англамоўных краінах.

Верагодна, гэтая традыцыя аказвала ўплыў і на польскага паэта Фелікса Канарскага, жаўнера арміі пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса. У ноч з 17 на 18 мая 1944 года на заключным этапе славутай бітвы за Монтэ-Касіна ў Італіі ён напісаў патрыятычны верш пад назвай «Чырвоныя макі на Монтэ-Касіна». Іншы жаўнер, кампазітар Альфрэд Шульц, адразу ж напісаў музыку, і так нарадзілася знакамітая песня.

І нават у СССР вобраз маку як сімвала памяці пра палеглых знайшоў сваё ўвасабленне. У сярэдзіне 1970-х на эстрадзе з’явілася песня «Макі» ў выкананні Эдуарда Хіля, аўтарамі якой былі ўдзельнікі вайны паэт Грыгорый Пажанян і кампазітар Веніямін Блантэр. У песні ўспамінаюцца баі ў Севастопалі, у якіх браў удзел Пажанян. Песня набыла немалую папулярнасць, асабліва пасля таго, як у пачатку 1980-х яе ўключыў у свой рэпертуар Юрый Антонаў, напісаўшы і іншую музыку.

З нядаўніх часоў у нашым рэгіёне вобраз маку атрымаў новае жыццё. Пунсовы мак

**«Чырвоныя макі на Монтэ-Касіна»** ў выкананні мужчынскага хору аркестра Польскага радыё. 1964 год.





**«Макі»** ў выкананні Юрыя Антонава.

## Віленскія сліжыкі

**Інгрэдыенты:**
- 0,5 кг мукі
- шклянка цёплага малака (вады)
- 4 лыжкі алею
- шчопаць солі
- 30 г дражджэй
- шклянка сухога маку (ці трохі менш)
- 100 г цукру
- мука для падсыпкі

Дрожджы перамяшаць з паловай цукру, малаком і шклянкай мукі. Пачакаць, пакуль атрыманая маса падымецца.

Пасля падняцця дадаць да ранейшай рошчыны астатнія інгрэдыенты, вырабіць гладкае цеста і зноў чакаць, пакуль яно падымецца. Маса цеста мусіць павялічыцца ўдвая.

Порцыі цеста сфармаваць у тонкія валікі таўшчынёй ва ўказальны палец. Парэзаць на прыблізна сантыметровыя кавалачкі, абваляць у муцэ і скласці на бляху, выкладзеную паперай для выпечкі. Пячы 15–20 хвілін пры тэмпературы 18 градусаў.

з заклікам «1939–1945. Ніколі зноў» стаў альтэрнатыўным папулярным сімвалам памяці пра Другую сусветную вайну ва Украіне і Беларусі. Цікава, што ў Кітаі гэты самы вобраз лічыцца, наадварот, абразлівым: ён нагадвае кітайцам пра «опіумныя войны», якія Англія вяла ў XIX стагоддзі, каб прымусіць кітайцаў зняць абмежаванні на імпарт опіуму, які масава вырабляўся з маку ў Брытанскай Індыі. ◆

Больш пра мак і іншыя беларускія расліны можна даведацца ў Фэйсбук-суполцы «Сімвалічны свет беларускіх раслінаў», якую адмініструе аўтар гэтага артыкула.



## Польская макоўка (*makówka*)

**Інгрэдыенты:**
- 300 г перацёртага (можна ў кававым млынку) маку
- 1 літр паранага малака
- цукар (на смак)
- 50 г разынак без костачак
- 1 бохан белага хлеба
- цэдра лімона ці апельсіна
- каля 50 г грэцкіх арэхаў

Узяць перацёрты мак, дадаць у яго на смак цукар, трохі цэдры, разынак і заліць малаком. Затым старанна ўсё перамяшаць да атрымання аднароднай масы. З нарэзанага лустачкамі белага хлеба выкарыстоўваецца толькі мякіш, скарынка абразаецца.

Потым бярэцца глыбокая і пажадана шырокая талерка. На дно ўкладаюцца шчыльна складзеныя адна да адной лустачкі хлеба, а на іх — пласт перацёртага маку. Далей чаргуем пласты, хлебны і макавы. Завяршыцца ўсё павінна макавым пластом. Тое, што атрымалася, зверху можна ўпрыгожыць кавалачкамі сухафруктаў, какосавай стружкай, цёртымі грэцкімі арэхамі, ягадамі і да т. п.

Пасля атрыманую страву пэўны час трэба патрымаць у халадзільніку, каб хлебныя пласты добра прамоклі малаком і макам.



1PLUS1.UA

Старая хата **на былым хутары Увязак.**

# «Прыйшлі ноччу, завялі за пуню...»

ФОТА З АРХІВА СТАНІСЛАВА БЛАЖЭВІЧА

## Крымінальная Лепельшчына пачатку 1920-х гадоў

**Пасля таго, як сто гадоў таму заключэннем Рыжскай мірнай дамовы афіцыйна скончылася польска-савецкая вайна, некалькі гадоў у некаторых рэгіёнах Савецкай Беларусі мясцовыя жыхары мусілі пастаянна азірацца на людзей са зброяй. Крыніцы таго часу адзначаюць шматлікія выпадкі антыбальшавіцкага супраціву і звычайнага бандытызму. А ў многіх выпадках увогуле было складана адрозніць палітычную партызанку ад простага крыміналу. Піша краязнаўца з Лепельшчыны Валерый Тухта.**

### У Домжарыцкіх балотах

На мяжы цяперашніх Лепельскага і Барысаўскага раёнаў ёсць вялікі балотны масіў пад агульнай назвай Домжарыцкія балоты. У 1925 годзе яны будуць уключаныя ў склад Бярэзінскага дзяржаўнага запаведніка. А ў першыя гады савецкай улады гэтыя балоты разам з прылеглымі да іх ляснымі гушчарамі сталі надзейным прытулкам для тых, хто па розных прычынах працягваў трымаць зброю ў руках.

Раней сярод старажылаў вёсак, што месцяцца на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка, часта можна было сустрэць згадку пра нейкага атамана Сямёна. Удзельнік антыбальшавіцкай партызанкі падчас польска-савецкай вайны, пасля канчатковай перамогі бальшавікоў ён разам са сваім атрадам схаваўся ад іх у мясцовых лясах ды балотах. Ва ўрочышчы Смоленка, на адным з астравоў, атуленых з усіх бакоў непраходнаю багнаю, быў створаны паўстанцкі схоў, адкуль рабіліся вылазкі.

Памагатым у Сямёна быў нейкі Якуб, пра якога дакладна вядома толькі тое, што ён быў з мясцовых хутаран. Магчыма, дзякуючы

ягонаму знаёмству з мясцовасцю атрад доўгі час і заставаўся няўлоўным.

Высачыць і ліквідаваць «антыбальшавіцкае гняздо», па словах мясцовых старажылаў, уладам удалося пры дапамозе жонкі Якуба, якая, баючыся мужавай лютасці, — казалі, што ён «пазваляў бандзітам іздзявацца над ёй», — збегла з атрада і паведаміла пра яго месцазнаходжанне чырвоным.

Якуба і іншых захопленых удзельнікаў гэтай групы пасля расстралялі ў Барысаве. А вось сам атаман Сямён з часткай атрада здолеў выратавацца. Як склаўся ягоны лёс далей, застаецца загадкай. Жыхар Домжарыц Станіслаў Блажэвіч казаў, што ён нібыта ўцёк у Польшчу, але інфармацыю пра тое меў толькі з пазнейшых чутак, бо сам нарадзіўся праз дзесяцігоддзе пасля падзей, у 1933 годзе. Так казалі яму бабуля, маці ды іншыя аднавяскоўцы.

Па іншай версіі, пачутай у барысаўскай вёсцы Сялец, дзе таксама згадвалі пра атрад пад кіраўніцтвам Сямёна, большую частку яго людзей пастралялі ў вёсцы Кветча, а схованка бандытаў знаходзілася на хутары Увязак, размешчаным у глухім куце Домжарыцкіх лясоў, за некалькі кіламетраў ад ракі Бярэзіна. З гэтага хутара, перабраўшыся на супрацьлеглы бераг ракі, нібыта самым кароткім шляхам выпраўляліся ў Польшчу па дэфіцытны тавар мясцовыя кантрабандысты.

## Бітвы на хутарах

З разгромам «сямёнаўцаў» праблема, аднак, цалкам не знікла, па лясах і балотах паранейшаму хадзілі ўзброеныя людзі. І насельніцтва ад іх моцна цярпела. Палітычны фактар




**Знаўца мясцовай гісторыі з Домжарыц Станіслаў Блажэвіч** распавядае пра бандытаў.

у дзейнасці такіх людзей калі напачатку і прысутнічаў, то з часам сышоў на нішто, і яны займаліся толькі рабаваннем.

Частымі ахвярамі нападнікаў былі хутаране, чые дробныя надзелы былі раскіданыя на невялікіх грудках пасярод балот. Нярэдка сяляне забіраліся ў такія глухія мясціны, што дабрацца да іх можна было толькі праз насыпаную па балоце грэблю.

Рабуючы іх маёмасць, ліхія людзі маглі не баяцца хуткай рэакцыі з боку ўладаў, бо тыя нават не заўсёды ведалі, што робіцца ў лясной глухмені.

Таму людзі бараніліся як маглі, самі. Напрыклад, як жыхар хутара Чагалі Каранеўскі. Ягоная сядзіба размяшчалася на беразе лясной рачулкі Гурба, прытоку Бярэзіны. Ад нечаканых начных гасцей ён бараніўся самапаламі, набітымі кавалкамі металу. Як толькі ля хутара заўважалі незнаёмых асоб, праёмы вокнаў у хаце Каранеўскага ашчэрваліся стваламі самаробных стрэльбаў. Сам гаспадар сядзеў, пакурваючы цыгарку, у любую хвіліну гатовы падпаліць ад яе конты самапалаў. Аднойчы бандыты паспыталі смак каранеўскага «пачастунку» і пасля таго ўжо больш не рабілі спробаў турбаваць адчайнага хутараніна.

Але не кожны мог і ўмеў так самаахвярна адстойваць сваю ўласнасць. Бандыты дзейнічалі ▸



**Урочышча Смоленка**, дзе размяшчаўся штаб бандыцкага атамана Сямёна.

▶ вельмі дзёрзка і нападалі там, дзе іх не чакалі. Тады паратунку не было і за сценамі хаты, якую ў літаральным сэнсе бралі штурмам. У якасці тарана карысталіся бервяном, якім выбівалі сцяну паміж аконнымі праёмамі, і такім чынам залазілі ў жытло.

У Бярэзінскім запаведніку і сёння яшчэ добра бачныя сляды старой насыпной дарогі, якую ў народзе называюць «Лапцёўка». Тапонім гэты — адгалосак таго неспакойнага часу. Згодна з паданнем, па гэтай дарозе зладзеі вадзілі прадаваць кароў, якіх кралі ў хутаран. А каб тыя іх не пачулі і адначасова па слядах не здагадаліся, дзе дзелася жывёліна, яны абувалі ёй на капыты лапці.

Рабункі не заўсёды чынілі чужыя людзі. Сярод абвінавачаных тады ў бандытызме было нямала жыхароў мясцовых вёсак і хутароў. Нехта далучаўся да бандаў пад прымусам, хтосьці рабіў гэта добраахвотна. А хтосьці бандытам проста дапамагаў. Каралася гэта строга. У 1929 годзе за саўдзел у бандытызме быў расстраляны жыхар хутара Нешкава пяцідзесяцігадовы Іван Няхайчык. А іншыя хутаране, Пятро і Настасся Хадасевічы, атрымалі па тры гады высылкі.

## Бандыцкая воласць

Неспакойна было ў пачатку 1920-х гадоў у ваколіцах Валосавічаў. Цяпер вёска Новыя Валосавічы — цэнтр аднайменнага сельсавета ў Лепельскім раёне, за 18 кіламетраў на поўдзень ад Лепеля. А ў той час яна была цэнтрам Валосавіцкай воласці Барысаўскага павета. Гэта тая частка Лепельшчыны, якая ад пачатку ўваходзіла ў склад Савецкай Беларусі, у той самы час як астатняя тэрыторыя да 1924 года належала да РСФСР.

Тэрыторыя воласці была вялікая: цяпер на тым самым абшары месцяцца ажно тры сельскія саветы. А жыло тут больш за дзесяць тысяч чалавек. Гэта быў лясны край па абодва берагі ракі Эса, самыя аддаленыя паселішчы знаходзіліся за 20–25 вёрстаў ад валаснога цэнтра. Такія прыродныя ўмовы спрыялі безуладдзю.

У мясцовым валасным ваенкамаце адказную пасаду займаў Віктар Дзёмка. Быў ён тутэйшы, меў ад нараджэння трыццаць год. У 1921 годзе ён бясследна знік: аднога дня



**Лясная рэчка Гурба**, на беразе якой знаходзіўся хутар Чагалі .

ФОТА ВАЛЕРЫЯ ТУХТЫ


Заявление
гражданки хут. Липинское Волосовичской
Екатерины Григорьевны Крыцкой,
данное от бандитов 25 июня 1922 года

1) Екатерина Григорьевна Крыцкая
2) хут. Липинское Волосовичской волости.
3) Платок большой головной суконный — 10 р.
Ботинок 2 пары 1 мужские, 1 жен — 10 р.
Костюм мужской — 30 р.
Женский сак — 20 р.
2 одеяла и 2 простыни — 15 руб.
Холста, фабричного 18 арш. — 4 р.
Самодельного сукна 9½ ар. — 5 руб.
Два головных платка — 2 руб.
Четыре сорочки мужских рубах — 8 руб.
две кальсоны — 5 руб.

Фрагмент вопісу прадметаў, **забраных бандытамі ў сям'і Кірыла Крыцкага.**

не з'явіўся на працы і больш яго ніхто не бачыў. А праз нядоўгі час па наваколлі пайшла пагалоска пра банду Дзёмкі, якая налічвала ад 15 да 20 чалавек. Шматлікія паведамленні, якія паступалі ў валаснае праўленне, сведчылі пра вялікую актыўнасць з боку бандытаў.

У штаце ж валаснoй міліцыі знаходзіліся тады толькі чатыры міліцыянеры. Натуральна, такой мізэрнай колькасцю немагчыма было эфектыўна супрацьстаяць арганізаваным і добра ўзброеным бандам, што дзейнічалі на вялікай тэрыторыі.

Улады мусілі ўводзіць фактычна надзвычайнае становішча. У маі 1922 года ў воласці была ўведзена забарона на ўсе мерапрыемствы пасля дванаццаці гадзін ночы, агнястрэльную і халодную зброю насельніцтву загадалі здаць у трохдзённы тэрмін. Жыхары мусілі паведамляць уладам пра з'яўленне бандытаў. А для падтрымання парадку ў воласці кіраўніцтва ў сваіх пастаянных зваротах у павятовы выканкам настойліва прасіла прыслаць узвод чырвонаармейцаў.

Урэшце для каардынацыі дзеянняў у Валосавічы летам 1923 года быў накіраваны ўпаўнаважаны па барацьбе з бандытызмам, супрацоўнік ГПУ БССР Ліпонскі. Але гэта не надта дапамагло. У ноч з 16 на 17 чэрвеня ля мястэчка Валосавічы была зроблена аблава, якая скончылася безвынікова, нягледзячы на тое, што падчас аперацыі было скарыстана аж 75 ружэйных патронаў.

У наступныя дні напады і рабаўніцтва толькі ўзмацніліся.

## З успамінаў унука Кірыла Крыцкага Івана Крывалапа, 1936 года нараджэння

На хутары Рэпішча жылі мае дзяды Крыцкі Кірыл і Кацярына Рыгораўна. Калі сталі ссяляць з хутароў, дзед быў за гэта. Але многія не хацелі ссяляцца. Утварыліся банды. Дзеду сталі прысылаць запіскі, каб ішоў у банду важаком. Але ён не згаджаўся. У адзін час прыйшлі ноччу, завялі за пуню і кулю ў лоб. Не знаю, дзе дзед пахаваны. Назаўтра цэлая рота салдат прыйшла, прачасалі лес ажно да Нешкава. Але не знайшлі нікога.

23 чэрвеня быў абрабаваны жыхар хутара Ямск Адольф Жахоўскі, у якога сярод іншага адабралі залаты бранзалет коштам 50 рублёў. А яшчэ праз два дні на хутары Ліпінскае быў забіты старшыня Вастраўскага сельсавета Кірыл Крыцкі. З сабой рабаўнікі забралі жаночае і мужчынскае адзенне, паўтара пуда сала, два кумпякі і сем кружкоў кілбас на агульную суму 142 рублі.

Крымінальная хроніка працягвала папаўняцца і ў наступныя месяцы. Ноччу з 17 на 18 верасня паміж вёскамі Далікі і Іван-Бор быў пабіты бандытамі лясны вартаўнік Пётра Зубовіч, які пасвіў коней. У яго адабралі стрэльбу-бярданку. А ў ноч з 19 на 20 спалены хлеў уладальніка хутара Тоні Людвіга Качаноўскага з усім складзеным у ім хлебам, а таксама здзейснена забойства ў вёсцы Падбрусы за 9 вёрстаў ад Валосавічаў. Былі забітыя муж і жонка Садоўскія, а адна дзяўчына параненая.

Толькі ў наступным, 1924-м, годзе сітуацыю ўдалося ўзяць пад кантроль. Банда Дзёмкі, як мяркуецца, сышла ў Польшчу. Пасля таго выпадкі злачынстваў у воласці сталі рэдкімі. ▶

## Скарбы Піліпёнкаў

Недалёка ад вёскі Валатоўкі сучаснага Лепельскага раёна месціўся хутар братоў Піліпёнкаў. Піліпёнкі арганізавалі банду і нейкі час трымалі вялікую акругу, ажно да вёсак Велеўшчына і Цярэшкі, у пастаяннай напрузе. Без іх удзелу не адбывалася аніводнага святочнага застолля. Як толькі пачуюць, што недзе пагулянка — адразу тут як тут. І нікога ды нічога не баяліся, адчуваючы сваю беспакаранасць. Але апроч таго, займаліся яны яшчэ і рабаўніцтвам, таму трапілі ў поле зроку ўладаў. Каб выкурыць Піліпёнкаў з іх гнязда, спатрэбілася выклікаць салдат, бо тыя былі ўзброеныя не толькі вінтоўкамі, але і кулямётам. Ніхто з братоў сам не здаўся, таму ўсе былі перабітыя. А іх багацце — нарабаваныя рэчы і золата — яшчэ доўга не давала спакою мясцовым жыхарам, якія марылі адшукаць патаемную схованку бандытаў.

## Вока за вока, зуб за зуб

У тыя неспакойныя часы благая слава кацілася далёка па наваколлі таксама пра бандыцкія шайкі ў Гарадчэвіцкай воласці Лепельскага павета. Нават на начлег сяляне з вялікай неахвотай пускалі да сябе ў хату незнаёмых, асабліва калі даведваліся пра тое, што яны з тых неспакойных краёў. У кожным спадарожніку ім бачыўся злачынец.

Асаблівую вольніцу зладзеі адчулі ў першыя гады савецкай улады. У вёсцы Людчыцы невядомай бандай быў забіты апошні з мясцовых паноў. Аднак злачынства не засталося беспакараным, бо забойцаў схапілі мясцовыя мужыкі. У той час яны, страціўшы надзею на дапамогу ўладаў, нярэдка чынілі самасуд, бароначы сваю маёмасць. Падзеі, якія пры гэтым разгортваліся, былі вельмі драматычныя.



ФОТА ВАЛЕРЫЯ ТУХТЫ

**Павел Маляўка з вёскі Лазовікі** Лепельскага раёна яшчэ памятае, што расказвалі пра банду братоў Кулевічаў.




Схема Лепельскага раёна, на якой пазначаныя **тэрыторыі, дзе дзейнічалі банды.**

Так, аднойчы ў пагоню за рабаўнікамі кароў кінуліся жыхары вёскі Пунты. След прывёў у вёску Міцькаўшчына, што месцілася на беразе ракі Ула. Тут жылі вядомыя рабаўніцкімі здольнасцямі браты Кулевічы. Пунтаўцы здолелі адшукаць падземны ход, які вёў ад берага ракі да падвала ў хаце, там яны і знайшлі доказы злачынства, учыненага Кулевічамі. Расправа была жорсткая.

Але не менш жорсткай была і помста зладзеяў. Вядомы выпадак, калі яны аднойчы адплацілі жыхарам вёскі Зорніца за тое, што тыя забілі аднаго з іх таварышаў. Увосень, дачакаўшыся, калі з поля будзе сабраны ўраджай, бандыты запалілі вёску, палова хат згарэла.

Спатрэбілася некалькі гадоў, каб скончыўся пасляваенны бандытызм і бандытаў палавілі. ◆

# Клыбаты, Бац, Пісунчык і Рамэліха

## *Амаль страчанае майстэрства трапных мянушак*

**Раней беларусы ніколі не называлі адзін аднаго па прозвішчы. Замест гэтага — ты чый? Прыналежнасць да сям'і, роду скажа пра цябе больш, чым тваё імя. Які бацька — такі сын, піша журналіст з Гродна Яўген Лебедзь.**

Напісаць пра нашыя мянушкі вырашыў пасля сёлетняй Радаўніцы. Ідзеш па вясковых могілках, чытаеш на помніках: Варган, Салавей, Пішчык, Юшкевіч, Урбановіч, Гусоўскі... Быццам бы пазнаеш твары на медальёнах, але разумееш, што гэтыя прозвішчы не былі на слыху ў дзяцінстве, калі бавілі лета на вёсцы. А звалі так усіх па мянушках:

*— Ты чый?*
*— Пецікаў!*
*— О, ну то добры чалавек.*

Вясковыя мянушкі могуць атрымлівацца ў спадчыну ці давацца канкрэтнаму чалавеку па пэўных рысах характару ці ладзе жыцця. А пасля такая індывідуальная мянушка можа стаць і спадчыннай.

### Зосечкі, Пецечкі і Лявончыкі

Успомніць, як звалі аднавяскоўцаў, дапамог мне мой бацька Генік. Яго з братамі і сёстрамі ў Рудзе Яварскай Дзятлаўскага раёна (пра гэту вёску ўжо было ў № 12/2020 «Нашай гісторыі», калі я пісаў пра традыцыю сенавання) дражнілі Зосечкамі — па маёй прабабе Зосі. А нас, ўнукаў, называлі Пецечкамі па дзеду Пятру. Ад дзеда Лявона пайшла сям'я Лявончыкаў, а дзяцей і ўнукаў бабы Зіны называлі Зінечкамі. І так было з паловай вёскі.

Мішка Гандзін (сын Ганны), Іван Тодаркаў (унук Тодара), Стась Бараноў (ад дзявочага прозвішча маці), Казік Бронікаў (сын Браніслава), Броня Казмеркава (Браніслава, дачка Казіміра), Іван Марціначкаў (ад дзеда Марціна), Мікалушка (ад дзеда Мікалая), Цімафейчык (ад дзеда Цімафея, вельмі заможнага селяніна).

### Невушасты Вушач і фанабэрысты Граф

Сям'ю па прозвішчы Чарняк называлі Чарнюкі, а гаспадыню — Чарнючыха.

Сівы — рана пасівеў.

Немец — бо баба пасля вайны выйшла замуж за немца.

Турак — таксама па дзеду і яго заморскіх прыгодах.

Бабу Ярашыху так называлі, бо ў яе было прозвішча Ярош.

Каля аўтобуснага прыпынку жыла цётка Дзягцевічыха — яе бацька Юзік (звалі Юзічак) выцягваў дзёгаць са смалы.

> У вёсцы так было адвеку:
> Калі дасціпнае імя
> Прышпіліць нехта чалавеку —
> То не здзярэ і смерць сама.
> І дзеці выростуць і ўнукі
> Пад гэтым імем — цэлы род
> Яго без крыўды, без дакукі
> Адносіць сто гадоў і год!..
>
> *Ніл Гілевіч*

Адсюль і пайшло: Дзёгаць — дзягцяр — Дзягцевічыха.

Жылі на Рудзе Яварскай Бароўскія, якіх называлі Бацы. Можа, вы не ведаеце, што ў многіх беларускіх дыялектах бац — тое самае, што пац, пацук, шчур.

Вушач не меў вялікіх вушэй, але атрымаў мянушку ў спадчыну ад дзеда. Дарэчы, быў у вёсцы і проста Дзед — так называлі аднаго мужчыну, які ажаніўся вельмі позна, пад 50 гадоў.

Быў на вёсцы Граф, а чаму яго так дражнілі, ёсць некалькі версій: меў шмат зямлі ці выглядаў фанабэрыста, калі ішоў па вёсцы. Затое ягоны бацька быў адным з трох франтавікоў на ўсю Руду Яварскую. Дагэтуль чырвоная зорачка вісіць на закінутай хаце.

### Беларускія бразільцы

Цікавым чалавекам быў Валодзя Варган, якога называлі Кульбачка, бо хадзіў гарбаты з сагнутай шыяй. Едзем з дзедам на возе, насустрач — Кульбачка. ▶

Ён майго дзеда называў на манер бразільскіх мыльных опер не Пятром, а Пэдрам. Ці стаім на мосце, бачым, едзе Кульбачка на ровары:

— Здрасьце, дзядзька Валодзя!

— Добрага здароўечка, джэнтльмены, — заўсёды адказваў дзядзька.

Крыху адступлю ад асноўнай тэмы, але згадаю, што напрыканцы 90-х вёска дурэла ад бразільскіх серыялаў. Мой стрыечны дзед Валодзяката назваў Фарына. Я доўга не мог уцяміць, адкуль ён пачуў гэта, пакуль не ўбачыў, як старыя стараліся адрабіцца да 19-й гадзіны, каб пасля сесці перад «Гарызонтам» глядзець чарговую серыю.

## Маёр без пагонаў і Мазоль з мазалямі

Цікавым і смешным быў чалавек Адам, але з-за нізкага росту які ён Адам?.. Толькі Адамка! Тое ж самае Аркадзь — Аркадзік, Ігнат — Ігнаська.

Жыў на вёсцы Фэлік Маёраў. Ніякай прыналежнасці да вайсковай службы яго бацька не меў, але заўсёды хадзіў у хромавых ботах, нібы «ў ахвіцэра», і вельмі любіў танчыць: ставіў нагу на крэсла і круціўся вакол на адной назе.

На скрыжаванні жыў Пісар. Імя і прозвішча яго не ведалі — Пісар ды Пісар, вёў нейкія папяровыя справы і перапісваў насельніцтва. Мішка Рыжы меў прозвішча Святліцкі, але з-за рудой галавы ніхто ніколі Святліцкім яго не называў. Іншай яго мянушкай была Камендант вуліцы: у хату на скрыжаванні збіраліся ахвочыя выпіць. Не хата, а штаб!

Стасік Аладка, які ці то любіў аладкі, ці то ў дзяцінстве цягаў іх з хаты. Стэфана, найлепшага на ўсю вёску самагоншчыка, называлі Люцік з-за малога росту, а ягоную высокую жонку — Кандыба. Цётцы балелі ногі, яна заўсёды іх перавязвала і паціху кандыбала па вёсцы.

Клыбатым дражнілі аднаногага мужчыну, які страціў нагу, узрываючы ў вогнішчы снарад. Яшчэ адна сям'я на шмат пакаленняў наперад атрымала ад дзеда мянушку Заяц, Зайцамі называлі ўсіх: ад старога да малога.

Пан — проста багаты чалавек з незлічонай колькасцю вуллёў. Чалавека з мазалямі на руках так і называлі Валік Мазоль. Вяскоўца Івана звалі Канаплянікам, бо ён вырошчваў каноплі і прадаваў іх.

Чалавека, які званіў у званы ля царквы, называлі Сэндзя. Тут адгадваецца нейкая старая, за польскім часам, показка, бо «сэндзя» па-польску — гэта суддзя.

Хлопца, якога маці да 5-га класа вадзіла ў школу за ручку, дражнілі Пісунчыкам.

Дзядзьку з прозвішчам Ламака, які круціў у клубе кіно, дражнілі Сапагом. Тут мянушка была ад знешняга выгляду: такі хамаваты, у кірзавых ботах, шапка заўсёды на баку. «Даставайце грошы, Сапог ідзе», — шапталіся дзеці, калі Ламака абілечваў людзей падчас сеансу і свяціў у вочы ліхтаром. У Сапага была жонка-настаўніца, якую баяліся дзеці, бо падчас занятка яна моцна біла вучняў.

Дзеці не заставаліся ўбаку і прыдумалі мянушкі настаўнікам. Фізіка дражнілі Піндалем, а біёлага — Бэбахам (бэбахі — то кішкі, вантробы, жывот, але таксама лахманы, рыззё).

## Трапятушка і Рамэліха

Насупраць хаты майго дзеда некалі жыла Волька Трапятушка. Жанчына ў любую пару бегала басанож і, седзячы на лаве, абівала з ног пясок ці снег.

Былі свае мянушкі і ў ахвочых да выпіўкі недарэкаў: Дзябдзік, Бэрка, Капка. Хлопцы працавалі за барыш і дапамагалі ўсёй вёсцы: каму пакасіць ці сена пасушыць, каму араць або дапамагчы свінню калоць. Але да старасці яны не дажылі — усіх трох заўчасна згубіў тэхнічны спірт, сумна вядомая незамярзайка «Максімка».

З суседняй вёскі Капці ў Руду пераехала Рамэліха і прыбілася да ўдаўца. Тут таксама цікавая этымалогія мянушкі. Аднойчы ў вясковай краме яна ганарылася сваімі любоўнымі адносінамі з дзедам і хвалілася: «Мы з маім Мішуком, як тыя Рамэла і Джульета». Так Рамэа ў яе інтэрпрэтацыі стаў «Рамэлам», а баба — Рамэліхай. Дарэчы, перажыла яна і свайго другога мужа, цяпер дажывае з сынам. ◆

**А якія незвычайныя мянушкі былі ў вашых мясцовасцях? Дасылайце ў рэдакцыю!**

Раскажыце нам пра вашу родавую вёску або дом, квартал у горадзе — для нашай рубрыкі **«Нацыянальная геаграфія»**.

У ёй ужо пісалі пра:
Калоднае, Столінскі раён;
Бершты, Шчучынскі раён;
Чыжоўскія могілкі, Мінск;
Унорыца, Рэчыцкі раён;
Трашчычы, Карэліцкі раён;
Мачуль, Столінскі раён.

## Амбасадарка мінулага

22 ліпеня памерла найстарэйшая з сучасных прадстаўніц роду Радзівілаў — Альжбета Тамашэўская. Ёй было 103 гады. З гэтай нагоды гісторык і экскурсавод **Цімох Акудовіч** піша ў сваім Тэлеграм-канале «Беларускі Бабілон».



«Пані Альжбета не нарадзілася ў Беларусі, у дарослым узросце бывала ў нас толькі некалькі разоў, прычым другі раз патрапіла сюды крыху выпадкова (за гэту выпадковасць мусім дзякаваць Глебу Лабадзенку). Беларускай сябе княгіня не называла, дый нічым асаблівым падчас вандровак па сваіх ваколіцах не адзначылася.

Чаму ж пра яе напісалі ўсе?



**Эльжбета Радзівіл з бацькам, Альбрэхтам Радзівілам** (1885–1935), перадапошнім нясвіжскім ардынатам.

Напэўна, таму, што Альжбета Радзівіл увасабляла сабой аскепак той гісторыі Беларусі, якую мы страцілі ў XX стагоддзі і па якой маем цяпер фантомныя болі ў той ці іншай ступені.

Маленькая дзяўчынка, якая сядзіць на балконе нясвіжскага замка не як турыстка ці прыслуга, а як гаспадыня. Сядзіць там, дзе да яе сядзелі дзясяткі ейных продкаў мінулых стагоддзяў, пра якіх мы чытаем у школьных падручніках, — гэта той «партал» у мінулае, які спрацоўвае на вельмі вялікую колькасць беларусаў.

Што самае цікавае (і каштоўнае), княгіня Альжбета магла і не быць такім «парталам». Гэта залежала ад яе. Дастаткова было адной фразы, каб мы развярнуліся і расчараваныя пайшлі па дамах. Што-небудзь пра родную Польшчу, няправільных беларусаў, правы на маёмасці...

Але Альжбета разам з Мацеем Радзівілам узялі на сябе місію несці гэты грааль гісторыі, якім ёсць для нас род Радзівілаў, і вельмі далікатна, але ўпэўнена прынеслі яго ў сучасную Беларусь.

Падаецца, атрымалася. Амбасадары мінулага ў нас з'явіліся менавіта ў вобразе Радзівілаў.

За што пані Альжбеце вялікі дзякуй. RIP».

## Памяці Варвары Кухарэнка

22 чэрвеня пасля працяглай цяжкай хваробы памерла гісторык Варвара Кухарэнка. Ёй было ўсяго 40 гадоў.

Варвара працавала на кафедры гісторыі заходніх і паўднёвых славян гістфака БДУ. На старонках нашага часопіса ў рубрыцы «Турыстычныя кірункі» друкаваліся яе артыкулы «Мужчыны для вайны, жанчыны для працы» (пра Чарнагорыю, № 1/2018) і «Майстры нагамёту» (пра Харватыю, No 1/2019).

Вечная памяць светламу, добраму чалавеку!



## «Латышы», «палякі»

Пісьменніца **Ірына Жарнасек** успамінае ў Фэйсбуку пра тое, як яе землякі з Глыбоччыны ў часы яе дзяцінства пакідалі радзіму і шукалі шчасця ў чужых краях:

«Яны зазвычай прыязджалі ўлетку. І тады ад вёскі да вёскі імгненна разносілася чутка, што да кагосьці завіталі госці Польшчы альбо Латвіі, вельмі рэдка — з Амерыкі ці Англіі. Гэтыя госці калісьці былі зусім не гасцямі, а жылі ў Гойдышаве, Гарнастаях, Вэйткаве, Гаравых... Жылі сабе, жылі ды потым адважна кінуліся ў вялікі свет шукаць лепшай долі. У Амерыку калі хто выехаў, то гэта было яшчэ за царом, у Англію некалькі чалавек з нашых ваколіцаў патрапілі з ваенных дарог, у Польшчу — пасляваенныя рэпатрыянты (так іх разумна назвалі ў падручніках гісторыі). Ну а ў Латвію з маёй Глыбоччыны шмат ірванула ўжо на маёй памяці, у 60-х. У падручніках пра гэтую з’яву хіба што не пісалі: не той маштаб.

У той час на калгасных палях красавалася “каралева палёў”, у крамах прадавалі кукурузны, а як па логіцы, то і адпаведна — каралеўскі хлеб. Тыя жаўтлява-рудаватыя боханы прадавачка дзяліла па спісах. У вясковай краме тады працавала наша Аля, ▶

ды толькі ад гэтага нам аніякага прывілею не было: надта ж ужо пільны быў улік і кантроль. Не памятаю, ці па спісах прадавалі кубінскі цукар з трыснягу.

Есці кукурузна-каралеўскі хлеб, нават пасыпаўшы яго цукрам, зусім не смакавала. Але калі нават і саладзілі мы штосьці трысняговым кубінскім цукрам, то ўсё адно гэта было трохі смачней за тую салодкую юшку, якую мама выварвала з цукровых буракоў у нашай печы. На той выпадак, калі ўжо не будзе ні звычайнага, ні трысняговага цукру.

Людзі ўвесь час чакалі, што можа быць яшчэ горай. Час ад часу гаспадыні сушылі сухары і берaглі іх у вялізных мяхах. Маладзейшыя пасмейваліся з гэтага, але старэйшыя, якія яшчэ добра памяталі апошнюю вайну, адно прыкрыквалі на іх. Бо чаго ад гэтых маладых разумнага чакаць? Як ёсць: маладосць — дурносць...

— А бліноў няма? — нудзіла я час ад часу, калі трэба было есці кукурузны хлеб.

— Дзе я вам набяруся бліноў? — уздыхала мама.

Але ж яна калі і пякла бліны, то ў будныя дні звычайна з абойнай мукі. Яны атрымліваліся шэрыя, калючыя — пракаўтнуць іх было цяжкавата. Не тое, што з петляванкі. Ды з петляванай мукі мама звычайна пякла бліны ў нядзелю альбо ў якое іншае свята.

Пазней, калі ўжо Хрушчова з ягонай "каралевай" не стала ва ўладзе, мужчыны пасмялелі ды прыпевачку пад чарку гарлалі:

Куба, аддай наш хлеб,
Куба, бяры свой сахар,
Куба, Хрушчова нет,
Куба, пайшла ты …

Спявалі, зубашчэрылі і гэтым ратаваліся. Заробкі ў калгасе былі — курам на смех. Куры з іх можа й пасмейваліся, а людзі то стагналі. Дык і пакідалі найбольш адважныя свае наседжаныя месцы ды найчасцей праз ноч ехалі цэлымі сем'ямі ў свет як у капейку. У Латвію найчасцей выязджалі без аніякіх дакументаў, бо вырваць іх з калгаса было нерэальна. А потым ужо, уладкаваўшыся ў латышскіх калгасах, уцекачы з дулінамі ў кішэнях заяўляліся ў нашу кантору па свае дакументы. І што ты тады ўжо з імі зробіш? Аддавалі, хоць і сціснуўшы зубы.

Засялялі нашых уцекачоў у Латвіі збольшага ў Цэсіскім ды Валміерскім раёнах, у дамах былых гаспадароў, якіх у саракавым у адну ноч "клапатлівая і самая гуманная ў свеце ўлада" вывезла ў няветлыя ды бяскрайнія прасторы Расеі-матухны.

Была я ў тых дамах. Прасторныя. Адразу бачна: заможныя людзі будавалі іх. Гаспадары. Часам нашых уцекачоў засялялі ў такі дом па дзве, а то і па тры сям'і. І нічога — хапала месца, не штурхаліся ды, як любіла казаць мая хросная, цётка Ганка, ср...мі адзін аб аднаго не цярліся.

Так і прыжыліся. А маладыя пажаніліся. І неўзабаве ў іхніх сем'ях з'явіліся Гунтарсы, Райвісы, Янісы... Дружба народаў, так бы мовіць...

Дык пачуеш раптам, пайшоўшы па карову ўвечары, што да кагосьці прыехалі "латышы" альбо "палякі", прыбяжыш дахаты, скажаш маме з татам — навіна ж! А то й да нас завітаюць: дзядзька Адам, цётка Ганка, дзядзька Гэнька. З сынамі, дочкамі, зяцямі... Гаварыць тады — не нагаварыцца!

А яны ж з гасцінцамі прыязджалі! Мая хросная як перадала, памятаю, для мяне адрэз на сукенку блакітнай у залацістыя кропачкі тафты, дык колькі гадоў вунь як фарсіла я ў ёй! А якія прыгожыя швэдры прывозілі з Латвіі! Выменены на нашу воўну. Яркія, паласастыя, у нас такіх тады свет аб'едзеш — не знойдзеш. Дык і прывозілі з-за свету. А мы потым фарсілі. Нават настаўніцы ў школе пыталіся, як нам удалося іх прыдбаць.

Ну а калі ўжо да кагосьці прыязджалі "палякі", то ў тую хату ішлі не толькі сваякі. Бо госці, зразумелая рэч, прывозілі сваякам гасцінцы, але ж і на продаж шмат чаго везлі, каб дарогу апраўдаць. Тады галоўнае не страляць варон, а забегчы каму наперад, бо, калі запознішся — адны выбіркі застануцца. А калі не праспіш ды пашчасціць штосьці прыдбаць, то ўжо ж тады не дачакацца той суботы, каб прыфранціцца ў абновачку ды заявіцца на танцы ў клуб.



**Рака Няміга ў мінскай Грушаўцы.** Лета 1920 года. У капелюшы — мастак Язэп Драздовіч. Фота Льва Дашкевіча.




Нам — абновачкі ад латышоў ды палякаў, а маме з татам — навіны пра жыццё ў Латвіі ды Польшчы. Дзіваваліся яны з таго жыцця і доўга пасля абмяркоўвалі. Бо як гэта — мець, напрыклад, некалькі кароў у той Латвіі? Яна ж нібыта гэтаксама, як і наша Беларусь, савецкая!?. Як гэта — мець удосталь для тых кароў пашы ўлетку ды сена ўзімку? Як гэта — жыць на хутары і мець там электрычнасць? Як гэта — штогод ездзіць адпачываць нашым «палякам», цётцы Моньцы ды дзядзьку Эдварду, на мора? Шмат што цяжка нам было зразумець з іхняга жыцця. Ды ўсё выглядала на тое, што лепшае яно ў іх — лягчэйшае ды цікавейшае.

Так казалі мама з татам. Ну, а мы... Мы настойліва не зайздросцілі ім. Прыгожыя швэдры ды сукенкі з тафты насіць то насілі, але не зайздросцілі! І я на ўсё жыццё зберагла ўдзячнасць свайму тату за тое, што не паквапіўся ён свойчас таксама выехаць — у Польшчу альбо Латвію. А як бы яно ўсё склалася, калі б усё ж адважыўся?.. Не магу сабе таго ўявіць».

## Згубленае і знойдзенае

Журналістка **Алеся Песенка** падзялілася ў Фэйсбуку натхняльнай гісторыяй, як у наш час зусім выпадкова і неспадзявана можна праз тысячы кіламетраў звязаць страчаныя нітачкі сямейнай гісторыі:

«На фота пасярэдзіне — мой прапрапрадзед Пятро Антонавіч Бузаноўскі. А на астатніх двух — яго малодшыя дзеці. Здымаліся ў Кургане ў 1905 годзе.

Гэтыя фатаграфіі трапілі ў сям'ю выпадкова. Мне нават здаецца, што нейкім цудам.

Пятро Антонавіч быў дваранін, нібыта ўдзельнічаў у паўстанні Каліноўскага, быў сасланы некуды ў Сібір, дзе працаваў машыністам цягніка.

Тады на форуме, прысвечаным генеалогіі, я напісала паведамленне, што шукаю пра яго інфармацыю. Прайшлі гады, і на пошту, пакінутую на ўжо забытым Богам форуме, прыйшоў ліст ад краязнаўцы з Омска. На мясцовым аўкцыёне прадавалася фатаграфія з подпісам, што на ёй Пятро Антонавіч Бузаноўскі. Палезлі з мамай глядзець — праўду ён. Даты і імёны дзяцей супадаюць з нашымі дадзенымі. Аказалася, што фатаграфіі былі канфіскаваныя ў ягонага малодшага сына ў 1938 годзе (Пятро Антонавіч ужо не жыў) пасляператрусу НКВД. Потым з архіва яны трапілі на продаж, краязнаўца загугліў імя і прозвішча, знайшоў форум і напісаў нам. Вось так прапрапрадзед, некалі высланы, вярнуўся дахаты».

## «Стэфан, кароль» і «Леў Сапега, пісар»

Гісторык **Дзяніс Лісейчыкаў** размясціў у сябе ў Фэйсбуку фрагмент архіўнага дакумента XVI стагоддзя, цікавы тым, што на ім побач стаяць подпісы дзвюх вядомых асоб нашай гісторыі: караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя (гл. пра яго артыкул Андрэя Скурко ў № 4/2019 «Нашай гісторыі») і тагачаснага каралеўскага пісара, а пасля вялікага літоўскага канцлера Льва Сапегі. Дакумент «пісан у абозе нашам пад Псковам року ад наражэня Сына Божага тысяча пятсот осмдзесят першага». І змацаваны пячаткай з дзяржаўным гербам Вялікага Княства Літоўскага — «Пагоняй». ◆







































**Пачынаючы з сакавіка 2021-га мы два дні на месяц прадаём часопіс у Рэдакцыі (Мінск, Энгельса 34а). Сачыце за графікам продажаў на nn.by і ў тэлеграме @nashaniva**

Па тэхнічных прычынах у Рэдакцыі часопіс прадаём толькі два дні на месяц, астатнія дні гэта не робіцца.

Шукайце часопіс таксама ў кнігарнях, гіпермаркетах, а таксама ў шапіках «Белдрука» Магілёўскай вобласці. Вось спіс кнігарань:

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, kniger.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.